ЛІТАРАТУРА
І МАСТАЦТВА

ЛіМ

ГАЗЕТА
ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ
БЕЛАРУСІ

24 кастрычніка 1997 г. № 43/3919 Кошт 3 000 руб.






# “...А ў духоўнага мяжы няма”

### 31 КАСТРЫЧНІКА Ў НАЦЫЯНАЛЬНЫМ АКАДЭМІЧНЫМ ТЭАТРЫ БАЛЕТА — ТВОРЧЫ ВЕЧАР ВАЛЯНЦІНА ЕЛІЗАР’ЕВА

***Талент — гэта наш галоўны нацыянальны здабытак. Менавіта так успрымаеш вестку пра святкаванне юбілею народнага артыста СССР, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі рэспублікі, мастацкага кіраўніка Нацыянальнага акадэмічнага тэатра балета Беларусі Валянціна Елізар’ева.***

*(Праця́г на стар. 10—11)*

*Фота Віт. АМІНАВА*

## ЛМ КОЛА ДЗЁН

***Падумаць толькі — усяго дзесяць гадоў таму адбыўся "гістарычны" пленум ЦК КПСС, на якім першы сакратар Маскоўскага гаркама партыі Барыс Ельцын выступіў з нечаканай крытыкай эканамічнай і палітычнай дзейнасці КПСС. Тады — усяго дзесяць гадоў таму! — кіруючая партыя яшчэ мела рэальную сілу. Сур'ёзную сілу. І пленум ачысціў шэрагі партыі ад першага высокапастаўленага апазіцыянера і тым самым расчысціў яму шлях у прэзідэнты Расіі. Але гэта было потым. А тады — усяго дзесяць гадоў таму! — ніхто і не думаў, што ў хуткім часе не стане ні той усемагутнай партыі, ні той велізарнай імперыі... Што такое для гісторыі дзесяць гадоў? Імгненне... Дык, можа, мы занадта нецярплівыя ў патрабаваннях да сваёй гісторыі, да нашай краіны, да саміх сябе, калі хочам, каб ужо сёння ў нас было ўсё "як у людзей", альбо, як кажуць, цывілізавана?.. Аднак, відавочна, дарогі назад, у "светлае мінулае", няма, як бы некаторыя ні падманвалі сябе ды іншых. Няхай марудней, чым суседзі, няхай азіраючыся назад, але беларусы будуць будаваць сваю дзяржаву. Сама хада гісторыі будзе вымушаць нас рабіць гэта. Нібыта і не сама па сабе, а "за кампанію" Беларусь стала незалежнай, застаецца і застанецца такой — і ў перспектыве ў выйгрышы абавязкова акажуцца тыя, хто зыходзіць у сваіх дзеяннях з гэтай рэальнасці і працуе на яе...***

### САМІТЫ ТЫДНЯ

22 кастрычніка ў Маскве адбылася сустрэча кіраўнікоў чатырох дзяржаў, якія ўваходзяць у мытны саюз — Расіі, Беларусі, Казахстана і Кіргізстана. Галоўная падзея саміту — перадача А. Лукашэнкам паўнамоцтваў кіраўніка "саюза чатырох" прэзідэнту Казахстана Н. Назарбаеву. Акрамя таго, пасля перамоў былі падпісаны шэраг важных, як лічаць прэзідэнты, дакументаў: аб развіцці мытнага саюза, аб адзінай эканамічнай прасторы і інш. А 23 кастрычніка ў Кішынёве сустрэліся прэзідэнты 11 краін СНД (туркменбашы з-за хваробы прыехаць не змог). Дагэтуль кожная новая сустрэча ў межах СНД толькі пацвярджала нежыццёвасць і часовасць новаўтварэння, а сотні падпісаных пагадненняў і дагавораў не "працавалі". А таму скептычна ацэньваюць аглядальнікі і вынікі гэтага саміту.

### ПАКАРАННЕ ТЫДНЯ

Чарговая акцыя апазіцыі — шэсце супраць голаду і галечы, якое адбылося 12 красавіка, — займела сваё "лагічнае" завяршэнне ў выглядзе судоў і штрафаў яго арганізатарам. Штраф у 30 мільёнаў рублёў спачатку атрымаў старшыня незалежнага прафсаюза металістаў М. Марыніч, а потым — старшыня Беларускага жаночага руху "Адраджэнне Айчыны", маці двух непаўналетніх дзяцей і на працягу ўжо чатырох гадоў беспрацоўная Т. Ваніна. Арганізатары шэсця прызнаны вінаватымі ў парушэнні некалькіх пунктаў прэзідэнцкага дэкрэта N 5, у прыватнасці, выкарыстання ўдзельнікамі акцыі незарэгістраванай сімволікі... Можна толькі пазайздросціць універсальнасці дэкрэта N 5 — правесці нават санкцыянаваны мітынг, не парушыўшы дэкрэт, не ўдалося пакуль нікому. Падобна на тое, што да гэткай жа "універсальнасці" прыведзены і прыняты ўжо парламентам у другім чытанні новы Закон аб друку...

### АДМЕЖАВАННЕ ТЫДНЯ

Самую працяглую дзяржаўную мяжу Беларусь мае з Украінай — прыкладна ў тысячу кіламетраў. Ды сёння яна чыста ўмоўная, бо дакладна вызначана толькі на буйнейшых дарогах. Але працу па яе дэмаркацыі ўжо распачалі спецыяльныя міжведамасныя камісіі. Братняя Украіна, услед за Прыбалтыкай, чамусьці аддзяляецца ад беларуска-расійскага саюза памежнымі слупамі.

### ЛІЧБЫ ТЫДНЯ

Таварыства беларускай мовы ўсур'ёз заклапочана тым, што колькасць беларускамоўных класаў у Мінску катастрафічна скарачаецца. Сёння ў сталіцы Беларусі толькі крыху больш за 7 працэнтаў першакласнікаў вучацца па-беларуску, у той час як у 1994 годзе ў пачатковых класах на роднай мове вучылася да 80 працэнтаў школьнікаў. Лічбы сведчаць пра моўную дыскрымінацыю відавочна, але ў адказ на гэта мы бясконца чуем тэзы пра свабодны выбар...

### ЧУТКА ТЫДНЯ

У беларускіх СМІ з'явіліся публікацыі пра тое, што памочнік прэзідэнта Беларусі С. Посахаў падаў А. Лукашэнку прашэнне аб адстаўцы. Прычым, калі ў адной незалежнай газеце сцвярджаецца, што прэзідэнт адстаўку прыняў, то ў другой, што адмовіў у ёй. Газеты залежныя гэтую тэму не абмяркоўваюць.

### АВАРЫЯ ТЫДНЯ

Прайшоў тыдзень пасля страшнага пажару, што адбыўся на буйной нафтабазе пад Фаніпалем, але за гэты час ні амаль міфічная Беларуская вызвольная армія, ні нейкая іншая арганізацыя не ўзялі на сябе адказнасць за яго ўзнікненне. Мусібыць, і сапраўды прычынай пажару стаў не тэракт, а безгаспадарчасць і звычайная халатнасць супрацоўнікаў нафтабазы. Дзякуючы аператыўным і мужным дзеянням пажарных з Мінска і вобласці агонь удалося хутка лакалізаваць і патушыць. Інакш мы маглі б мець рэальную экалагічную катастрофу.

### НАДЗЕЯ ТЫДНЯ

Прыгадваючы савецкія часы, даследчыкі найноўшай гісторыі абавязкова сцвярджаюць, што на Беларусі, у адрозненне ад іншых рэспублік СССР, а тым болей краін Варшаўскага дагавора, не было арганізаванага дысідэнцкага руху, не было змагання супраць камуністычнага ладу. З гэтым цяжка не пагадзіцца, бо калі і былі нейкія пачаткі супраціву, дык душыліся яны ў самым зародку і да турмаў ці гучных працэсаў, як у Летуве ці Украіне, а тым болей у Польшчы ці Чэхаславакіі, справа не даходзіла... Зусім іншая сітуацыя сёння. Выступленні апазіцыі маюць пастаянны характар. Сотні людзей па палітычных пераследаваннях "пабывалі" ў турме, дзесяткі і зараз там. Па масавасці цяперашні "дысідэнцкі рух" на Беларусі можна параўнаць хіба з польскім часоў "Салідарнасці" ў 80-х гадах. Ёсць і "свае" палітычныя эмігранты. Прычым рух гэты носіць свядома нацыянальны характар. З прыкладаў іншых краін мы ведаем, што калі падобны рух нараджаецца ў дзяржаве, знішчыць яго немагчыма. Рэпрэсіі ўлад супраць актывістаў будуць толькі дадаваць яму папулярнасці. І ў рэшце рэшт — гэты рух, нават нягледзячы на сваю ўяўную малалікасць, перамагае... Гісторыяй наканавана яму перамагчы — і гэта будзе перамога ўсіх беларусаў, нават тых, хто сёння з усіх сіл нацыянальнаму руху замінае....

---

ФЕСТЫВАЛІ

# Аншлаг гарантаваны

Сур'ёзныя прафесіяналы, сціплыя таленавітыя аматары... Пра іх часцяком не ведаюць нават у музыканцкім асяроддзі. А ўсё таму, што СМІ, прынамсі, тэлеэкранам, а значыць "грамадскай думкай" завалодваюць менш даравітыя, ды больш удачлівыя, а то й проста нахабныя.

"Нахабнікаў у эстрадным жанры хапае", — уздыхнуў маэстра Міхал Фінберг і абвясціў удзельнікам прэс-канферэнцыі, што новы фестываль ладзіцца дзеля сапраўдных музыкантаў, адданых свайму мастацтву, а не камерцыі.

Такім чынам, першы Беларускі фестываль эстрадных аркестраў пройдзе ў Мінску з 27 па 29 кастрычніка. Ініцыятары — Дзяржаўны канцэртны аркестр Беларусі на чале з народным артыстам М. Фінбергам. Фінансавая падтрымка — Міністэрства культуры. Месца правядзення — Клуб імя Дзяржынскага. Кошт білетаў на канцэрты?.. Білеты будуць толькі запрашальныя, і гэта гарантуе фестывальны настрой ды аншлаг.

Аж 24 калектывы ў ліку ўдзельнікаў! Гэта Аркестр Мінскага дзяржцырка (аналагічны калектыў з Гомеля чамусьці адмовіўся далучыцца да фестывалю); віцебскі "Дыксіленд"; гродзенскі "Капрыз", у складзе якога — толькі дзяўчаты; вакальны "Полацк-анімаквартэт"; біг-бэнд Мінскага музычнага вучылішча; магілёўскі джаз-ансамбль "Імпульс", Брас-шоу-ансамбль Беларускага інстытута культуры; Эстрадны аркестр культурна-асветнага цэнтра інвалідаў па зроку; баранавіцкі "Дыксіленд"; знакаміты сталічны калектыў "Няміга" ды інш.



Дзяржаўны канцэртны аркестр Беларусі будзе каштоўным вянцом гэтага музычнага свята.

Свята святам, а тым не менш падчас яго будуць вызначацца шля хі да вырашэння старых несвяточных праблем. Бо не ўсё ладна з адукацыяй эстрадных музыкантаў на Беларусі. Першыя досыць пільныя агледзіны таго, што маем, дазволяць вызначыць агульны ўзровень развіцця жанру эстраднага выканальніцтва ў розных яго формах, звярнуць увагу на сталыя таленты і перспектыўную моладзь, высвеціць хібы ў падрыхтоўцы музыкантаў, у фарміраванні канцэртных праграм. Выдатныя музыканты правядуць заняткі клас-клубаў: плануюцца такія сустрэчы з трубачом Валерыем Шчарыцам, трамбаністам Дзмітрыем Бударыным, гітарыстамі Сяргеем Анціпыным ды Уладзімірам Ткачэнкам, якія, да таго ж, класны аранжыроўшчык.

Урэшце, мае адбыцца... тайнае галасаванне, якім будуць вызначаны калектывы, вартыя запрашэння на традыцыйны Міжнародны джазавы фестываль, што пройдзе ў нашай сталіцы ў лютым. Своеасаблівае журы складуць кіраўнікі творчых калектываў, крытыкі і журналісты, якія пішуць пра жыццё музычнае. Так што ва ўдзельнікаў першага эстраднага фэсту ёсць выдатны творчы стымул.

А ў самога фэсту ёсць перспектыва: ён праводзіцца на дзяржаўнай аснове і пазначаны ў планах на год наступны...

**С. БЕРАСЦЕНЬ**

*Фота Віт. АМІНАВА*

---

# Пленэр у Плісе

***У мінулую нядзелю ў Плісе — мястэчку ў Глыбоцкім раёне, што на Віцебшчыне, распачаўся пленэр па жывапісе, прымеркаваны да Сусветнага Дня дзіцяці. Пленэр будзе доўжыцца з 19 па 31 кастрычніка, а праводзіцца паводле грамадска-палітычнай праграмы "Прадпрымальнікі — дзецям Беларусі".***

Ініцыятарамі пленэра з'яўляюцца шэраг айчынных арганізацый і прадпрыемстваў, сярод якіх закрытае акцыянернае таварыства "Нессі", міжнародны дзіцячы клуб "Свет вачыма дзяцей" ды некаторыя іншыя. У аргкамітэт, акрамя прадстаўнікоў камерцыйных структур, увайшлі таксама намеснік міністра культуры В. Гедройц і мэр Глыбокага В. Сініцкі. Такім чынам, праз спалучэнне прадпрымальніцкага капітала і падтрымкі згаданых ініцыятыў дзяржавай пленэр мусіць адбыцца на дастаткова прыстойным узроўні. Добрая справа знаходзіць разуменне паўсюдна.

Удзельнікамі пленэра будуць як вядомыя ў краіне мастакі (у Плісу завітаюць дванаццаць чалавек), так і дзіцячыя мастацкія студыі. Стасункаванне таленавітых дзяцей са сталымі майстрамі, хараство навакольных мясцін павінны стварыць спрыяльную творчую атмасферу. Аднак праграма пленэра далёка не будзе вычарпана толькі гэтым. У рамках яго адбудуцца выступленні салістаў аркестра М. Фінберга, іншых музычных калектываў, сустрэчы з мастакамі, паэтамі, артыстамі, святарамі, будуць наладжаны экскурсіі, а "Белкніга" запрапануе па базавых коштах дзіцячую мастацкую літаратуру...

Па заканчэнні акцыі адбудзецца выстава работ, створаных падчас пленэра.

Дарэчы, месца правядзення пленэра абрана адмыслова. Мерапрыемства ладзіцца паблізу Плісы, там, дзе на тэрыторыі колішняй вайсковай часці ўзводзіцца Нацыянальны фестывальна-турыстычны комплекс "Горад майстроў". Мяркуецца, што гэта будзе нешта падобнае да музейнай забудовы ў Дудутках. Аўтары праекта мяркуюць, што ў "Горадзе майстроў" будзе ажыццёўлена ідэя прадставіць усе віды рамёстваў, як нацыянальных, так і народаў іншых краін, да таго ж ёсць намер захаваць непарушнай прыроду гэтага краю. Менавіта гэта выклікае досыць вялікі сумнеў, бо складана пры здзяйсненні падобных грандыёзных праектаў не нанесці шкоды навакольнаму асяроддзю.

"Горад майстроў", узвядзенне якога каштуе каля 200 млн. долараў, не будзе чымсьці закансерваваным, тут мяркуецца пастаянна праводзіць разнастайныя мастацкія і музычныя фестывалі, пленэры, спартыўныя мерапрыемствы, экалагічныя сімпозіумы, канферэнцыі...

Пленэр па жывапісе стане першай буйной акцыяй у гэтым кірунку.

**Кірыла ПАЗНЯК**

---

# Куды ідзе сучасная моладзь?

На гэта пытанне паспрабавалі адказаць удзельнікі "круглага стала" "Праблемы і каштоўнасныя арыентацыі сучаснай моладзі", які адбыўся на мінулым тыдні ў рэдакцыі часопіса "Нёман". Вітаючы яго ўдзельнікаў, галоўны рэдактар Алесь Жук адзначыў: "Правядзенне такіх "круглых сталоў" па розных сацыяльна значных тэмах — даўняя традыцыя часопіса. Цяперашняя гаворка — аб духоўным здароўі моладзі, а значыць, аб нашай будучыні... Моладзь у значнай сваёй частцы страціла арыентацыі, ідэі, ідэалы. У душу ёй закладваецца долар, а не такія паняцці, як гонар, радзіма..."

Супрацоўнікі Цэнтра сацыялагічных і палітычных даследаванняў Белдзяржуніверсітэта Лідзія Новікава і Надзея Галубкова пазнаёмілі прысутных з вынікамі праведзенага даследавання сярод тысячы старшакласнікаў і навучэнцаў ПТВ наконт умоў іх першаснай сацыялізацыі.



Асноўнымі напрамкамі абмеркавання, якія акрэслілі сацыяльны партрэт сённяшняга старшакласніка і студэнта, сталі: адносіны ў сям'і, навучанне ў школе і ВНУ, падлеткавыя кампаніі, жыццёвыя каштоўнасці розных груп моладзі, вольны час і дадатковы заробак, палітычныя і эстэтычныя арыентацыі. У дыскусіі прынялі ўдзел прадстаўнікі Дзяржкамітэта па справах моладзі, Нацыянальнага інстытута адукацыі, Міністэрства ўнутраных спраў. Падрабязна з матэрыяламі "круглага стала" можна будзе пазнаёміцца ў адным з бліжэйшых нумароў "Нёмана".

**Генадзь АНУФРЫЕЎ**

МЕРКАВАННІ

# Развітанне італьянца з Расіяй

РАЗМОВА зусім не пра персанажа з калісьці надзвычай папулярнай кінакамедыі Эльдара Разанава. У тым сюжэце савецкая рэчаіснасць Расіі, куды некалькі італьянскіх прахіндзеяў прыехалі таемна шукаць схаваны графскі скарб, паказана хоць і даволі бязладнай, але вясёлай і не пазбаўленай перспектывы на будучыню. Цяпер не кіношны, а сапраўдны італьянец, які каля двух дзесяткаў гадоў пастаянна пражыў у Маскве, вярнуўся на радзіму і напісаў кнігу, што нядаўна выйшла ў Рыме пад недвухсэнсоўнай назвай "Развітваюся, Расія!"

Ну, напісаў, можна было б сказаць, дык што? Цяпер увогуле модна пісаць успаміны, балазе, попыт на дакументальную літаратуру значна ўзрос. Але гэтая кніга была адразу заўважана ў Заходняй Еўропе, вакол яе ўзнікла палеміка ў асяродку інтэлектуальнай эліты Масквы. Не дзіва: яе аўтар — шматгадовы маскоўскі карэспандэнт уплывовай італьянскай газеты "Ла Стампа", пісьменнік-публіцыст Джульета К'еза — даўно вядомы сваімі сімпатыямі да СССР і яго рэпартажы пастаянна цытавалі, а то і перадрукоўвалі за савецкім часам у такіх маскоўскіх выданнях, як "Известия", "Труд", "Литературная газета". За гады журналісцкай працы ў СССР ён аб'ездзіў шмат якія рэгіёны, займеў трывалыя знаёмствы з савецкімі палітыкамі, вучонымі, пісьменнікамі. Таму даследаванне найноўшай гісторыі Расіі, высновы, зробленыя італьянцам у развітальнай кнізе, яе першыя маскоўскія рэцэнзенты, у тым ліку акадэмік Мікіта Маісееў і доктар эканамічных навук Генадзь Лісічкін, пра водгукі якіх згадаем ніжэй, не схільныя лічыць павярхоўнымі, нейкімі кан'юнктурнымі ці прадузятымі. Тым болей крыўдна і балюча, кажуць яны, што да высновы, нібыта канец XX стагоддзя азначае для Расіі канец яе вялікай гісторыі, прыйшоў менавіта Джульета К'еза.

Нешта ў меркаваннях італьянца імкнуцца аспрэчыць, тым не меней зроблены ім аналіз маскоўскімі інтэлектуаламі ўспрымаецца вельмі сур'ёзна. Ды К'еза і не адзінокі ў сваіх прагнозах, зазначае, напрыклад, аналітык газеты "Труд", "усё часцей эканамісты з трывогай прадказваюць Расіі "аргенцінскі шлях", спаўзанне на ўзровень трэцеразраднай сыравіннай краіны, палітолагі з тым жа пачуццём гавораць пра бясконцыя разборкі крыміналізаваных гора-палітыкаў, якія абяскровілі краіну, вайскоўцы — аб развале арміі, бездапаможнасці абароны".

У кнізе К'езы яўна гучаць ноткі шкадавання па нядаўнім былым краіны, якая прэтэндавала на тытул "трэцяга Рыма", духоўнага ў пэўнай ступені спадкаемцы настрояў Рыма першага. Цікава, што ахоплены гэтым падвоеным настальгічным пачуццём, заходнееўрапейскі *дэмакрат нават перастае* заўважаць некаторую, так бы мовіць, імперскасць уласных настрояў.

Тым не меней... "Развітваюся, Расія!" — піша К'еза. Яго не надта суцяшае філасафічная развага, што гэта не апошні раз, калі краіны і народы знікаюць і не вяртаюцца. Вядома, пагаджаецца ён, Расія — не той выпадак, калі і вучоным пасля нялёгка згадваць гісторыю. Ад яе, заўважае ён, абавязкова "застанецца памяць, агромністая, як і яе ўклад у развіццё чалавечай цывілізацыі, як яе літаратура, тэатр і навука, як яе вайсковая магутнасць і бязлітаснасць, яе подласць і лютасць, як і некранутая, дзікая прыгажосць і геніяльная авантурная схільнасць да ўтопіі, што ператварылі яе ў лабараторыю гіганцкага трагічнага эсперымента. Толькі вялікі народ мог стварыць усё гэта адначасова".

К'еза, які, здавалася б, мог выдатна вывучыць савецкую рэчаіснасць, тым не меней моцна ўражаны, што "ўсё гэта памірае намнога хутчэй, чым можна было сабе ўявіць", што ўнутраная трываласць камуністычнага гіганта аказалася надзіва слабай. "Іншыя імперыі і цывілізацыі, — заўважае ён, — разбураліся стагоддзямі, губляючы аскабалкі сваёй велічы ў пыле часу. Але ў іхніх падданых быў час прыстасавацца да перамен, асэнсаваць іх, змірыцца з няўмольнай хадою гісторыі". Цяпер увогуле адбываецца ўсё хутчэй, канстатуе К'еза, наш век да неверагоднасці "скарачае ўсе падзеі і нават сам час, нават ідэі. Чалавецтва ніколі не развівалася так імкліва. А хуткасць усё ўзрастае"...

Ёсць ад чаго значнай колькасці насельніцтва, якое практычна не рыхтавалася да сацыяльных рэзкіх перамен, заўважае К'еза, адчуць трывогу за ўласнае існаванне. У сённяшніх умовах выстаяць супраць разбуральнай плыні і застацца самімі сабой змогуць толькі народы, якія навучыліся абараняць уласную адметнасць і жыць у грамадзянскай еднасці. Але расійцы, на думку італьянца, аказаліся зняволенымі духоўна, пасля таго як стагоддзямі, не па сваёй волі, у якасці прадстаўнікоў аўтарытарнай дзяржавы, былі "турэмшчыкамі" ў імперыі з прэтэнзіяй на "трэці Рым". Цяпер усё, ён канчаткова мусіць згортваць свае сцягі. Першы паў пад ударамі полчышчаў варвараў, другі — пад ударамі Усходу, які з нараджэння прапітваў яго сваім духам. Гэты "Рым" надзіва хутка знішчаецца на нашых вачах Захадам.

Разглядаючы расійскія (а хутчэй усё ж — экс-эсэсэсэраўскія) падзеі праз прызму пэўнай імперскасці, К'еза са шкадаваннем зазначае, што крывавая і пакутлівая трагедыя будзе працягвацца. "Спад і распад, — піша ён, — якім самі расійцы і спрыялі сваёй лянотай *і неразумным перайманнем чужых узораў*, толькі пачаліся. За стратай Сярэдняй Азіі наступіць чарга канчатковай згубы Каўказа. А потым расійцы не далічацца Сібіры, іх прыцісне самы моцны з "азіяцкіх тыграў". Гэта адбудзецца само сабою, таму што Расія робіць харакіры на вачах у Азіі, і каласальны дэмаграфічны ціск кітайцаў хутка не будзе стрымлівацца ўжо нічым".

Чаму гэта ўсё адбываецца? К'еза паспрабаваў вылучыць канкрэтныя сілы ў Расіі, што садзейнічаюць яе знішчэнню, чамусьці не звяртаючы ўвагі на гістарычны вопыт непазбежнасці самараспаду імперый увогуле. Адна з такіх разбуральных сіл, на ягоную думку, — бездухоўныя, але вельмі актыўныя сацыяльныя групоўкі, для якіх краіна, народ — усяго толькі нічыйнае "паляўнічае поле", дзе можна пажывіцца. У расійскіх умовах, заўважае К'еза, яны дамагліся сваёй мэты і паспелі разбагацець з'яднацца, стаць часткай трывалага павуціння, што ахапіла свет у канцы стагоддзя. Настае пара сапраўдных інтэрнацыяналістаў, якія прыйшлі ў эпоху глабалізацыі на змену пралетарскаму інтэрнацыяналізму, чый скон адбыўся па меншай меры паўсотні гадоў назад. "У любых іншых умовах, — піша італьянскі даследчык, — гэтую нешматлікую алігархію праз некалькі гадоў змялі б здаровыя нацыянальныя сілы. Але ў Расіі — наўрад. Таму ёсць значныя гістарычныя прычыны: расійцы не паспелі забяспечыць сабе час, каб асвойтацца ў дэмакратыі, абяцанай перабудовай, бо для гэтага патрэбны быў хоць нейкі вопыт жыцця ў грамадзянскім соцыуме, калі людзі навучаны разумець уласныя правы і таму не вельмі доўга церпяць іх парушэнне. Яшчэ трэба грамадзянская арганізаванасць, зазначае К'еза, каб супраціў даў станоўчыя вынікі. *"У Расіі ж, — лічыць ён, — усяго* гэтага ніколі не было, расіяне проста пра гэта не ведаюць. Ім спатрэбілася ўсё вынайсці нанава, а часу не хапіла... Ды нават калі б ён у Расіі быў, яго б аказалася недастаткова", — з уяўнай горыччу заўважае К'еза, — зноў жа па гістарычных прычынах. Бо калі браць Еўрапейскі кантынент, дык "толькі ў Расіі ўлада заўсёды была настолькі далёкай і нябачнай, недасягальнай і варожай простаму люду, што яе можна параўнаць толькі з царствам егіпецкіх фараонаў. Толькі ў Расіі народ настолькі распылены і раскіданы на агромністай прасторы, якую і ўявіць цяжка, і гэтаму немагчыма знайсці параўнанне на ўсёй нашай планеце. Вітфогель называў гэта "гідраўлічным" грамадствам, іншыя — "азіяцкім" спосабам вытворчасці. "Мне, — заўважае К'еза, — здаецца зусім зразумелым, што толькі звыш усялякай меры дэспатычная, абагаўляемая Улада, толькі самадзержац і мог утрымаць разам гэты "свет светаў" на такіх прасторах. Толькі так, — працягвае даследчык, — і мог нарадзіцца народ, настолькі адчужаны ад улады, настолькі безабаронны, настолькі схільны апраўдваць няправеднасць, што яна ўжо здаецца часткай ягонай уласнай прыроды. Народ настолькі "анархічны", каб час ад часу выбухоўваць у нікуды, і настолькі "камуністычны", каб задавальняцца мізэрнай доляй самакіравання ў "абшчыне", якую Улада не столькі дазваляла, колькі цярпела з-за немагчымасці пранікнуць ва ўсе куткі гэтай агромністай прасторы. Так што спатрэбілася б нашмат болей часу, некалькі пакаленняў, каб на самай справе ўступіць у новы этап культурнага дэмакратычнага развіцця. Замест гэтага посткамунізм не без актыўнай дапамогі дэмакратычнай інтэлігенцыі спарадзіў новую алігархію, якая хуткімі тэмпамі здолела сабраць у сваіх руках такое велізарнае багацце, што зможа цяпер, выдзяляючы мізэрную яго частку для тых, хто будзе абараняць яе ўнутры краіны, утрымацца шмат часу. Ніхто не ведае, колькі такое зможа цягнуцца. Але ўсё ідзе да таго, што гэтая саранча з'есць краіну нават задоўга да канца яе натуральнага жыццёвага цыкла".

Д. К'еза не згадаў яшчэ адзін надзвычай адмоўны фактар — імклівае пашырэнне масавага п'янства, якое вядзе да татальнай дэградацыі насельніцтва, але і без гэтага ягоны прагноз змрочны.

Адгукаючыся на кнігу Д. К'езы, акадэмік М. Маісееў, сусветна вядомы сваімі працамі не толькі ў галіне фізікі хуткіх працэсаў, але і распрацоўкамі навуковых сцэнарыяў узаемадачынення біясферы і грамадства, першнаперш адзначыў сур'ёзнасць папярэджання італьянца. "Сапраўды, — піша ён ("Труд-7", 22.08.97), — *Расія зараз апынулася на раздарожжы.* Калі захаваецца той рэжым, які можна называць кампрадорскім (ці неяк інакш — гэта ўжо іншае пытанне), то давядзецца пагадзіцца з аўтарам кнігі "Развітваюся, Расія!" і падрыхтаваць сябе да ролі жыхароў сметнікаў радыеактыўных экалагічна чыстых дэмакратычных вёсак Захаду. "У наш час, — адзначае М. Маісееў, — у выніку натуральнай эвалюцыі на Зямлі ўзнік свет ТНК — транснацыянальных карпарацый, якія паступова ператвараюць планету ў адзіную эканамічную і палітычную сістэму. Гэта ўжо зусім не свет Pax Americana. У ім Амерыка — толькі адзін з дзеючых персанажаў. Больш таго: узнікае міжнародная фінансавая эліта, дзеянні якой далёка не заўсёды можна ідэнтыфікаваць з нейчымі нацыянальнымі інтарэсамі". Але адначасна нарастае разуменне таго, піша акадэмік, што такія інтарэсы ўяўляюць сабой жыццёвазначную каштоўнасць. Хто гэтага не ўлічыць, той рызыкуе ператварыцца з народа ў замбіраванае насельніцтва, якое будзе абслугоўваць эліту краін з так званага "залатога мільярда". Каб выратавацца, расіянам неабходна тэрмінова зрабіць "паварот на шлях развіцця нацыянальнай эканомікі, як тое адбылося ў Японіі". "Расіі і рускаму менталітэту, — упэўнены М. Маісееў, — даўно чужыя любыя імперскія памкненні... тым не меней жыццёва важна, каб народ засвоіў гэтую ісціну, поўнасцю зразумеў, што толькі ў добраўпарадкаванні сваёй нішы і арганізацыі ў ёй добраўпарадкаванага жыцця і ёсць ягоная будучыня. Гэта і ёсць наша <u>асноўная нацыянальная мэта</u> (падкрэслена аўтарам. — **Э. Я.**)". Высокая вытворчая кваліфікацыя, адукаванасць людзей, арыентацыя на вышэйшыя тэхналогіі і дапушчэнне да вышэйшай улады *толькі разумных палітыкаў, якія любяць* менавіта сваю краіну, — вось выхад з глыбокага крызісу, у якім зараз знаходзіцца Расія, лічыць вучоны.

У сваю чаргу доктар эканамічных навук, вядомы пісьменнік-публіцыст Генадзь Лісічкін, палемізуючы з італьянцам, ("Труд-7", 26.08.97), звяртае ўвагу на тое, што К'еза не пазбег небяспекі трапіць у "расійскую пастку". Якую Расію ён "хавае"? Ці бярэ ён пад увагу, што лепшыя яе сыны, такія, як Чаадаеў, Салтыкоў-Шчадрын, Дастаеўскі, Ляскоў, Л. Талстой і многія іншыя, з глыбокім болем падзялялі знішчальную характарыстыку Айчыны як "страну рабов, страну господ", "немытую" (М. Лермантаў) і рабілі ўсё магчымае, каб такая Расія рухнула і "на обломках самовластья" расквітнела б вольная цывілізаваная краіна з нежандарскімі сувязямі са сваімі блізкімі і далёкімі суседзямі.

У 1917 годзе самадзяржаўе нарэшце рухнула, піша Г. Лісічкін, але так здарылася, што шляхам падману да ўлады дарваліся яшчэ адны самадзяржаўнікі — бальшавікі. Зло Расіі яны зрабілі велізарнае. К'еза не заўважыў самай галоўнай бяды, якая яе спасцігла: за гады савецкай улады, як лічаць аналітыкі, было знішчана не меней чым 100 мільёнаў сацыяльна самых актыўных людзей — "кулакі", "падкулачнікі", інтэлігенцыя, гарадскія прадпрымальнікі. Загубіўшы іх, натоўп разгубленых ад такіх бед расійцаў можна было весці куды заўгодна, на што заўгодна, бо, як заўважыў У. Высоцкі, "настоящих буйных мало, — вот и нету вожаков". Зараз становішча мяняецца, лічыць Г. Лісічкін, і колькасць "буйных" павялічваецца, знойдуцца сярод іх і важакі, з ліку якіх маладая Расія выбера ў кіраўнікі людзей нармальных, жыццёва разважлівых, якія здолеюць зацугляць і новую алігархію, якую К'еза вельмі ўдала параўнаў з саранчой, не здольнай, як і ўсялякая саранча, да стваральнай працы. А жывіцца яна за кошт разбурэння таго, што зроблена высілкамі працоўных людзей і прыроды. Савецкі партгасактыў, які складае ядро новай алігархіі, упэўнены Г. Лісічкін, са сваім харчразвёрстачным вопытам не доўга пратрымаецца пры ўладзе, паколькі не ўмее кіраваць рынкавай гаспадаркай і на вачах ва ўсяго свету дабівае расійскую эканоміку. Няма ў новай алігархіі ніякай сацыяльнай базы, акрамя, вядома, крымінальнай. Таму яе прадстаўнікі, як пацукі з карабля, уцякаюць са сваімі капіталамі з роднай краіны.

Яшчэ адну, важную і для нас, выснову робіць вучоны-эканаміст. Дарэмна, лічыць ён, Д. К'еза сумуе па страце Расіяй тэрыторый суседзяў. Як і камуністы-рэваншысты, ён бачыць у гэтым пагібель краіны. Мне ж, заўважае Г. Лісічкін, і многім маім калегам здаецца наадварот: адмова ад векавых прэтэнзій стаць "трэцім Рымам", ад сусветных амбіцый, набыццё самастойнасці шэрагам раёнаў, былога СССР пазбавяць Расію ад каласальных невытворчых выдаткаў. Чым транжырыць грошы на ўтрыманне замежных авантурыстаў і распаляць іх сярод міжвольных айчынных нахлебнікаў, лепей укладваць грошы ў Расію і будаваць узаемавыгадныя адносіны з блізкімі і далёкімі суседзямі".

*Улічваючы не толькі ўласны прэстыж* Г. Лісічкіна як вучонага-эканаміста, але і блізкасць да групы маладых рэфарматараў, якая зараз упэўнена ўзыходзіць на вышэйшыя прыступкі дзяржаўнай улады ў Расіі, да ягоных меркаванняў варта ставіцца з усёй сур'ёзнасцю.

Вядома, што зараз Расія тэрмінова імкнецца выпрацаваць агульнанацыянальную ідэю, без якой немагчыма аб'яднаць насельніцтва дзеля нармальнага развіцця ў новых гістарычных умовах. Як нядаўна паведаміла "Литературная газета" (N 39, 97), прэзідэнт Барыс Ельцын нават даручыў аднаму са сваіх памочнікаў, Георгію Сатараву, падабраць групу адпаведных спецыялістаў, каб такую ідэю стварыць. Паколькі год працы не даў прыкметных поспехаў у гэтай справе, Сатараву давялося падаць у адстаўку.

Але ёсць і даволі значная група расійскіх палітыкаў, якая змагаецца за рэстаўрацыю ранейшай, практычнай імперскай ідэі. Вельмі прыкра, што ім падыгрываюць ідэолагі пэўнага кшталту і ў нас, імкнучыся ўцягнуць беларусаў у гэты небяспечны вір. Адзін са свежых прыкладаў. "Народная газета" рэкламуе дзейнасць і пазіцыю дэпутата Дзяржаўнай думы Расіі А. Падбярозкіна, які адначасова з'яўляецца старшынёй Усерасійскага дзяржаўна-патрыятычнага руху "Духоўная спадчына" ("НГ", 12.08.97). Вось ягонае крэда: "Главной общенациональной задачей в ближайшие годы станет мирное восстановление великого русского государства в его естественных (?) границах, существовавших до 1991 года, объединение разорванной нации"... Параўнаем гэта з выказваннямі вышэйзгаданых аўтарытэтных расійскіх вучоных, не кажучы пра італьянца, каб зразумець, *наколькі яно адпавядае сучаснаму* стану рэчаў. А. Падбярозкін і ягоныя паплечнікі лічаць, што для таго, каб Расія зноў займела былую веліч, кожнаму яе грамадзяніну трэба дапамагчы тэрмінова "осознать себя русским". Задача, шчыра скажам, няпростая, улічваючы, колькі ў Расійскай Федэрацыі народаў. Марачы зрабіць "рускімі" і беларусаў, А. Падбярозкін у той жа час, аказваецца, разумее, што гэта адметны народ. У часе знаходжання ў Мінску Аляксей Іванавіч нават не без гонару прызнаў, што і ён сам "по меньшей мере на пятьдесят процентов точно, а может и больше" беларус. Бацька ягоны быў беларусам. Бабуля "до конца своих дней говорила больше по-белорусски, чем по-русски... И мама тоже, кажется, была наполовину белорусской". Эх, Аляксей Іванавіч, як прыкра, што вы і сваю такую блізкую радню гатовы кінуць у імперскі кацёл! Здаецца, наадварот, павінны былі б паспрыяць, каб і беларусы змаглі нарэшце распрацаваць сваю нацыянальную ідэю ды ціха-мірна пажыць ва ўласнай суверэннай краіне.

Але галоўная сутнасць усяго вышэйзгаданага вось у чым. Ужо каторы год беларусы замест таго, каб жыць нармальным нацыянальным домам, знаходзяцца ў нейкай перманентнай стадыі "воссоединения" і стварэння новага саюза. А ніяк не атрымліваецца. Увесь час знаходзяцца новыя і новыя магутныя "ворагі", якія перашкаджаюць. Няўжо кіруючая алігархія ды транснацыянальныя кампаніі? Наўрад. Па прычынах, пра якія піша той жа Джульета К'еза. А не атрымліваецца хутчэй таму, што сама расійская нацыя дзеля выжывання і нармальнага развіцця ў новых гістарычных умовах у гэтым глыбока не зацікаўленая. Так што, відаць, хочам мы таго ці не, а давядзецца і нам распрацоўваць уласную нацыянальную ідэю і спрабаваць выжыць самастойна.

**Эрнест ЯЛУГІН**

## Ацалелая да нашых дзён



Свята-Нікольская царква, якая была ўзведзена ў Петрыкаве ў 1830 годзе і захавалася да нашых дзён, з'яўляецца адзіным у сваім родзе архітэктурным помнікам на Палессі (пабудаваныя тады ж у Тураве і Давід-Гарадку цэрквы былі разбураны). Тут адзін з лепшых на Гомельшчыне царкоўны хор, дзейнічае нядзельная школа, сабрана шмат старадаўніх абразоў, якія ў адзіным экземпляры засталіся на Беларусі.

*Фота Сяргея ХАЛАДЗІЛІНА, БЕЛТА*

## Віленская "Рунь"

"Рунь" — гэта штомесячная газета, заснавальнікам і выдаўцом якой з'яўляецца Таварыства беларускай культуры ў Літве. Выйшла шэсць нумароў. Наклад газеты невялікі — усяго 500 асобнікаў, але палюбілі яе ўжо многія. "Рунь" імкнецца змяшчаць матэрыялы, якія закраналі б самыя розныя праблемы беларускасці. Рыхтуе іх невялікі, але дружны калектыў. У склад рэдакцыі ўваходзяць: галоўны рэдактар Таццяна Шміт, адказны сакратар Леанід Кароль, літаратурны рэдактар Алег Мінкін, мастацкі рэдактар Алег Аблажэй; Сяргей Вітушка вядзе пытанні гісторыі і этнаграфіі, Павел Саўчанка займаецца пытаннямі падпіскі і распаўсюджвання выдання.

Уяўленне аб "Руні" можна атрымаць па трох яе апошніх нумарах, што трапілі ў рэдакцыю "ЛіМа". Расказваецца ў іх пра сесію рады БНР, якая ўлетку прайшла ў Вільні, пра Другі з'езд беларусаў свету, які адбыўся ў Мінску. Шырока паведамляецца аб смерці Н. Арсенневай (публікуецца шэраг яе вершаў), аб развітанні з Лявонам Луцкевічам, які таксама нядаўна пайшоў з жыцця.

Цікавыя "Успаміны з працы ў Таварыстве беларускае школы ў Вільні (1924—1930 гады) Н. Шнаркевіч". Падборкі "Люстрадзён", "З Бацькаўшчыны" — інфармацыйнага характару, яны тычацца як віленскага жыцця беларусаў, так і таго, што адбываецца на Беларусі.

Газета вядзе гаворку аб тым, якой быць сучаснай беларускай мове, імкнучыся падаць розныя погляды. У прыватнасці, у пятым нумары змешчаны ліст К. Акулы "Асцярожна з ачышчэннем нашай мовы!", дасланы з Таронта. Не забывае "Рунь" і пра маленькіх беларусаў.

Н. К.

## Валянцін Лукша — чалавек года

Прыемная навіна прыйшла са Злучаных Штатаў Амерыкі: дырэктар выдавецтва "Юнацтва", лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь пісьменнік Валянцін Лукша ўключан у чарговае, пятнаццатае выданне біяграфічнага даведніка "Хто ёсць хто ў свеце", які выпускае вядомае выдавецтва "Маркіз".

У гэтым унікальным даведніку адзначаецца шматгранная кнігавыдавецкая дзейнасць В. Лукшы, змяшчаюцца звесткі аб яго літаратурнай творчасці. Не забыты ў даведніку і актыўны ўдзел пісьменніка і выдаўца ў грамадскім жыцці. Сёння В. Лукша ўваходзіць у Савет спецыяльнага Фонду Прэзідэнта Беларусі па падтрымцы таленавітай моладзі, з'яўляецца членам Камітэта па Дзяржаўных прэміях Рэспублікі Беларусь, рады Саюза беларускіх пісьменнікаў і Асацыяцыі кнігавыдаўцоў.

Менавіта ўсё гэта і паслужыла падставай для амерыканскага біяграфічнага Інстытута надзяліць В. Лукшу прэстыжным тытулам "Чалавек года — 1997". Дарэчы, гэты тытул ён атрымаў і ў 1995 годзе.

КРЫТЫКА

***Сёння мы друкуем два артыкулы маладых аўтараў, напісаныя на адну тэму — метафара ў сучаснай беларускай літаратуры. Але не настройвайся, шаноўны чытач, на нудны літаратуразнаўчы аналіз. Таму што абодва аўтары — людзі з арыгінальным мысленнем, якія з уласцівым маладосці імпэтам імкнуцца стварыць нешта новае, парушыць звычныя каноны. Цікавая ўжо сама задума напісаць два паралельныя артыкулы — адзін "практычны", другі — "тэарэтычны". Абодва аўтары сыходзяць з таго, што ствараюць у так званую эпоху "пост", і спрабуюць аперыраваць навейшымі здабыткамі сусветнага літаратуразнаўства на сённяшні дзень. Яны імкнуцца разглядаць беларускую літаратуру ў кантэксце сусветнай. А таксама не паважаюць межаў між акадэмічным літаратуразнаўствам і інтэрпрэтатыўнай крытыкай. Можа, таму іх творы злёгку "грашаць" пэўнай фармалістычнай эклектыкай. Аднак задума і ўвасабленне "партрэта метафары", або партрэта сучаснай беларускай літаратуры, убачанага праз "метафарычнае люстэрка", заслугоўвае і павагі і ўвагі, і, спадзяёмся, чытацкага водгуку.***

# Гульня ў бірулькі,

## або Страсці па пятай графе ў беларускім паэтычным пашпарце

*Гнуткая фраза, звонкая рыфма, багатая метафара — магчыма, яшчэ ўчора гэтыя азначэнні гучалі б ухвалай, але сёння яны амаль што вінавайчыя доказы, якія сведчаць пра пэўную падмену, пра тое, што "ўладу" ў вершы захапілі атрыбуты паэзіі.*

*...І, можа, нішто не прычыніла паэзіі гэткай шкоды, як спрактыкаваная кан'юнктура, як самамэтная фразеалогія, калі за верш выдаваўся сам спосаб вершавання, а ўменне пра ўсё пагаварыць у рыфму і ў метафару — за ўзор грамадзянскай актыўнасці.*

Алесь РАЗАНАЎ

— Ці чуеш мяне? — прымаючы позу дарослага дзіцяці, пытаецца сёння наша Паэзія ў самога Часу.

— Сябе, — такі ёсць адказ.

— Ці пазнаеш? — неадступна цікавіцца Паэзія ў свае Гісторыі.

— Гісторыю...

— Ці бачыш? — выкручваецца перад Люстэркам, паказвае на сябе пальцам, смяецца з бесцялеснага адбітку, бо й не спадзяецца на адказ, прывыклая да *без*-адказнасці...

...Аднак, калі гаварыць сур'ёзна, сённяшняя наша паэзія, зусім нядаўна як бы згубіўшы свой дыскурс, насамрэч надзвычай востра і не без пэўнай унутранай боязі адчувае на сябе пільны і недаверлівы позірк свайго люстранога двайніка — разняволенай і збуджанай пасля доўгага сну матэрыі, якая, ані не жадаючы зважаць на вонкавыя абставіны ўласнага быцця, усё больш актыўна заяўляе правы на самастойнасць і прыслухоўваецца адно да ўласнай Прыроды. Шматлікія знакі паэтычнасці (літаратурнасці), якія без цяжкасцяў апазнаваліся ў мінулых дыскурсах, павіслі сёння ў неадчувальнай прасторы паміж "паэтычным працэсам і літаратурным аналізам" (А. А. Рычардс), паміж паэтычным значэннем і яго літаратурным кантэкстам, урэшце, паміж Аўтарам і гэтак званай Традыцыяй, у выніку аказаўшыся непатрэбнымі і нават уцяжлівымі як для паэта, так і для самое паэзіі. Так здарылася са шматлікімі прыкметамі-сведчаннямі добрай паэзіі ў мінулым, за якімі цягам доўгіх гадоў замацаваліся ўлюбёныя крытычныя клішэ кшталту "незвычайная маляўнічасць", "магутны лірызм", "публіцыстычны запал", "гранічная спавядальнасць" "інтанацыйна-сінтаксічная завершанасць", "гукапісная зладжанасць" і г. д. Наўрад ці аказаўся б выключэннем у гэтым шэрагу знакаў-вартасцяў і яшчэ адзін дзіўны дый, мусіць, самы спрэчны феномен — найбольш вядомы ў нас пад простаю маркаю "метафарызм" (яшчэ: "абвостраны метафарызм", "мысленне вобразамі", "складаная асацыятыўнасць", "асацыятыўная канкрэтыка" і інш.), — калі б у свой "зорны" час не стаўся гэтакім "загадчыкам" формы, заканадаўцам паэтычнай моды, сведчаннем нат не якіх-кольвечы якасцяў, а ўласна прысутнасці яе вялікасці Паэзіі, якімсьці універсальным вектарным полем для ўсіх магчымых і немагчымых яе вымярэнняў: змястоўнасці, мастацкасці, прафесійнасці, традыцыйнасці, складанасці, сур'ёзнасці, таленавітасці і нат, дайце веры, партыйнасці, народнасці і г. д.

Сёння, калі, здаецца, і ў дачыненні да нашай літаратурнай сітуацыі можна прыводзіць актуальныя ў свой час для еўрапейскай паэзіі высновы Ралана Барта аб тым, што "становіцца цяжкавата гаварыць пра існаванне паэтычнага пісьма" і "застаюцца адны толькі стылі", напэўна, крыху наіўнай выглядае ці не ўся папярэдняя крытычная барацьба за "паэтычную тэрыторыю", у тым ліку і разнастайныя літаратуразнаўчыя дыскусіі з іх універсалізуючым пафасам і прыхаваным памкненнем зацвердзіць адзінае пісьмо (бясконцыя спрэчкі паміж "чыстымі" й "нячыстымі", наватарамі і традыцыяналістамі, "фізікамі" і "лірыкамі" і г. д.). Цяперака відавочна, што пераможцаў у тых баталіях быць і не магло. Маглі быць адно пераможаныя, якім і даводзілася пастаянна "ўлагоджваць" свайго пераможцу (у ролі якога якраз і аказвалася тое адзінае на ўсіх пісьмо) жыццёва неабходнымі для яго і як правіла *традыцыйнымі* дарункамі: шматстайнымі наборамі вершаваных памераў, дзі-

# Мая метафара

Чалавецтва значна менш ускладняла быццё, пакуль верыла Арыстоцелю, паводле якога метафара — усяго перанясенне слова са змяненнем значэння ці з роду на від, ці з віду на род, ці па аналогіі (у форме прапорцыі). Любая метафара, на думку Арыстоцеля, можа разгортвацца ў параўнанне — усё звычайна ў гэтым трывіяльнейшым з светаў. Праўда, за пару стагоддзяў да аўтара "Паэтыкі" метафара — гэты генератар адметнасці, ці, прынамсі, не-аднолькавасці — яўна раздражняла Канфуцыя, які ўпершыню ўвёў паняцце "выпраўлення імёнаў" (чжэн мін). "Выпраўленне імёнаў", па сутнасці, было патрабаваннем дэметафарызацыі — ператварэння метафар ("незвычайных" слоў) зноў-такі ў параўнанні ("звычайныя", "зразумелыя" словы).

Аднак *ужо стагоддзі праз тры пасля* Арыстоцеля метафара, дзякуючы Цыцэрону, ізноў стала **праблемай**, а не чымсьці канчаткова вытлумачаным. З таго часу праблема метафары паспела ператварыцца ў феномен, а патрабаванні "яснасці" ад метафары — у "манію нівеліравання" (Ф. Шальда). Для кагосьці метафара была ідалам, хтосьці ж бачыў у ёй "хваробу мовы": камусьці яна здавалася "бацькам-стваральнікам" свету, а нехта адводзіў метафары толькі ролю "гіда".

"Было б вельмі дзіўна, калі б хто-небудзь любіў Зеўса", — зазначыў неяк Арыстоцель. Метафара, як і Зеўс, наўрад ці мае патрэбу ў нашай прыязнасці: мала яна траціць і ад нашай не-любові. Становішча чалавека (асабліва ў эпоху Пост) — усё больш няпэўнае, "ніякое" (мы нібыта боўтаемся ў кісялі). А вось метафара сёння становіцца ці не адзінай пэўнасцю: яна з'яўляецца свайго роду "сферай", што не дае "расцячыся" і кісялю сучаснага быцця, і нам самім.

"Навукі пра дух" даўно цяжарныя метафарай, якая зрабілася для іх і тэхнікай (формай), і ідэалогіяй (зместам). З кожным годам павялічваецца легіён "метафаразнаўцаў" — апантаных, скрупулёзных следчых, што ўвесь час імкнуцца запхнуць метафару за краты аб'ектывізму, каб мець магчымасць немітусліва ў ёй "пакорпацца". Аднак я свой шанц пазбавіцца ад кашмару няпэўнасці бачу ў тым, каб паспрабаваць расказаць пра **сваю** метафару: яна, магчыма, і не падобная ні да чыёй іншай, але для мяне яна — адлюстраванне таго свету, што так незаўважна зліўся з літаратурай, са Словам (Логасам), сапраўднае імя якога, верагоднай за ўсё, — Метафара.

Можна зразумець тых, хто не разумее выбару аб'екта неспакою, для каго метафара — усяго толькі троп, адзін з тропаў, штосьці, ужытае ў пераносным значэнні. Ды насамрэч усё было значна складаней задоўга да таго часу, калі В. Дыльтэй канстатаваў смерць паэтыкі, створанай Арыстоцелем, і паведаміў пра панаванне анархіі на паэтычных абсягах ва ўсіх краінах.

... Як сцвярджаюць біхевіярысты, свядомасць ёсць форма нячутных лінгвістычных паводзінаў. Няма неабходнасці, каб чалавек у думках поўнасцю прамаўляў адпаведныя словы, аднак свядомая дыскрэтная думка (не эмоцыя!) эквівалентная слову. Той факт, што *архаічны чалавек павінен быў у мове перада*ваць агульнае праз асобнае і не меў сродкаў для выражэння агульных прадметных паняццяў, лічыцца сярод даследчыкаў устаноўленым. Калі мы стаім на парозе міфалогіі, то ў нас няма выбару паміж рацыянальным і трапічным выказваннем: у архаічнай мове адсутнічаюць (альбо прысутнічаюць у вельмі недастатковай колькасці) словы для выражэння абстрактных паняццяў (І. Дзьяканаў). Архаічнае мысленне павінна быць трапічным, бо сам факт узнікнення слова з'яўляецца доказам існавання здольнасці заўважыць штосьці агульнае ў рэчах і ўменне выразіць гэта агульнае.

Ю. Лотман вылучае тры асноўныя тропы: метафару, метанімію і сінекдаху. Р. Якабсон лічыць, што іх два: метафара і метанімія. Згодна ж тэорыі Т. Хаўкеса, многія тропы могуць разглядацца як розныя версіі адзінага метафарычнага прататыпу (у класічнай філалогіі неаднаразова выказвалася меркаванне, што разнастайныя тропы (выказванні ў пераносным сэнсе) — усяго толькі разнавіднасці метафары).

Дапусцім (пакуль — гіпатэтычна), што мысленне архаічнага чалавека было метафарычным: з'явы аднаго роду тлумачыліся ў тэрмінах з'яў другога роду. У эпоху Архаікі метафара **выражала** падабенства.

З таго часу шмат што змянілася, Мы, змушаныя жыць падчас эпохі Пост, разумеем гэта чамусьці выбарачна.

...Верагодна, кагосьці раздражняе сама лексема "пост" (асабліва ў дачыненні да літаратуры). Нягледзячы на гэта, неарамантыкам і сюррэалістам, сімвалістам і імпрэсіяністам, рэалістам і постмадэрністам рана ці позна, відаць, прыйдзецца змірыцца з тым, што ўсе яны — дзеці эпохі Пост. Трэба адзначыць, што ў нашым кантэксце маркіравальнае "імя" **Пост** звязана не з паняццямі "посткласічнага" ці "постіндустрыяльнага". Наша эпоха — "поствыбуховая".

*Праблема выбуху ў гісторыі і культуры* хвалявала ў свой час Ю. Лотмана (ён быў упэўнены, што жыве якраз у выбуховы "момант"). З выбухам у культуры і гісторыі звязана прынцыповая непрадказальнасць падзей, якія пасля гэтага выбуху адбудуцца. Дык вось калі змясціць у "поле" згаданай тэорыі метафару, то можна зразумець, чаму сёння метафара **стварае** падабенства, а не адлюстроўвае яго (М. Блэк): чаму сучасная культура — "індустрыя мрояў" — уяўляе сабою тэхналогію вытворчасці метафар; чаму раней міфы "выпраменьвалі" метафары, а зараз метафара — "маленькі", але атрутны міф.

Не так даўно жыццё метафары цурчэла досыць аднастайна. (Тое, што паэтычныя тропы **жывуць**: з'яўляюцца ў літаратуры, развіваюцца, а ў асобных выпадках паміраюць — адзначаюць многія даследчыкі). За "**энны**"

воснымі калекцыямі рыфмаў, багатымі букетамі маляўнічых эпітэтаў, параўнанняў, метафараў і г. д.

У гэтым сэнсе паэтычны метафарызм як асаблівы накірунак, трыумф якога прыпаў у нас на 1960-70-я гады, аказаўся для нашай традыцыі-пісьма даволі нечаканым дарункам, бадай што нават вялікім “метафарычным сюрпрызам” (ёсць такі тэрмін датычна аднэй асобнай метафары) на фоне відочнай дэградацыі паэзіі ў пасляваенныя дзесяцігоддзе. Самааддана, з нябачаным раней захапленнем, магчымым адно хіба ў момант першаадкрыцця невядомага, асобныя паэты з абвостраным метафарычным слыхам тварылі адмысловую эстэтычную ідэалогію, падчас умела хаваючы ў метафарах свае індывідуальныя міфалогіі ці натуральнае памкненне ўнікнуць панылае рэчаіснасці. На паэтычных старонках “падобнае радавалася падобнаму” з імпэтам, які назіраўся раней хіба толькі ў самых “кучаравых” радках маладнякоўцаў; літаратуразнаўства ўпершыню ўсур'ёз загаварыла пра “суцэльную метафарызацыю свету” ў паэзіі ХХ стагоддзя; крытыка не стамлялася смакаваць дзівосныя і непараўнаныя метафары, праўда, зважаючы пры гэтым амаль выключна на іхнюю арнаментальную функцыю; ну, а ўжо самі паэты, здаецца, напраўду былі паверылі ў тое, што атрымалі “прыладу тварэння, якую забыўся Бог” (Хасэ Артэга-і-Гасэт), тым самым забяспечыўшы сваёй творчасці жаданую вечнасць...

Між тым, усё тое, што было або, прынамсі, выдавала на сапраўдную рэвалюцыю ў Форме-паэзіі, наўрад ці істотна закранула ў структурным плане само тагачаснае паэтычнае пісьмо. І, нават больш за тое, удала ўпісаўшыся ў традыцыйную сістэму, метафарызм стаў страчваць арыгінальныя адзнакі *стылю* і паступова дэградаваў у *пісьмо*. Няма чаго і казаць, што якраз да самой метафа*ры, як найвышэйшай паэтычнай ісціны*, палеглай у пошуку сутнасці й дакладнасці называння, шматлікія гаворкі аб метафарызме і не маглі даходзіць наогул...

Сёння, калі ў часопісах ці газетах я спатыкаю адно што “прыгожыя”, насычаныя дэкаратыўнымі метафарамі, вершы, мне неяк міжволі ўспамінаецца дзіўнаватая прытча аднаго з, магчыма, самых адданых прыхільнікаў метафары Юрыя Алешы. Прытча пра чалавека, які ў надзеі разбагацець адчыніў на старасці гадоў краму метафар, аднак пацярпеў поўны фінансавы крах, паколькі людзі не заўважалі і не куплялі унікальных і дарагіх тропаў, расхопліваючы адно збітыя й танныя вобразы, накшталт “бледны, як смерць” або “зводзіць канцы з канцамі”... Сягонняшняя наша паэзія, тая, што па-ранейшаму робіць стаўку на арнаментальную метафорыку, чамусь нагадвае мне якраз таго недалужнага прадпрымальніка, які, між іншым, змушаны быў зачыніць сваю краму, але не так з-за самога факту няўдалага бізнесу, як з-за таго, што *і сам* пачаў ужываць такія выразы, як “зводзіць канцы з канцамі”...

Падазраю, што сёй-той з аматараў паэтычнага метафарызму абурана цяпер мне пярэчыць: хіба не здзіўляюць багатымі метафарамі сваіх чытачоў нашы майстры і сёння? Чаму ж не... Вядома, здзіўляюць. Магчыма, нат і больш, чым раней. Ды толькі менавіта — чытачоў, але наўрад ці саму істоту паэзіі, даволі-такі ўжо эмансіпаваную пані, якая цьмяна прыпамінае, як у далёкай маладосці, гадоў так трыццаць таму, ёй па-сапраўднаму даводзілася здзіўляцца, напрыклад, вось гэтак:

***Гэта позна ці рана?***
***Ад крыжавіны аконнай рамы***
***Адплыў маладзік***
***Членам таварыства***
***Чырвонага Крыжа й Паўмесяца,***
***Якога***
***За няўплату членскіх узносаў***
***Выгналі.***
***Месіцца па нябесным выгане.***
***У тэлефоннай кабіне***
***На пупавіне***
***шнура***
***Трубка вісіць, як эмбрыён...***

*(З паэмы Р. Барадуліна “Блакада”, 1968 год)*

Хацеў бы падкрэсліць: на месцы героя Алешавай прытчы я сёння ўяўляю зусім не паэта-метафарыста, няздольнага больш на дзівосныя вобразы, а менавіта саму “выключна метафарычную” паэзію, якая калі яшчэ і жыве, дык адно шчаслівымі ўспамінамі даўномінулага адкрыцця. Бо як надумала наладзіць з таго адкрыцця вытворчасць, адразу ж і захлынулася праблемамі чыста вытворчага характару: як патанней прадаць, каму збыць, як прыгажэй запакаваць, да якіх патрэб прыстасаваць, як павялічыць тэмп і г. д. Бяда толькі ў тым, што ахвярай пры гэтакай перавытворчасці аказваецца нішто іншае, як Слова — бездапаможнае перад лінейнай (чытай: канвеернай) спарадкаванасцю сэнсаў, непатрэбнае ў жорсткім свеце рэляцыйных (чытай: камерцыйных) сувязяў, бязмоўнае ў крыклівай інфармацыйнай (тут і чытай: інфармацыйнай) прасторы...

Зрэшты, дазволю сабе крышку наіўнае пытанне. Ці думаюць пра гэта ўсё нашы паэты, у тым ліку й тыя з іх, што здабылі сабе гэтае імя праз метафару?.. А каб пазбегнуць і адказу наіўнага, звярнуся да тых, хто думае.

Вось, і ў самога караля метафары нядаўна вырвалася, і мне, наіўнаму, тут бачыцца акурат “думанне” над праблемай Імя і Слова:

***А я, пасівелы дзядоўнік,***
***Стаю пры апошняй вярсце.***
***Яшчэ на зямлі я назоўнік,***
***А мне ўжо займеннік расце...***

*(Рыгор Барадулін)*

Вось нібы й замкнёны ланцужок асацыятыўных сувязяў — аказваецца насампраўдзе адкрытым... І разам — паэту і чытачу — думаецца яшчэ лепей, калі, вядома ж, не перашкаджаць адно аднаму:

***І змоўкла ты, як лютня адбалелая.***
***Я ўдзячны быў за гэтае прызнанне,***
***Як і за тое, што бяроза белая***
***Шумела, як метафара змяркання.***

*(Леанід Дранько-Майсюк)*

Вось шчырае ахвяраванне адной банальнай метафарай дзеля ейнага ж адмысловага ўваскрашэння:

***То дрэва падобнае на жанчыну***
***То жанчына падобная на дрэва***

***Майму ўяўленню няма спачыну***

***Майму жаданню жанчына трэба***
***А дрэва падобнае на жанчыну***

*(Леанід Галубовіч)*

Вось, бадай што, дзіцячае здумленне паэта ў адчаі ад таго, што здзіўляцца развучыліся дарослыя, даруйце, метафары:

***Раскашуючы,***
***кот разваліўся на падваконні***
***І ўзіраецца, як кашаю робіцца снежань.***
***А мне падалася метафара зусім свежаю***
***Пра тое, што вокны у дамах — іконамі.***

*(Сяргей Вераціла)*

Або яшчэ, ну вельмі ж “у кропку” ў таго ж аўтара:

***Адчуць эмоцыяй***
***недастатковасць метафары.***
***Адчуць пальцамі***
***кроплі расы на кветцы.***
***Пераставіць словы мейсцамі.***
***Назваць гэта — творчасць.***

Вось “строгая” філалогія спрачаецца з “несур'ёзнай” метафарай, і ў дзіўнай спрэчцы нараджаецца свая праўда — нейкі, скажам так, метафілалагізм:

***І я з глыбіняў слоўным спехам —***
***каб не астыгнуць — скарб нясу:***
***метафар вехасць, каб над светам***
***забарадуліліся мехам,***
***як траваспеў пасля дажджу.***

*(Алесь Пашкевіч)*

Падобных прыкладаў своеасаблівага метафарычнага “думання” апошнім часам можна знайсці нямала. Пры ўсёй разнастайнасці і шматпланавасці гэткіх “думак” істотным падаецца па сутнасці новая для нашай літаратуры функцыя паэтычнай метафары — як інструмента рэфлексіі над Формай-паэзіяй нат і пры знешняй дэкаратыўнасці мастацкага тропа. І, можа, у гэтым і толькі ў гэтым сэнсе метафара мусова становіцца *субстанцыяй беларускай* вершатворчасці. Што ж да самое Формы, то, зразумела, у гэтакім разе яна вымушана маўчаць — каб вызваліць са свайго ўшчэнт заскарузлага і ацвярдзелага ярма літаратурнае Слова. Не будзем жа і здзіўляцца сёння гэтаму непазбежнаму маўчанню і спадарожнаму яму пацвельванню з голага караля, я маю на ўвазе выкрытую і прысаромленую Форму. Нат самыя радыкальныя і “несур'ёзныя” спосабы звесці рахункі з апошняй — напрыклад, праявы гарэзлівага метаметафарызму (заўважаеце, дарэчы, іронію ў самім гэтым слове?), дэманстратыўнае “ўваскрашэнне” мёртвых метафар, навязлівае пісьмо залішніх метафарычных удакладненняў, знарочыстая падмена традыцыйных асацыятыўных сувязяў чыстай пародыяй на такія сувязі і г. д., і г. д. — усё гэта таксама ёсць адмысловымі кшталтамі рэфлексій над літаратурай...

Зрэшты, досыць пра “дрэннае”, як любіць ускліквацъ наша Паэзія, падчас не вытрымліваючы галоднага і знелюдзелага позірку з Люстэрка. Таму напрыканцы — адно пра “харошае”.

Калі гаварыць наогул, то хай ужо й негалосна, але па-ранейшаму, “па традыцыі”, bon ton у паэзіі ў нас задаюць бразготкія метафаркі-бірулькі. Прычым у дадзеным выпадку я маю на ўвазе абодва значэнні слова “бірулькі”. Адно — “ўпрыгожанні” — у дачыненні да самое паэзіі, і другое — цытую па тлумачальным слоўніку: “гульня, якая заключаецца ў тым, каб з кучкі дробных прадметаў выбраць кручком адно за адным, не пасунуўшы пры гэтым астатніх” — адносна распаўсюджанага абыходжання з метафарамі нашай крытыкі (калі ласка, не блытаць з гульнёй шкляных перлаў).

Калісь расійскі літаратуразнаўца Леў Озераў у сваёй “Одзе эпітэту” назваў апошні “пашпартам самабытнасці творцы”. Сучаснае жыццё-быццё нашай паэтычнай метафары міжволі схіляе мяне да няхітрай зусім аналогіі: яна ж, далібог, глядзіцца ганаровай пазнакай у пятай графе беларускага паэтычнага пашпарта! Дарма што арнаментальнае пісьмо ў цывілізаванай Еўропе даўно пацярпела крах, метафаркі-бірулькі і па сёння дазваляюць нашым паэтам бестурботна радніцца з Традыцыяй, Паэзіяй, урэшце, з самою праўдзівай Метафарай...

...Але ці не час і нам адмовіцца ад гэтай графы на карысць сумленнага грамадзянства ў Беларускае Res Poetica?..

**Мікола ВІЧ**

прамежак часу яна “вырасла” ад “да-метафары” (паводле тэорыі В. Фрэйдэнберг, комплекснага зместу архаічных вобразаў) да “чыстай” (паэтычнай) метафары. Далей можна было б жыць спакойна, калі б... Калі б чалавек не пачаў корпацца ў сабе самім.

Паступова высветлілася, што ключом да разумення асноў мыслення і працэсаў свядомасці з'яўляецца метафара: што наша жыццё працякае ў свеце метафарычных паняццяў, а ўсе каштоўнасці, якія рэальна існуюць і глыбока “ўкараніліся” ў культуры, дапасуюцца да метафарычнай сістэмы (Дж. Лакоф, М. Джонсан); што сусветная гісторыя, верагодна, — гэта гісторыя некалькіх метафар. Бадай, піку аўтарытэтнасці метафара дасягнула тады, калі Х. Артэга-і-Гасэт замацаваў за ёй статус “адкрыцця закона універсума”.

Як толькі ў метафары пачалі бачыць свайго роду сімвал “вышэйшай рэальнасці”, адразу ж “асвяціліся” тыя шляхі, па якіх можна ў згаданую рэальнасць пранікнуць. Калі і магчыма трапіць у свет “ідэальных сутнасцяў”, дык толькі праз літаратуру, шляхам літаратуры. Літаратура і ёсць той шлях, па якім мы (рэальныя-для-сябе) ідзём упарта, каб стаць рэаліямі нейкай ірэальнасці: пра яе існаванне ўсе нібыта здагадваюцца, але наўрад ці хто **ведае**. Метафара ж многім здаецца “гідам”, які здолее правесці чалавека праз літаратуру — шлях-лабірынт. (“Лабірынтападобнасць” быцця антычнасць прадчувала (згадаем хаця б гісторыю Мінатаўра), а *вось эпоха Пост змірылася з тым, што яна* — эпоха Лабірынта). Аднак нельга траціць пільнасць — у адносінах да сучаснага чалавека метафара можа выступіць і ў ролі, так бы мовіць, “івана сусаніна”: завесці — завядзе, а куды — невядома (хаця аналогіі трывожныя).

...Метафара “ўмяшчае” ў сабе сучасную літаратуру — *як шар, што змяшчае ў сабе* больш шар. Страта так званай магістральнай лініі ў літаратуры суправаджалася разбурэннем нейкага метафарычнага канону — той “мадэлі”, што прадуцыравала, умоўна кажучы, “Арыстоцелевы метафары” (“упрыгожанні мовы”, “рытарычныя фігуры”). Метамарфозы, якія адбываюцца з метафарай зараз, становяцца крыху больш зразумелымі тады, калі параўнаць спосабы асэнсавання свету ў эпоху “давыбуховую” (“класічную”) і ў эпоху “поствыбуховую”. Першай уласцівы “раздзельны” погляд на свет, другой — сінкрэтычнае, “суцэльнае” разуменне быцця, з якога пачынаў калісьці архаічны чалавек і да якога вярнуўся чалавек эпохі Пост. У залежнасці ад таго, які погляд на свет “пануе” на тым ці іншым этапе гісторыі чалавечага духу, рух “сінусоіды метамарфозаў” метафары ажыццяўляецца то ў накірунку “Арыстоцелева тропа”, то ў накірунку метафары “нематываванай”.

У заходняй тэарэтычнай традыцыі метафара як бы “распадаецца” на два адрозныя феномены: эпіфару і дыяфару. Так, паводле Ф. Уілрайта, эпіфара сыходзіць са звычайнага значэння слова: семантычны “рух” (phora) тут, як правіла, адбываецца ад больш канкрэтнага вобраза да таго (epi), што, магчыма, з'яўляецца больш напэўным, сумніўным ці больш дзіўным. У якасці прыкладу эпіфарычнай метафары Уілрайт прыводзіць Кальдэронава “жыццё ёсць сон”. Што ж тычыцца дыяфары, то тут мае месца рух (phora) “праз” (dia) тыя ці іншыя элементы вопыту (рэальнага ці ўяўнага) па новым шляху: новае значэнне ўзнікае ў выніку простага супалажэння. Словы валодаюць “прыхаванымі” сэнсамі, і хаця б некаторыя фрагменты гэтых сэнсаў знаходзяць водгук у чытача. У якасці прыкладу метафары дыяфарычнай ідэальна падыходзіць “бумбамлітаўскае”: “Свабода мая — паліхромія”! (Зм. Вішнёў).

Ф. Уілрайт нават ва “Упанішадах” заўважае выкарыстанне “звязкі” эпіфара—дыяфара: там дыяфарычная (быццам бы “хаатычная”, “нематываваная”) паслядоўнасць эпіфарычна зарыентаваных вобразаў выступае як сродак прымусіць розум “меркаваць” пра Брахму праз мноства падыходаў, кожны з якіх недастатковы сам па сабе. Тым не менш “ранейшая”, “давыбуховая” літаратура (у тым ліку і мадэрнісцкая — за невялікім выключэннем) захоўвала вернасць менавіта эпіфары; дыяфара калі і пракідвалася дзе-нідзе, то была не сутнасцю (зместам), а прыёмам, які мог бы здзівіць ужо тады распешчанага чытача. Калі эпіфара ў той час “каралявала”, то дыафара — “блазнавала” пры ёй. “Выбух” унёс свае “карэктывы” ў апісаны status qvo.

...Сёння ў літаратуры (якая сталася рэчаіснасцю, “асяроддзем бытавання”) рэй вядзе дыяфара. (Паказальнае ў гэтым сэнсе выказванне П. Басінскага, які ў адным з артыкулаў у “ЛГ” назваў сучасную рускую прозу “вырошчваннем кактусаў”. (Гэта не азначае “смерці” эпіфары: маецца на ўвазе тэндэнцыя выцяснення “кананічнай” эпіфары яе, так бы мовіць, “саперніцай”. З попелу “Арыстоцелевай” метафары нараджаецца антыметафара.

Штосьці прадчувалася яшчэ да “выбуху”. У IX стагоддзі н. э. індыйскі вучоны Анандавардхана разглядаў паэтычную мову як актыўную сілу, што фарміруе і накіроўвае інтэлектуальную дзейнасць чалавек. Ён жа звярнуў увагу на магчымасць пранікнення тропаў у рэчы і — што самае важнае! — адчуў верагоднасць перастварэння рэчаў пад уплывам паэтычнай мовы (трактар “Дхаваньялока”). Заснавальнік сучаснай тэорыі значэнняў Г. Фрэге падкрэсліваў здольнасць метафары “асвятляць” сэнсы. Аднак калі раней літаратары шчыра верылі ў існаванне “прыхаваных” сэнсаў і ўпарта іх шукалі, то зараз “глыбіня” слова становіцца неістотнай. Пошукі сталіся гульнёю: раней метафара выяўляла аналогіі — зараз антыметафара канструіруе іх, прымушаючы рэчаіснасць гуляць па новых правілах. Падабенства з'яў, якія супастаўляюцца, узрываецца дзеля таго, каб “сфармуляваць” новую сутнасць, што не мае патрэбы ні ў “абгрунтаванні”, ні ў “матывацыі”. Антыметафара — **прадукт** эмацыйнага супалажэння. Літаратура эпохі Пост бачыць знакі прысутнасці ісціны ў праявах хаосу, ірэальнасці, нематываванасці. Спасцігаецца гэтыя знакі ў працэсе анатаміравання эмоцый, бо “ў думках, нягледзячы на ўсю іх логіку, мы часта манім самім сабе, а пачуццё, нават самае цьмянае і невыразнае, ніколі не здрадзіць” (А. Маравіа, “Пагарда”). Менавіта эмоцыі дазваляюць мець ілюзію будучыні ў той “дурной бясконцасці”, якой была гісторыя ўжо для Джойса.

...І ўсё ж метафара яшчэ змагаецца з антыметафарай, дарэчы, не без дапамогі “саюзнікаў” — сімвала, алегорыі ды інш.

А. Лосеў лічыў, што “метафара паказвае толькі на саму сябе; сімвалічная вобразнасць багацейшая за метафару таму, што сведчыць пра штосьці іншае”. Аднак ужо творы некаторых мадэрністаў “замешаныя” на тропах, якія з роўнай ступенню ўпэўненасці могуць быць названыя і метафарай, і сімвалам. Гэта не барочная “сімвалічная метафара”, а прынцыпова новая структура — абазначым яе як “метатроп”. У дадзеным выпадку метатроп — спецыфічны спосаб канструявання прасторы мастацкага твора, які дазваляе разглядаць тэкст як свайго роду метарэчаіснасць, што выступае ў адносінах да рэчаіснасці адметным тыпам пазнання. Феномен метатропа, напрыклад, у “Скарбах жыцця” М. Гарэцкага можа быць выдатным аб'ектам як для даследавання тэндэнцый развіцця літаратурных тропаў (і найперш — метафары), так і для назірання за міфалагізацыяй і рэчаіснасці, і літаратуры.

...Дж. Віко яшчэ ў пачатку XVIII стагоддзя заўважыў, што кожная эпоха канструіруе свой міф — розніца толькі ў метафарах (для Віко кожная метафара была “маленькім міфам”). Зварот да праблемы так званага новага міфу — на жаль, не даніна модзе на гульні ў арыгінальныя тэорыі. Чалавек эпохі Пост адчуў патрэбу **расказаць** (“сфармуляваць”) свой міф — магчыма, гэта дапаможа зразумець, да якіх метамарфозаў варта рыхтавацца.

А яны ўжо адбываюцца. У жыцці, якое стала літаратурай. Яшчэ Кафкава “Пераўтварэнне павінна было пераканаць чалавека, што сутнасць наступнага міфу заключана ў абсурдзе звычайнасці. Звычайны Рыгор Замза (“я-звычайны”) звычайнай ноччу ператвараецца ў пачварную, гідкую, але ўсё ж звычайную жамяру. (Гэтак жа трывіяльна звычайная малпа ператвараецца ў звычайнага чалавека — зноў-такі паводле Кафкі (апавяданне “Даклад у Акадэміі”). Трэба адзначыць, што ператварэнне “канстатуецца” — без “рытарычных фігур”, аўталагічна. Метафара ў “Ператварэнні” ёсць не “слова, альбо выказванне, узятыя ў пераносным значэнні”, а сума звычайнасцяў, што ўтварае тэкст-метафару. Ю. Лотман сцвярджаў: законы будовы мастацкага тэксту ёсць законы будовы культуры ў цэлым (культура *трактуецца як сума паведамленняў*). *Верагодна*, сучасная культура — гэта таксама “сума звычайнасцяў”, што ператасоўваюцца, бы калода карт, то метафарай, то антыметафарай.

Не вельмі важна, **як** называецца эпоха, падчас якой я жыву: мне, напрыклад, імпнуе словазлучэнне “эпоха Метафары”. Важна, што колішняе **прадчуванне** “выбуху ў культуры” змянілася **ўпэўненасцю**: ён адбыўся.

**Ірына ШАЎЛЯКОВА**

## ВІНШУЕМ! Міхасю ДАНІЛЕНКУ — 75

Жыццё Міхася Пятровіча не песціла. Ён не па кнігах ведае, што такое вайна. Са зброяй у руках абараняў радзіму. Удзельнічаў у баях на Паўднёва-Заходнім фронце. У маі 1942 года непадалёку ад станцыі Мікалаеўка, што на Украіне, быў кантужаны, трапіў у палон. Зведаў усе жахі фашысцкага лагера, але ў сакавіку 1944 года змог уцячы. Працягваў службу ў арміі, настаўнічаў, завочна скончыў Гомельскі настаўніцкі інстытут, а з 1952 да 1982 года звязаў лёс з рэдакцыяй газеты "Гомельская праўда", дзе не толькі сам шмат пісаў, але і падтрымліваў маладыя таленты.

Надрукаваўшы сваё першае апавяданне яшчэ ў 1940 годзе, ён з цягам часу стаў цікавым апавядальнікам, ды і жанр аповесці яму не чужы. Гэта засведчылі такія кнігі М. Даніленкі, як "Мая песня", "Майская навальніца", "Маці Мар'я", "Журлівіца" і іншыя. Выдаў і некалькі зборнікаў для дзяцей.

Віншуем Міхася Пятровіча з 75-годдзем! Зычым юбіляру здароўя і творчых поспехаў!

Міхась ДАНІЛЕНКА

# МАЛЕНЬКІЯ БЫЛІ



АЎТАР

***Кожны раз — амаль па паўгода — я жыву ў вёсцы на роднай Лоеўшчыне. Назіранні за паводзінамі знаёмых і леглі ў аснову гэтых маленькіх быляў.***

## АМЕЛЬКА

Каб стопрацэнтны цыган ажаніўся на беларускай жанчыне — гэта сапраўднае дзіва. Ды вось жа Амелька ў нашай вёсцы яшчэ з даўніх пасляваенных гадоў атабарыўся. Прыстаў у прымы да Насці і сям'ю вялікую нажыў. Спачатку Амелька рабіў у калгасе кавалём. А пасля, як кузню невядома як расцягнулі (недзе згінула і накавальня са скуранымі мяхамі ), пачаў лічыцца механікам. Але аднаго дзівацтва Амелька не пакінуў аж да старасці.

— Не сумуеш, дзядзька Амелька, па табары? — часам хто запытаецца з вяскоўцаў.

— А што мне сумаваць? Шацёр вунь на гарышчы складзены ляжыць.

І праўда. Недзе пад восень, калі ў нізкім небе пачынаюць звінець тужлівыя крыкі жураўлёў, Амелька запрагае каня (купіў перад выхадам на пенсію), дастае з гарышча латаны-пералатаны шацёр, ускладвае на калёсы і гаворыць Насці:

— Дык я, дарагуля, паеду. Хто са мною падахвоціцца?

Ехаць з бацькам выказваюць жаданне звычайна двое ці трое малодшых дзяцей са шматлікай сям'і. Амелька бярэ дваіх, якія ў апошнія дні выказалі стараннасць у вучобе.

...Колькі дзён на пойме, каля Сожа, гарыць касцёр. У дзіравым шатры на духмяным ахапку сена пасапваюць дзеці. А Амелька моўчкі сядзіць і глядзіць, як пастунова пакрываюцца шызаватым налётам вугольчыкі. Аб чым ён думае? Што ўспамінае?

Паблізу пасецца конь. А ў далёкай адсюль вёсцы спіць яго дарагуля Насця. Ведае: праз пару дзён вернецца яе Амелька. І зноў загучыць у двары яго залівісты смех.

## БАГАДЗЕЛЬНЯ

Запушчаны драўляны будынак. Абгароджаны тынам двор. Два кані, тры каровы. І яшчэ — чатыры гектары зямлі. Усё гэта дырэктар Дома састарэлых пачціва называе падсобнай гаспадаркай. Усюды пануе дух запусцення і абыякавасці.

На лавачцы ў альтанцы, што прытулілася ў садзе над рачулкай, сядзяць двое старых. Тарас Іванавіч — худы, падобны на фасолевы стручок — можа, у дзесяты раз расказвае суседу Рыгору Сідаравічу:

— Не бралі, значыць, мяне ў гэты дом. Дык унучка — паверыш? — аж туды, у прэзідэнцкую адміністрацыю напісала.

Рыгор Сідаравіч скручвае цыгарку. Папраўляе акуляры на носе-бульбіне. Пыхкае дымам і адказвае:

— Сволач твая ўнучка.

Тарас Іванавіч на паўслове спатыкаецца, быццам нечым папярхнуўся, здзіўлена ўтароплівае позірк у Рыгора Сідаравіча.

— А ну — паўтары! Што ты сказаў?!

Рыгор Сідаравіч неахвотна падымаецца з лаўкі. Адыходзіць на два крокі ад альтанкі і паўтарае:

— Сволач і дрэнь.

Яму да чорцікаў абрыдлі ўспаміны суседа. Раней той расказваў, як дапамагаў некалі ў горадзе будаваць кааператыўную кватэру дачцэ, як няньчыў і вучыў унучку. А цяпер вось расказвае, як аддзячыла яму яго любіміца.

— Гібець тут нам да суднага дня, — сам сабе мармыча Рыгор Сідаравіч і паціху спускаецца на бераг рачулкі. — Сучкі яны — гэтыя ўнучкі, — у рыфму кажа ён.

## МІЛЬЁНЫ Ў ЧЫГУНЕ

Зрэдку ў нашу глухую вёску прыязджае новая легкавая машына. Тады з хаты ў хату бегае дзябёлая залатазубая кабета і прапаноўвае:

— Матэрыял на сукенкі і занавескі не патрэбен? Прыгожы і зусім нядорага.

— Адкуль вы?

— Мы — малдаване, — тлумачыць яна. — Рашылі вось падзарабіць.

Машына, па меры таго, як увішная жанчына перабягае ў другі канец вёскі, павoлі праязджае вуліцай. Ніколі я не бачыў, каб мужчына, што сядзіць у кабіне (мусіць, муж?), выходзіў дапамагаць таргавацца.

Купляюць мала. У вёсцы жывуць амаль адны нямоглыя пенсіянеры. Каму патрэбна тая тканіна? Ды ўсё ж нехта набыў адрэз на занавеску — спакусілі прыгожыя чырвоныя макі, раскіданыя па тканіне.

І раптам — па вёсцы пайшла пагалоска: у дзеда Лявона цыгане, што прадавалі абновы, грошы ўкралі. Аж чатыры мільёны! Ён ужо і ўчастковаму званіў.

— То ж — малдаване, — запярэчыў я. — Наўрад ці пакваляцца такія людзі (я ўспомніў ветлівую залатазубую жанчыну) на Лявонавы мільёны.

У вёсцы ведалі: дзед здаў цялушку, і яму выплацілі добрыя грошы. Пасля казалі, што ўчастковы нічога пэўнага старому не паабяцаў: хіба зловіш ветра ў полі? А потым зноў праляцела па хатах вестка: знайшліся Лявонавы грошы. Аказваецца, паклаў ён іх у чыгун на паліцы ды і забыўся. Ледзь не ўсю хату перавярнуў — не знайшоў. Ды і не дзіўна: дзеду даўно пайшоў дзевяты дзесятак гадоў.

І ўсё ж прыкра на душы, калі абылгуць невінаватага чалавека.

## ГУМАНІТАРКА

Каб убачыць, якую гуманітарную дапамогу прывозілі нашы далёкія суседзі, трэба толькі раненька падняцца ў гэтай вёсцы.

Яшчэ, здаецца, дрэмлюць хаты, вуліца, двары. Ды — не. Дзесьці бразнула даёнка. Зарыпеў над студняй журавель. Лянiва цяўкнуў на ланцугу сабака (на ноч гаспадары іх адвязваюць). За бліжнім борам паціху падымаецца сонца. Распаўзаюцца над гародамі космы туману, пад вільчыкамі дамоў пачынаюць радасна шчабятаць ластаўкі.

З двароў жанчыны і мужчыны выганяюць кароў. Пасуць тут па чарзе — двароўка. Адна карова — адзін дзень. Калі ходзіць у чарадзе цялушка — таксама дзень. Тры авечкі — яшчэ адпасвай дзень...

— Ой, Марынка, — ускрыквае ўвішная, нечым падобная на асу, жанчына. — На табе зноў новы жакет.

Марына — тоўстая няўклюдная кабета неахвотна паварочваецца на голас. На ёй у буйную клетку светлы пінжак з моднымі разрэзамі па баках. Некалі яго насіў, можа, дзе ў Саксоніі які бюргер. Апратка ледзь не трашчыць на Марынінай постаці. Яна не звяртае ўвагі на словы, моўчкі хвошча лазінай карову і гупае цяжкімі гумовымі ботамі за чарадой.

Па адзенні тут хоць вывучай геаграфію. Камізелька, што на Міхайлу, мусіць, прыехала з Даніі; спадніцы і світэры на жанчынах — з Францыі, Швецыі, Швейцарыі. Жонка пастуха Максіма (ён пасе калгасную гавяду) уздзела белыя шорты.

— Ці не Максімавы ты споднікі, галубка, спрасонку надзела? — жартуюць мужчыны.

Максімава Паліна не адказвае. На галаве ў яе — нешта падобнае на цюбецейку. У такіх шапачках ходзяць у Ізраілі ў сінагогі маліцца...

Адным словам — гуманітарка. Якімі шляхамі трапіла яна ў гэтую лясную вёску — іншая гісторыя...

## ДАНІК ВЯРНУЎСЯ З ГОРАДА

Даніку даўно пераваліла за шэсцьдзесят; ён — дзед, а яго ўсё роўна па прывычцы клічуць Данікам. Ледзь не ўсё жыццё ён пасвіў жывёлу, рэдка калі адлучаўся з роднай вёскі. Хіба толькі — калі служыў у арміі ды ездзіў на Каўказ — як праўленне прэміравала пуцёўкай на экскурсію.

І вось днямі Данік вярнуўся з Гомеля. Быў там некалькі дзён — ездзіў, каб купіць сабе алею, мукі, цукру, іншых прыпасаў. Іх звычайна не прывозіла аўтакрама, што раз у тыдзень наведвалася ў вёску.

— Ну, як там жыццё ў горадзе? — пытаюцца ў Даніка.

— Лепей жывуць, чым мы.

— Чым жа лепей?

— Ходзяць сабе, як паны. Усюды — асфальт. Ядуць розныя мармелады-памады.

— Так ужо і мармелады? — не паверыў нехта.

— Сам бачыў, — перахрысціўся Данік. — І амаль усе — у хромавых пінжаках. Аж парыпваюць, калі ў аўтобус якая краля заходзіць. Мне б такую куртку — я б ладнае сядло для каня зварганіў.

— Ах, Данік, Данік, — падаў голас Чыгрынчык — мужчына, што часцяком прыязджаў да сваіх старых. — А ці бачыў ты чэргі ля цыстэрнаў з надпісам "Малако"? Я дык кожны раз на аўтавакзале сустракаю пажылых дзядзькоў — акуркі-бычкі ля сметнікаў збіраюць. Сорамна, а збіраюць.

— Усё роўна там лепей, — упарта матае галавой Данік. — Зойдзе якая фіфа ў тралейбус, дык за кіламетр ад яе духамі нясе. У мяне раз аж галава закружылася.

## МАЧЫХА

Антон Серада з далёкай Зарэчнай вёскі прывёз новую жонку. Завуць яе непрывычным у гэтых мясцінах імем — Сынклетаю. Пасылалі туды Антона, лепшага камбайнера, дапамагаць суседзям убіраць збожжа. Як бы там ні было, а Серада пазнаёміўся з маладой удавой. І вось ідзе яна першы раз да калодзежа. Нясе з сабой каромысел, што прывезла, Антонавы ацынкаваныя вёдры.

Сынклета крочыць, а за ёю раўніва сочаць з двароў некалькі пар жаночых вачэй. Позіркі ва ўсіх нядобразычлівыя, а то і варожыя.

— Бач, прыхарашылася. Ідзе — хоць паўнюткую шклянку з вадой на галаву стаўляй.

— Дастанецца Антонавым бедным дзеткам. Ох, нагаруюцца! Мачыха.

У Серады з паўгода як не стала жонкі. Маўклівую, цягавітую жанчыну правялі ў незваротны шлях. Засталіся дзяўчаткі-блізняткі. Света і Лара.

Сынклета, аднак, не чула, аб чым перагаворваюцца суседкі. Ведала, на што рашылася, калі ўзвальвала на свае жаночыя плечы нялёгкую ношу. Абмывала і абшывала дзяўчатак. Заплятала ім коскі, калі збірала ў школу. Матлялася па гаспадарцы, бо Антон амаль цэлымі днямі карпеў пад сваім камбайнам. Круцілася, бы тая вавёрка. А ў суседчыных вачах усё роўна няродным чалавекам была — мачыхай.

Неяк Света і Ларыска бавіліся каля свайго палісадніка. Антон з Сынклетай досвіткам паехалі ў Зарэчную вёску, каб раздаць Сынклеціны транты яе аднавяскоўцам. У палісадніку буялі калы, півоні, чарнаброўцы.

— Як жа вам, сірацінкам, жывецца? — падсела да сястрычак Марчыха.

Дзяўчаткі здзіўлена ўтаропіліся на бабулю. Былі яны, як дзве кроплі вады, падобныя адна на адну. Марчыха, як і іншыя жанчыны, таксама не магла адрозніць, дзе якая.

— Мама ніколі нас не блытае, — пахвалілася Лара.

— І сукенкі вось гэтыя нам Сынклетка пашыла, — дадае Света.

— От якая наша мама.

Марчыха бяздумна ківае галавой ды нешта шэпча сухімі вуснамі.

## АДЗІНЕЦ

Ён паволі расплюшчыў вочы. Навокал, усюды на падлозе валяліся акуркі, спаленыя запалкі, шматкі паперы. Ля ложка стаялі запэцканыя ў гразь абрэзаныя гумовікі. Халявы ў іх Тодар паадразаў, калі распальваў грубку. Навошта было ісці шукаць смалістую шчапу: Тодар ведаў — яе няма. Ён працягнуў дрыжачую руку, абмацаў на століку флакон з адэкалонам. На дне заставалася зусім мала. Тодар узбаўтнуў і паднёс флакон да засмяглых губ. Усё нутро ўмомант апякло. Па жылах прывычна пабегла, як ток па правадах, пякучая вадкасць.

Трэба было неяк падымацца. Тодар успомніў: ужо другі дзень нічога не еў. Але яму, як заўсёды, хацелася толькі наталіць вечную смагу. Разжыцца ён мог на кавалак якога сала ва ўдавы Мальвіны. Пакрэктваючы, чалавек споўз з ложка, сяк-так абуў гумавыя ступакі і падаўся на другі канец вёскі.

— Добра, што прыйшоў, — сустрэла яго худая, быццам абгрызеная таранка, Мальвіна. — Бяры сахор. Ачышчай гной. Карову я выпушчу з хлява.

Цэлы дзень Тодар шчыраваў — выкідваў спрасаваны, быццам яго ўцюжылі танкам, гной. А пасля, упрогшыся ў санкі, вазіў на Мальвініны соткі. Унутры ўсё гарэла. "Хоць бы праклятая жмінда, — думаў ён пра Мальвіну, — якую шклянку падпаленай вынесла..."

Ён даўно жыў адзінцом. Зрэдку вяснною хто са спагадлівых жанчын бяліў хату. Разоў колькі спрабаваў жаніцца. Але ці ж хто будзе жыць з алкаголікам, ды ў дадатак яшчэ і лайдаком? Недзе на свеце існавалі і дзве дачкі ад Тодара. Але ён ніколі пра іх не ўспамінаў і не любіў гаварыць. Ды і што расказваць?

Пра такіх у народзе кажуць: "Даўно прадаў душу д'яблу". Ад абгароджанага двара ў яго засталіся толькі шулы з варотамі, што ўраслі ў зямлю ды перакрыўленыя веснічкі. Жэрдкі ад плота даўно спаліў.

...Калі прыцемкі насунуліся на вёску, Мальвіна паклікала:

— Гэй! На вось табе, чалавеча.

Яна тыцнула ледзь не пад нос бутэльку з мутнай вадкасцю і загорнуты ў газеціну пакунак. "Каб ты падавілася тым сама", — падумаў Тодар, але бутэльку моўчкі ўзяў. Адаткнуў заткала — панюхаў. Нават ён, які неаднойчы глытаў тое, чым паліруюць мэблю і труцяць прусакоў, зморшчыў нос. Але змоўчаў: не хацеў сябе растраўляць.

...Ноччу ён ляжаў на ложку. Тодару часам трызнілася, што ён падымаецца па прыступках на неба. Усё вышэй і вышэй. І канца тым прыступкам не было відаць. Ён урэшце ачомаўся. Гарэла (ва ўсёй вёсцы ў адной яго хаце) цьмяная электрычная лямпачка. Пад печчу шкрэбліся пацукі. Недзе ў суседзяў спяваў певень. Тодар змружыў зноў павекі. І цяпер ён быццам пачаў апускацца па прыступках ужо ўніз — у нейкае бяздонне. Дзесьці далёка пад ім штосьці кіпела, пузырылася. І ўсё выразней адтуль вырываліся доўгія языкі полымя. Пахла серай, як з якога гейзера. (Тодар некалі служыў на Камчатцы). Ён дыхаў хрыпла, са свістам...

## Заўжды ў пошуках



**Работнікі Скідзельскай гарадской дзіцячай бібліятэкі (загадчыца Н. Белая і бібліятэкар Р. Кузьміцкая) заўжды ў пошуках новага ў рабоце з чытачамі — вучнямі трох агульнаадукацыйных сярэдніх школ. Нядаўна ў бібліятэцы падрыхтавалі альбом "З любоўю аб родным краі", у якім сабраны фотаздымкі мясцовых краязнаўцаў, матэрыялы па гісторыі Скідзельшчыны, допісы пра людзей мінулага і сучаснага. Ёсць раздзел "Скідзельшчына літаратурная" і "Гродзеншчына літаратурная". Альбом экспануецца не толькі ў бібліятэцы, але ў сярэдніх школах, СПТВ-199, клубах, на грамадскіх сходах і іншых мерапрыемствах.**

**Ільля БАРЫСАЎ**

## Голас — і хор



**Гэты канцэрт Дзяржаўнага камернага хору Беларусі быў не зусім звычайны. Як заўсёды пад кіраўніцтвам свайго маэстра Ігара Мацюхова ярка, пранікнёна, выразна ён выконваў праваслаўную музыку, а таксама творы І. Лучанка, Ю. Фаліка. Праграма прысвячалася... салістцы хору Раісе Шытавай з нагоды 30-годдзя яе творчай дзейнасці.**

**Пасля заканчэння Гомельскага музычнага вучылішча яна працавала салісткай сталічнай філармоніі. На яе прыгожы голас звярнуў увагу Віктар Уладзіміравіч Роўда, які запрасіў Р. Шытаву ў хор тэлерадыёкампаніі. Не раз мне даводзілася слухаць гэты прывабны голас па радыё, тэлебачанні, непасрэдна на канцэртах.**

**У камерным хоры яна працуе з дня заснавання, дзевяць гадоў. І хаця ў гэтым калектыве сярэдні ўзрост артыста — 26, асаблівай розніцы ў гадах спявачка сярод калег не адчувае. Таму што іх аб'ядноўвае вялікая любоў да мастацтва. А яе, уладальніцу прыгожага мецца-сапрана з чароўным тэмбрам, любяць і паважаюць.**

**У той вечар Раіса Шытава была проста "на вышыні". Такое яркае захапляючае выкананне салісткі з хорам рэдка пачуеш. А як проста і не проста, ад усяго сэрца, прагучалі ў яе выкананні творы П. Чайкоўскага, Т. Талстой (партыя фартэпіяна — Юры Гільдзюк)!**

**Вечар у Зале камернай музыкі сабраў сапраўдных прыхільнікаў мастацтва.**

**Дарэчы, у праграме ўдзельнічала шмат выдатных музыкантаў. Сярод іх — трубач Андрэй Кавалінскі, флейтысты Яўген Віданаў, Сяргей Картэс, арганіст Аляксандр Рудніцкі. Яны дапамаглі рознабаковаму раскрыццю таленавітай спявачкі Раісы Шытавай.**

**Юбілярку літаральна засыпалі кветкамі...**

**Вера КРОЗ**

*Фота Я. КОКТЫША*

БАЛЕТ

# Яго немагчыма не заўважыць

Два стрэлы... няма ні забітых, ні паране괐ных. Толькі неўразумелыя позіркі людзей на сцэне і за кулісамі. А ў аркестры — бравурная музыка. Ідзе II акт балета "Карасар"...

"Я пачуў стрэлы, седзячы ў грымёрным цэху, папраўляючы грым, — расказвае Аляксей Авечкін. — Потым музыка. Унутры ўсё абарвалася, за тры секунды я быў на сцэне..."

Тыя бутафорскія стрэлы трапілі ў самае сэрца. Спазніўся! Па словах Аляксея, боязь спазніцца на сцэну пераследавала яго пастаянна. "Жахлівае пачуццё: здаецца, спазняешся, спазняешся... І вось — спазніўся".

Такі вось кур'ёзны эпізод з жыцця артыста, які паспеў ужо звярнуць на сябе ўвагу прыхільнікаў Тэрпсіхоры.

Аляксей Авечкін — малады саліст Нацыянальнага тэатра балета Беларусі, выканаўца сольных і вядучых партый у класічным рэпертуары і ў пастаноўках сучасных харэографаў. Прыйшоў у свет прафесійнага мастацтва, так бы мовіць, праз церні.

НАРАДЗІЎСЯ ў Брэсце, там жа атрымаў першыя танцавальныя і музычныя навыкі, займаючыся ў школе з харэаграфічным ухілам. Быў рэкамендаваны для далейшага навучання ў Беларускае дзяржаўнае харэаграфічнае вучылішча. Але першая спроба паступіць у адзіную на Беларусі "балетную школу" не ўвянчалася поспехам.

І будучы стваральнік яркіх запамінальных сцэнічных вобразаў, які ўжо тады выразшыў, што танец — гэта ягонае прызванне, паспрабаваў шчасця яшчэ раз, праз год. І яно ўсміхнулася яму. Алёша быў прыняты ў БДХВ па даборы, у II клас.

Першыя заняткі тут не тое каб расчаравалі, але разбурылі спадзяванні не па ўзросце сур'ёзнага, удумлівага хлопчыка, які прыехаў танцаваць, а не вучыцца танцу. Ды дзякуючы мудрым павучанням свайго першага педагога Галіны Сінельнікавай Аляксей зразумеў, што праца, сапраўды праца да сёмага поту, самааддача, самакантроль — нязменныя спадарожнікі тых радасных момантаў, калі артыст творыць на сцэне.

Кожнаму ў балеце шанцуе па-свойму. Аляксей лічыць, што яму пашанцавала з педагогамі: Г. Сінельнікава, А. Мартынаў, У. Азімаў. Кожны з іх унёс значны важкі ўклад у развіццё яго прафесійных дадзеных, творчай індывідуальнасці.

ПЕДАГОГ, ён у класе педагог, а настаўнік — настаўнік па жыцці. Такім настаўнікам для героя гэтых нататкаў стаў Аляксандр Мартынаў. "Педагог ад Бога, — гаворыць Аляксей, — у яго можна вучыцца ўсё жыццё і не паспець узяць усё, што ён дае".

Цалкам аддаючыся балету, Аляксей не дазваляе сабе працаваць "на паўнагі". Аднак яго ніколі не ўбачыш замучаным "тяжелой неволей", "упрацаваным", да знямогі. "Таму што Мартынаў навучыў мяне працаваць разумна, не кідацца ў вір з галавой, не грызці локці пасля першай няўдалай спробы, бо абавязкова будзе другая...", — тлумачыць ён.

Вядома, гэты педагог ведае і любіць сваю справу, шчыра аддае свае веды вучням, натхняючы іх на вялікую, сапраўдную творчасць. Бо не можа патрабаваць натхнення ад артыста, калі не гарыць ім сам. "За Аляксандрам Сяргеевічам можна ісці, заплюшчыўшы вочы..." — прызнаецца А. Авечкін.

Несумненна, вялікую ролю ў фарміраванні сцэнічнага густу Аляксея, яго акцёрскіх ідэалаў адыграла плеяда артыстаў, якія выступалі на беларускай харэаграфічнай сцэне, калі сам ён быў яшчэ вучнем. Гэта У. Камкоў, У. Іваноў, Ю. Раўкуць, Т. Яршова, І. Душкевіч, Т. Шаметавец і іншыя. Пазней з некаторымі з іх маладому артысту пашчасціла працаваць, стварыць складаныя вобразы, быць партнёрамі. "Што да ідэалаў, — гаворыць А. Авечкін, — Душкевіч ды Іваноў — эталон ва ўсім. Я нават зайздросціў Іванову, зайздросціў ягонай магчымасці танцаваць з такой партнёркай, як Інеса Душкевіч".

ПРЫЙШОЎШЫ на працу ў тэатр, Аляксей хутка засвоіў кардэбалетны рэпертуар. Высокі, стройны, прыгожы, праўда, вельмі худы, ён, нібы выпраменьваў любоў да балета, непадробнае імкненне дасягнуць вышыняў у любімай прафесіі. Плюс працавітасць і працаздольнасць. Аляксея нельга было не заўважыць!

Паступова рэпертуар маладога артыста стаў напаўняцца больш значнымі ролямі.

"Дон Кіхот". Эспада — А. Авечкін. Прыгожы, смелы, ганарлівы, высакародны, строгі. Да таго ж, кахае, і каханы. Так, меналіта яна, ягоная Мерседэс — Т. Шаметавец, абудзіла ў ім і страсць да гераіні спектакля, і страсць да сцэнічнага жыцця. Менавіта Т. Шаметавец дапамагла танцоўшчыку-пачаткоўцу адчуць сябе на сцэне. Бо нярэдка, нягледзячы на сваю цэнтральную ролю, артыст застаецца згубленым на сцэне як для сябе, так і для гледача, і для калег, якія яго акружаюць. Тым больш, калі ён яшчэ "малы ды недасведчаны".

"Я бясконца ўдзячны Таццяне Шаметавец — той партнёрцы, якая па-сапраўднаму вывела мяне на сцэну, з якой я ўпершыню адчуў поўнае ўзаемаразуменне. Побач з ёй я адчуў сваю значнасць. Я быў неабходны ёй, і не мог дазволіць маёй Мерседэс усумніцца ў сваім выбары. Яна ж выбрала мяне..." Акрамя таго, ніякай недакладнасці ў харэаграфіі, ніводнага лішняга, пабочнага позірку, жэсту.

Так... Дасведчаны, добразычлівы педагог у зале, натхнёны, чулы партнёр на сцэне неабходны артысту, як паветра. Бо няма нічога больш страшнага для акцёра, чым адзінота на сцэне.

АТРЫМАЦЬ для развучвання новую партыю заўсёды радасна, ганарова не толькі для маладых перспектыўных танцоўшчы-

# "...А ў духоўнага мяжы няма"

(Працяг. Пачатак на стар. 1)

Самы адданы і самы патрабавальны чытач вершаў — той, хто некалі пісаў іх сам. Гэта ж стасуецца і з балетам. Дагэтуль апякае сэрца, калі чытаю жыццяпіс Айседоры Дункан ці Марго Фантэйн; калі згадваю першыя ўласныя заняткі ў балетнай студыі ленінградскага Дома вучоных, нядзельныя школьныя абанементы ў Кіраўскі (так называўся тады Марыінка) ды ў Малы оперны і пазней — наведанне спектакляў у Мінску.

Так, балет хваляваў з дзяцінства, хаця былі і перапынкі ў захапленні. А постаць балетмайстра зацямнялася да часу танцорамі, заставалася ў ценю.

Пішу гэты доўгі ўступ нібыта довад свайго права пісаць пра такую яркую, буйную, адзіную з'яву, як харэограф Валянцін Елізар'еў.

Спрадвек паэзія бліжэй за ўсё да танца — і тое, і другое нарадзілася з шаманства, з чараўніцтва, з рытуальнага жэста, замоўнага слова, якое было роўнае дзеянню. Нездарма большасць паэтаў свае вершы нібыта сувымяраюць з крокам, чытаюць іх, разгойдваючыся, адбіваючы нагой ці адмахваючы рукой рытм, і не любяць чытання артыстычнага, сэнсавага. Балет і паэзію родніць яшчэ й тое, што яны гранічна ўмоўныя, выразнасць дасягаецца толькі перааdоленнем (пасля выканання) чыста фармальных правілаў.

Так, балет быў маёй першай любоўю, перанесенай на паэзію. І тое, і другое перадусім выяўляюць адчуванні, не думку, — адчуванні вечныя: каханне, смерць. Але ж ёсць яшчэ і вострыя пытанні сучаснасці, не ў балеце шукаць на іх адказу. Якраз тады з'явіліся рэжысёрскія драматычныя калектывы — тэатр Ю. Любімава, тэатр Г. Таўстаногава. Але не зацямнілі яны славу Ю. Грыгаровіча, абнаўляльніка мовы класічнага балета, — паламаная лінія танца Гаспадыні Меднай Гары была сугучная пытанням разгубленай душы сучасніка. Змянялася эстэтыка, і шляхі перамен шукаліся недзе там, у Ленінградзе, у Маскве.

І раптам (а я ўпэўнена, што ўсё самае важнае пазнаецца ніадкуль, "з паветра", у якім носіцца штосьці заўсёды!) ужо зусім побач загучала спалучэнне: "Стварэнне свету" — "Валянцін Елізар'еў".

Як? Не дзесьці там, далёка, а тут, пад носам? Недавер, прадузятасць — прызнаюся, усё было, і вельмі моцнае. Гэта як у вершах: наватарства — добра, але ў меру.

Перагледзела днямі "Стварэнне свету" на відэакасеце — і зразумела: як жа ўсё тады супала! Патрэба самасцвярджэння, самарэалізацыі маладога мастака, новы, свежы, "з іголачкі" балет А. Пятрова: свет нараджаўся зноўку на нашых вачах! Як быццам усе ведалі легенду пра стварэнне свету, але "ажыўленыя" малюнкі Жана Эйфеля пераканаўся як адкрыццё. Свядома ці паводле інтуіцыі, але талент таму і ёсць талент (ад Бога!), што выяўляецца ў тым самым месцы, у той самы час, дзе яму неабходна быць, дзе яго чакаюць. На Беларусі нараджаўся новы паводле светаадчування балет — балет думкі. І нават на відэакасеце "Стварэнне свету" (якое шчасце, што гэта магчыма!) працягвае хваляваць. Выключная чысціня ліній, высакароднасць танца Л. Бржазоўскай і Ю. Траяна даюць высокую эстэтычную асалоду. А ў момант жа самой прэм'еры — дзіўна ўспомніць — умоўна аголеныя целы Евы ды Адама, адсутнасць звыклых "пачак" ледзь не шакіравалі. Так, балет гэты цудоўны, і ніколькі не састарэў, наадварот, наша ўспрыманне дагнала, нарэшце, вострую, як выпад шпагі, задуму балетмайстра. Спектакль у актыве тэатра і дасюль. А ў папцы ў Валянціна Мікалаевіча тэлеграма ад сааўтара — кампазітар Андрэй Пятроў віншуе з двухсотым спектаклем: "Гэта для кнігі рэкордаў Гінеса" (дата 17.10.95).

Знарок абмінаю шэраг цудоўных пастановак і высноўваю сваю канцэпцыю творчасці Елізар'ева так: ад "Стварэння свету" А. Пятрова да славянскіх каранёў "Вясны свяшчэннай" І. Стравінскага і далей — праз прыняцце хрысціянства ў "Страсцях" ("Рагнедзе") А. Мдзівані, — новы зварот да "Вясны свяшчэннай", выбранай для пастаноўкі з нагоды юбілею.

"Рагнеда" — спектакль пра страсці, пра пасіянарыя Уладзіміра; тут сутыкаюцца мужчынскі і жаночы пачаткі, як і ў "Стварэнні свету", але не толькі. Гэта — як апазіцыя агню і вады, агрэсіўнасці і доўгацярпення, паганскага і хрысціянскага ў светаразуменні. Хаця дзеянне балета разгортваецца да часоў, калі старажытная Русь яшчэ не падзялілася на тры рэчышчы, але Рагнеда, Полацк, Беларусь — а міжволі і рускабеларускія супярэчнасці-процістаянні — тут прачытваюцца. Мы ж... Мы паводле менталітэту ёсць тыя, з кім самі сябе ідэнтыфікуем. Кім пачувае сябе Валянцін Елізар'еў?

### МАНАЛОГ МАЙСТРА

"Я сфармаваўся як грамадзянін СССР. У Мінску — з 1973 года. Нарадзіўся ў Баку — да перабудовы гэта быў горад інтэрнацыянальны, шматмоўны, стракаты, як усе прыморскія партовыя гарады. Вельмі энергетычны.

Займаўся ў дзяцінстве ў танцавальнай студыі Дома афіцэраў. Маці ў мяне ўкраінка, бацька — казак. Раней я пра гэта не задумваўся, але казакі заўсёды былі вольныя людзі, такім і я сябе заўсёды пачуваў. Вучыцца паехаў у Ленінград, спачатку — вучылішча, потым — кансерваторыя, у балетмайстра Бельскага. Адна з маіх першых, яшчэ студэнцкіх пастановак атрымала 2-ю прэмію на Усесаюзным конкурсе балетмайстраў.

Балет — гэта вялікае мастацтва XX

каў, а і для знакамітых майстроў сцэны. Дакрананне, знаёмства, глыбіннае спазнанне героя, раскрыццё новых рысаў ягонага характару, пра якія ты не падазраваў дагэтуль. Дзе, як не ў балетах В. Елізар'ева, артыст можа знайсці тую шматграннасць вобразаў, невычарпальнасць нюансаў, закладзеных у характарыстыцы кожнага персанажа спектакля!

"Стварэнне свету". Бог — А. Авечкін. Чалавеку ўвасобіць Бога — ужо ў гэтым ёсць неперааддольная перашкода. Аляксей цяжка ішоў да спасціжэння ролі. Магчыма, не хапала пэўных ведаў і жыццёвага вопыту. Спраўляючыся з тэхнічным бокам партыі, Аляксей ніяк не мог злавіць, адчуць унутры стан свайго незямнога героя. Даводзілася метадам спробаў і памылак шукаць, вяртацца назад, зноўку прабіваць нябачную сцяну перашкод, рухаючыся ўсё бліжэй да ісціны. Выходзячы ў "Стварэнні свету" ужо каля двух гадоў, А. Авечкін толькі на апошнім спектаклі пачаў па-сапраўднаму ўжывацца ў ролю: крышачку наблізіўся да патрэбнага настрою свайго героя, пачаў адчуваць атмасферу усяго спектакля.

У кожнага артыста ёсць мара. Гэта можа быць мара пра канкрэтную ролю, пра партнёра, дырыжора, пра спектакль увогуле. Да Аляксея Фартуна яўна павярнула свой пагляд. Яго запаветная, здавалася, недасяжная мара збылася.

"Жызель". Альберт — А. Авечкін, Жызель — І. Душкевіч. Любімы спектакль, любімая доўгачаканая роля і... абагаўляемая партнёрка. "Такога проста не бывае! — смяецца Алёша. — Так, я марыў пра "Жызель", але пра "Жызель" з Душкевіч нават і не марыў..."

Ягоная работа над гэтым спектаклем працягвалася доўга. Паступова, крок за крокам, асвойвалася пластычная лексіка, шукалася сваё ўласнае прачытанне вобраза. Безумоўна, працуючы з такой партнёркай, як Душкевіч, немагчыма ў сваёй душы пакінуць, зберагчы штосьці "на потым", г.зн. эмаладушнічаць, паскупіцца на пачуцці.

Граф Альберт — Авечкін, вырваўшыся на свабоду з аднастайнага, напышлівага, сумнага вышэйшага грамадства, выглядаў сапраўды шчаслівым, радасным, бесклапотным. Воля закружыла яму галаву. І, убачыўшы мілую, непасрэдную сялянскую дзяўчыну Жызель — І. Душкевіч, Граф — А. Авечкін закахаўся ў яе з першага погляду. Мяркуючы па тым, як ён глядзеў на Жызель, заляцаўся да яе, радаваўся яе радасцям і перажываў ейны боль, ён сапраўды кахаў і хацеў быць каханым.

Герой А. Авечкіна ні ў якім разе не іграў пачуццямі, не крывадушнічаў, толькі змірыўся са сваім становішчам багатага вяльможы, якому наканавана нявеста са знатнага роду. Смерць любай пакінула адбітак пакуты як на тварах, так і ў душы Графа, які дагэтуль не ведаў гора і турбот. Журба, успаміны, пачуццё віны прыводзяць Альберта на магілу Жызелі. Дзіўна, але пры з'яўленні прывіду любімай, Граф — А. Авечкін раптам сам ператвараецца ў бязважкую, нязямную істоту. Яна лунае над зямлёй — ён паўтарае яе. Душа ў душу! І здаецца, ужо нішто не можа разлучыць іх. Але існуе жорсткая рэальнасць: ён жывы, яна мёртвая.

І вось, нарэшце, быццам прачнуўшыся, Альберт — Авечкін глядзіць у залу жывым, ясным позіркам. Ён вярнуўся ў рэальны свет, несучы ў сабе светлую памяць пра чалавека тонкай душы, пяшчотную, крохкую Жызель — Душкевіч, якая здолела дараваць і ўратаваць...

Нягледзячы на тое, што гэта "чыстай вады" рамантычны балет, Аляксею не пашкодзіла б часам "спусціцца на зямлю" і дадаць крыху рэальнага ў вобраз графа Альберта ў II акце балета. Занадта адкінутая галава, погляд, пастаянна скіраваны ўгару, не дае магчымасці ўбачыць вочы героя, а менавіта ж яны — галоўны "праваднік" настрою! Глядач губляе магчымасць убачыць натхнёнае аблічча артыста — адлюстраванне найдробных нюансаў яго душэўнага стану. Сцэнаграфія і асвятленне, застаючыся нязменнымі на працягу ўсяго II дзеяння "Жызелі", абавязваюць саліста ў патрэбнай ступені разнастаіць вобраз і не даць гледачу прывыкнуць да героя спектакля, а значыць у нейкай меры страціць да яго цікавасць.

ТРЭБА ШМАТ працаваць у рэпетыцыйнай зале, каб, выходзячы на сцэну, артыст атрымліваў задавальненне і дасягаў уплыву на публіку. Бо сіла мастацтва — у поўнай аддачы з боку акцёра і стопрацэнтным успрыманні гледача. Толькі тады ўзнікае кантакт, і нябачная сцяна, што падзяляе людзей па адзін і другі бакі рампы, знікае. І застаецца ў памяці незабыўнае відовішча — мара кожнага сапраўднага артыста і кожнага сапраўднага гледача.

**Дана БАКУНЧЫК**

стагоддзя. Для ўзняцця яго статуса шмат зрабілі Чайкоўскі, Стравінскі, Пракоф'еў, Шастаковіч. Менавіта ў XX стагоддзі ў балет прыйшла вялікая літаратура і вялікая музыка. Правільней, пачаўся іх рух насустрач адно аднаму. Што першаснае? Часам літаратура дае штуршок уяўленню: "Рагнеда" пачалася з чытання летапісу. Зацікавіў Мдзівані сюжэтам. Здзіўляла жорсткасць Уладзіміра — чалавек без маралі залічаны ў лік святых? Захацелася зразумець, спасцігнуць тайну...

Любімы балет? Вядома ж, той, што нараджаецца цяпер. Гэта як дзіця... "Стварэнне..." — гэта быў вельмі добры перыяд. Сын Саша быў маленькі — "падглядзеў" у яго пластыку Адама. Гэта балет пра станаўленне чалавека ў чалавеку. Глядач прыняў маю канцэпцыю балета як мастацтва думкі... Мы тады мала ездзілі, прыязджалі глядзець да нас — знаўцы і аматары з Масквы, з Пецярбурга.

А да Стравінскага ўсё вяртаюся. Гэта прыклад, калі штуршок зыходзіць не ад літаратуры — ад музыкі! У творах Стравінскага сфакусаваліся ўсе асноўныя тэндэнцыі музыкі XX стагоддзя. Ён жа, можна сказаць, наш зямляк! (Бацька Ігара Фёдаравіча нарадзіўся ў Мінскай губерні, вёсцы Новы Двор Рэчыцкага павета). Карані ягоныя — на Беларусі! Палякі або літоўцы даўно зрабілі б яго нацыянальным здабыткам, ганарыліся б ім! А на Беларусі толькі дзесяць гадоў таму была першая пастаноўка "Вясны свяшчэннай". Усе балеты Стравінскага павінны ісці на нашай сцэне. Як п'есы Чэхава ў МХАТе. Мы ў даўгу перад геніяльным кампазітарам.

Для мяне важна вяртанне да тэмы славянства, да вытокаў, самых старажытных яго пластоў. Гэта час, калі фарміравалася светаўспрыманне, адбываўся пераход ў свядомы стан: "хто ты ёсць?" Наступнай пасля аднайменнай "Вясны свяшчэннай" будзе пастаноўка "Жар-птушкі" Ігара Стравінскага.

Цяпер мы, наша трупа, шмат ездзім, пачалі зарабляць грошы. Цікавей за ўсё мне — на Усходзе. Старажытная культура хвалюе фантазію. Адпачываецца ўтульней за ўсё ў Балгарыі, разам з маёй жонкай Маргарытай. Жыць не ў рускамоўным асяроддзі не змагу, хоць ёсць прапановы, выгадныя кантракты на Захадзе.

Прафесійныя праблемы? Балет, вядома ж, ставіцца на пэўнага выканаўцу. Апроч тэхнікі, вельмі важная адухоўленасць. Першы выканаўца найбольш дакладна нясе аўтарскі тэкст. З часам паступова ідзе "засмечванне" тэксту. Таму вельмі важная чуйная праца рэпетытара. І ёсць праблема рэпетытарства. Бо не ўсе, хто некалі сам ззіхацеў на сцэне, пражываў на поўную сілу ролю, умеюць гэта перадаць, удыхнуць жыццё ў вучня.

Ёсць, вядома, праблема захавання лепшых кадраў у рэспубліцы. Праблема працы з творчай моладдзю. Наогул — праблема фінансавання мастацтва дзяржавай.

Беларускі балет — трупа адметная, гатовая на эксперымент, а гэта ж заўсёды рызыка. Ад артыстаў часам я патрабую чагосьці на мяжы фізічных магчымасцяў. Бо адкрыццё заўжды прыходзіць на мяжы сіл. Але і не павінна быць таго, што ўвесь час крычыць. У фізічных магчымасцяў, гэта я добра адчуваю, ёсць свая мяжа. У духоўнага — няма мяжы...

Я глыбока ўдзячны сваім спадзяжнікам у тэатры — салістам, артыстам, рэпетытарам, педагогам, канцэртмайстрам за працу, цярплівасць і натхненне ў супольнай рабоце".

●

Балетмайстар у тэатры — гэта капітан карабля. Прагледаючы на відэакасеце запіс рэпетыцый Валянціна Мікалаевіча, зацвердзілася ва ўражанні: мужнасць, улада, бясстрашнасць, уменне прымаць рашэнне і весці за сабой, — усё гэта складнікі таленту балетмайстра, таленту Асобы. Як не хапае нам у жыцці — не толькі ў тэатры — людзей, якія гэтымі якасцямі валодаюць!

**Любоў ТУРБІНА**

МУЗЫКА

# Узыходзячая зорка Арцёма Шышкова

***Пяшчотныя гукі скрыпкі пранікаюць у нас гэтак жа лёгка і свабодна, як водар кветак, як спевы птушак, як шум мора. Яе прыветны голас абуджае ў спакутаванай душы любоў. Яна прымушае адчуваць свяшчэннае трапятанне перад абліччам Стваральніка. Але калі яна распаляецца, то з плынню бліскучых пасажаў адносіць у заволачны свет асалоды і прыгажосці.***

I

Упершыню я пачуў 12-гадовага Арцёма Шышкова на I Міжнародным форуме творчай моладзі, які праходзіў у Мінску. Уразіла ягоная не па-дзіцячы сур'ёзная ігра. Было адчуванне, што на сцэне — сталы музыкант з немалым вопытам канцэртных выступленняў.

Больш падрабязна пра Арцёма і ягонага настаўніка Эдуарда Віктаравіча Кучынскага даведаўся з радыёперадачы. Шчыра парадаваўся іх творчай акрыленасці. І неўзабаве захапіўся ідэяй арганізаваць сольныя канцэрты юнага скрыпача ў Лідзе, Гродне і Мінску. Тым больш, што гэты беларускі хлопчык з дзевяці гадоў выступае за мяжой, а мы — тутэйшая грамадскасць, наша моладзь — незнаёмыя з яго цудоўным майстэрствам. Гэта несправядліва. Было крыўдна за свой народ!

Аднак узніклі непрадбачаныя складанасці.

З раніцы да вечара бегаў па школах, па кабінетах вялікіх і малых начальнікаў. Хацеў з іх дапамогай запрасіць дзяцей на канцэрты Арцёма. На маё здзіўленне, ніхто не гарэў энтузіязмам дапамагчы. Чыноўнікі адмахваліся ад мяне, як ад надакучлівай мухі. Або бездапаможна разводзілі рукамі: маўляў, мы не маем права кагосьці прымушаць ісці на канцэрт. Спасылаліся на адсутнасць залаў, раяля і да т. п. Помню, як адной высокапастаўленай даме даводзіў, што Арцём Шышкоў — надзвычай таленавіты, што ён выступае ў многіх краінах Еўропы, што яму дапамагае сам Уладзімір Співакоў. Яна неўразумела глядзела на мяне і раптам спытала: "А гэты хлопчык-скрыпач на чым будзе іграць: на піяніне?" Вось табе і маеш! Падумаў: "Спатрэбіцца яшчэ 100 гадоў, каб народ стаў цывілізаваным!"

У Гродне абышоў 16 арганізацый, у Мінску — каля 20. Звяртаўся ў Міністэрства культуры, у Адміністрацыю Прэзідэнта. І што ж? Далёка не ўсюды сустракаў нават разуменне. Даводзілася выкладаць усё новыя і новыя аргументы. "Падумайце, — гаварыў сваім субяседнікам, — за грошы, выручаныя ад канцэртаў Арцёма ў Швецыі і Нарвегіі, прайшло курс аздараўлення 900 чарнобыльскіх дзяцей з Беларусі, Расіі і Украіны! Чаму ж мы ў знак удзячнасці не можам арганізаваць яму сольны канцэрт у Мінску?.. Як ён будзе думаць пра Беларусь, калі, барані Бог, пакіне яе?"

Часам здавалася, што мая задума нерэальная. Ды і ці трэба траціць столькі сіл і часу на зусім староннае для цябе дзіця, няхай нават вельмі таленавітае? Але, з другога боку, калі ўрэшце ўбачыў, як публіка ўстае з месцаў і з захапленнем апладзіруе, — я адчуў сябе шчаслівым: бо не хто іншы, а менавіта сам арганізаваў першыя сольныя канцэрты маладой знакамітасці на радзіме!

II

У Арцёма русыя валасы, светлы твар, блакітныя вочы. Ён негаваркі, не спяшае выказвацца. Але калі бярэ ў рукі скрыпку, душа яго пачынае спяваць з такім пранікненнем, якое адразу скарае. У свой час Мсціслаў Растраповіч пісаў: "Адчуваю інструмент, як жывую істоту. Часам мне здаецца, што я складаю з ім адно цэлае". І Арцём душою зліваецца са скрыпкай. Ад нячутнага дакранання да струн адбываецца цуд: пяшчотныя гукі закранаюць нашы самыя патаемныя думкі і пачуцці.

Арцём на рэдкасць сціплы. Яму не ўскружылі галаву шматлікія перамогі ў конкурсах, узнагароды, прэміі. Яго святы абавязак — пастаянна ўдасканальвацца. У яго склаліся цудоўныя адносіны з педагогам. Усё гэта дазваляе верыць у шчаслівую будучыню юнага музыканта. Я цалкам згодны з думкай амерыканскага дырыжора Канстанціна Арбеляна, што "гэтага хлопчыка праз дзве-тры гады будзе ведаць уся Еўропа".

Ужо цяпер Арцём дасягае значных вынікаў у выкананні класічнай і сучаснай музыкі. У ягоным Моцарце — бестурботная радасць жыцця, у ягоным Чайкоўскім — адухоўленая лірыка, у ягоным Масне — задуменная элегічнасць. У сферы ўзвышаных эмоцый ён магічна дзейнічае на людзей. Дастаткова арыгінальныя трактоўкі твораў розных кампазітараў. Ягоны Вяняўскі — ганарлівы, вытанчаны; ягоны Сарасатэ — драматычны; урыўкі з балета Пракоф'ева "Рамэо і Джульета" сведчаць пра наяўнасць у выканаўцы тонкага пачуцця стылю, а п'еса Крола "Банджо і скрыпка" — маладой весялосці і гумару. Пры гэтым у кожным творы Арцём імкнецца да класічнай завяршанасці, да гармоніі і прыгажосці. І ў гэтым ён суладны з Валерыем Клімавым ды Уладзімірам Співаковым. Лічу, што ўсе трое — і Клімаў, і Співакоў, і Арцём Шышкоў (не пабаюся паставіць ягонае імя побач з імёнамі славутых артыстаў!) — адносяцца да светланоснай апалонавай галіны скрыпічнай школы.

Што датычыць знешніх абставін жыцця Арцёма, то яны такія ж адметныя, як і яго ўнутраны свет.

У сакавіку Арцёму споўнілася 13 гадоў. Перайшоў у 8 клас Рэспубліканскага ліцэя пры Беларускай акадэміі музыкі. Двойчы станавіўся лаўрэатам міжнародных конкурсаў: заняў I месца на конкурсе імя Яна Кацьяна (Чэхія) і II месца на конкурсе імя Баліса Дварыёнаса (Літва). На конкурсе ў Класцер Шанталь (Германія) выйшаў на IV месца (трэцяе не прысуджалася, нягледзячы на тое, што конкурс быў прадстаўнічы і сабраў скрыпачоў з 20 краінаў свету).

Арцём — стыпендыят Спецыяльнага фонду Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь па падтрымцы творчай моладзі і Міжнароднай праграмы "Новыя імёны" (ягонае імя занесена ў Залатую кнігу "XX стагоддзе — XXI"). А яшчэ ён — стыпендыят фонду Співакова. Не раз сустракаўся з маэстра, бачыць у ім свайго куміра. З дапамогай фонду Співакова была набыта скрыпка, на якой цяпер іграе юны беларускі музыкант.

У 1996 годзе выступаў з Маскоўскім камерным аркестрам у краінах Скандынавіі. Паўсюль яго прымалі захоплена. Вывешваліся транспаранты са словам: "Прывітанне, Арцём". Выходзілі газеты з ягонымі фотаздымкамі на першых старонках. Запісваліся відэакасеты, каб аматары музыкі маглі паслухаць ягоную ігру ў сябе дома. Шведы нават сабралі грошы на набыццё прыстойнай скрыпкі для таленавітага юнака. У суправаджальным пісьме сказана: "Сабраныя грошы — гэта дарунак народа Швецыі для набыцця інструмента, дастойнага ягонага таленту". Арцём даў тады 15 канцэртаў, пасля чаго атрымаў заказ яшчэ на 16. У гэтым годзе гасцінныя шведы зноў запрасілі выступіць з серыяй канцэртаў. Сёлетняя восень для яго — гэта таксама турнэ па Германіі і, верагодна, па Іспаніі.

III

У таленавітага вучня павінен быць як мінімум таленавіты педагог. У маіх вачах Эдуард Віктаравіч Кучынскі — педагог выбітны! Акрамя Арцёма, у яго ёсць яшчэ некалькі цудоўных вучняў. Даўно не пачатковец у канцэртным жыцці ягоная вучаніца лаўрэат Міжнароднага конкурсу Лідзія Дабржынец. Мне давялося таксама слухаць ігру 10-гадовай Каці Дзяругі, якая ўпэўнена выканала Санату Гендэля і Канцэрт Вяняўскага. Яе здольнасці адзначыў мітрапаліт Філарэт, выдаткаваўшы сродкі на пакупку скрыпкі.

Эдуард Кучынскі займаўся ў Малдаўскай кансерваторыі разам з Юрыем Цемірканавым, Марыяй Біешу, Яўгенам Догам. Яны належалі да слаўнай плеяды шасцідзесятнікаў, якія ўзнялі мастацтва на новую вышыню. За плячамі Эдуарда Віктаравіча 41 год музыканцкага стажу: ладная частка аддадзена працы ў аркестры, дзе быў канцэртмайстрам і дырыжорам, шмат гадоў прысвечана педагогіцы. Дык ці не стаўся падмуркам яго багаты вопыт працы з аркестрам для дасягненняў у выкладанні? Натуральна, што чалавек, які мае тры амплуа ў прафесіі, дасць больш сваім вучням, чым прадугледжана праграмай. Ён мысліць шырока і перспектыўна. Для яго важна, каб вучань быў гарманічна развіты. Невыпадкова Кучынскі мае намер у бліжэйшы час навучаць Арцёма дырыжорскаму майстэрству. І, вядома, зусім невыпадкова Арцём марыць (як ён аднойчы сказаў на адным з канцэртаў!) мець, як у Співакова, свой аркестр і дырыжыраваць ім!

Педагог адкрывае перспектыву вучню, вучань увасабляе задуманае педагогам у жыццё.

**Віталь РАДЗІЁНАЎ,**
**старшыня Асацыяцыі кампазітараў Гродзеншчыны**

## *Перакладае з балгарскай*

УЛАДЗІМІРУ АНІСКОВІЧУ — 65



**Родам з вёскі Гасцілавічы Лагойскага раёна. Працаваў токарам і наладчыкам на Мінскім трактарным заводзе, служыў на Балтыйскім ваенна-марскім флоце, быў вадзіцелем тралейбуса ў Мінску. У 1971 годзе завочна скончыў факультэт журналістыкі Беларускага дзяржаўнага універсітэта. Яшчэ з 1969 года пачаў працаваць рэдактарам на Беларускім радыё. З 1971 па 1975 год — літаратурны супрацоўнік аддзела мастацтва і крытыкі часопіса "Нёман", з 1975 па 1982 год загадваў у "ЛіМе" аддзелам крытыкі і бібліяграфіі. Затым працаваў у рэдакцыі часопіса "Родная прырода", быў рэдактарам выдавецтва "Юнацтва".**

**У 1965 годзе У. Аніскові́ч выступіў у перыёдыцы з першым нарысам. Але прызванне (займаецца таксама крытыкай) знайшоў у перакладчыцкай дзейнасці. На беларускую мову ім перакладзены раманы І. Давыдкава "Белы конь за акном", А. Гуляшкі "Вандроўнік блукае па свеце", аповесць С. Страцієва "Кароткае сонца", Г. Мішава "Зроблена ў правінцыі", П. Вежынава "Вышэй за ўсё" і "Бар'ер", П. Незнакомава "Таямнічы карабель" і іншыя творы. Акрамя таго, пераўвасобіў па-беларуску шэраг твораў для дзяцей, сярод якіх "Жыў-быў хлопчык" А. Стаянава, "Цмок" Н. Хайтава, "Мы, верабейкі" І. Радзічкава, "Пан Трымай Мой Парасон" І. Мілева...**

**За ўдзел у падрыхтоўцы "Бібліятэкі дзіцячай літаратуры народаў СССР" У. Аніскові́ч нададзена годнасць лаўрэата Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь.**

**З 65-годдзем, шаноўны Уладзімір Ігнатавіч! Няхай Вам і надалей лёс дарue здароўе, шчасце і творчы плён!**

## *Даследчык Якуба Коласа*

АЛЕСЮ НАЛІВАЙКУ — 75

**Манаграфія Алеся Налівайкі "Аповесць Якуба Коласа "Дрыгва" ў свой час стала першым даследаваннем, прысвечаным гэтаму знакамітаму твору народнага песняра. А папярэднічала ёй кандыдацкая дысертацыя А. Налівайкі пад гэтай жа назвай. Увогуле, Алесь Міхайлавіч з тых літаратуразнаўцаў, хто паслядоўна і мэтанакіравана асэнсоўвае творчую спадчыну Я. Коласа. Аб гэтым сведчыць і яго артыкул "Стыль і мова аповесці Я. Коласа "Дрыгва", "Выяўленчыя сродкі аповесці Я. Коласа "Дрыгва", кніга "Проза Якуба Коласа".**

**А з першымі артыкуламі А. Налівайка выступіў яшчэ ў 1956 годзе. Нарадзіўся ён 20 кастрычніка 1922 года ў вёсцы Вязычын цяперашняга Асіповіцкага раёна. Скончыў мясцовую пачатковую школу, Свіслацкую сямігодку, у 1937 годзе паступіў на Беларускі педрабфак, які ў 1940 годзе быў рэарганізаваны ў педагагічныя курсы. Пасля заканчэння вучобы А. Налівайку накіравалі ў Беластоцкую вобласць, дзе настаўнічаў у Вышонкаўскай НСШ. У гады вайны быў у партызанах, у студзені 1944 года ўвайшоў у спецгрупу, якая выконвала заданне ў раёне Вільні, а потым злучылася з часцямі рэгулярнай арміі.**

**З 1946-га па 1947 год А. Налівайка — выкладчык Свіслацкай сямігодкі. У 1951 годзе з адзнакай скончыў філалагічны факультэт Магілёўскага педагагічнага інстытута і быў накіраваны ў аспірантуру пры Мінскім педагагічным інстытуце. З 1953 з'яўляўся выкладчыкам, дацэнтам на кафедры беларускай літаратуры.**

**А. Налівайка — аўтар дапаможніка "Беларуская савецкая літаратура", адзін з аўтараў падручнікаў "Беларуская літаратура", "Гісторыя беларускай савецкай літаратуры" для студэнтаў педагагічных інстытутаў. Поруч з іншымі уклаў "Хрэстаматыю па беларускай дзіцячай літаратуры" і "Хрэстаматыю па беларускай савецкай літаратуры".**

**Віншуем Алеся Міхайлавіча з 75-годдзем! Жадаем доўгіх год жыцця, поспеху!**

# "Каўчэг" плыве і збірае сваё

***Каўчэг, зрэшты, утварэнне вядомае, — са сваёй наіўнай задачай сабраць ды ўратаваць кожнага стварэння па пары. Кіраўнік беларускага "Каўчэга" Юрый ЦЫБІН мяркуе, што задача не такая ўжо наіўная; усё, што фірма выдае, збірае, здымае, друкуе, натуе ды распаўсюджвае, падтрымлівае ды кшталціць беларускі культурніцкі асяродак, уплывае на сацыё-культурны кантэкст. "Каўчэг" ужо не ўяўляе сябе без звязку з дзяржаўнымі структурамі, перад усімі — з Міністэрствам ды раённымі аддзеламі культуры.***

— Толькі за апошнія тры-чатыры месяцы, — удакладняе Юрый, — мы рыхтавалі рэкламную прадукцыю да шэрагу фестываляў і конкурсаў. Пра якія з, шчыра кажучы, часам і не падазраваў, Першы рэспубліканскі фестываль песні і танца ў Лідзе, або Міжнародны музычны фэст у Паставах, або імпрэза з назвай "Спявае Палессе"... Вядома, "Каўчэг" надае гэтым падзеям, мовім так, рэкламны выгляд (запрашаем самых розных мастакоў, улічваем іхнія схільнасці да абазнанасць — каб утварыць рэкламны стыль свята). Памятаем, што ўзровень дый выгляд свята — усё адно як аблічча часу...

**— Прадукцыя "Каўчэга" заўважная. Можа стацца так, што праз гады калекцыянеры ды музеі пачнуць мэтанакіравана шукаць вашы значкі, постэры, плакаты, касеты, у хуткім часе — кампакт-дыскі...**

— Касеты — ці не ў першую чаргу. Мы ўсё часцей сутыкаемся з тым, што людзі, шукаючы беларускія запісы, так ці інакш даведваюцца пра "Каўчэг" ды з'яўляюцца асабіста. З просьбаю прадаць сама менш увесь камплект касет, а іх каля ста назоваў. І будзе яшчэ і яшчэ... дзякуючы Міністэрству культуры, якое звязала, злучыла нас з органамі культуры на месцах. Каб пісаць канкрэтныя праграмы. Напрыклад, пасля фестывалю "Іграй, гармонік" выдалі касету, якая праз пасрэдніцтва нашага Міністэрства культуры трапіла туды, куды раней аніяк не трапляла, — ва ўсе ўстановы культуры, ад раённых аддзелаў у выканкамах да дамоў культуры. Ужо спецыяльна для ўстаноў культуры падрыхтавалі касеты, - з аднаго боку з беларускай эстраднай музыкай, з другога боку — з народнай. Каб у клубах ды ДК і яно, нарэшце, загучала. Бо гэта вядомы парадокс: толькі на маёй памяці гадоў пятнаццаць абмяркоўваюць, як беларусам даваць да сваёй музыкі. Кажуць, што беларускай музыкі няма дзе ўзяць, а мы, выдаючы касеты, не заўжды ведаем, куды іх везці. Гандаль катэгарычна адмаўляўся браць нашы запісы, пакуль мы не паразумеліся з пэўнымі гандлёвымі пунктамі. Але папершапачатку і там меркавалі, што нічога не прададуць. Між тым нават у Міністэрства гандлю траплялі лісты з просьбамі падказаць, дзе ж набыць беларускія касеты, адзін ліст трапіў нават у Адміністрацыю Прэзідэнта. Адтуль, па ланцужку, дайшлі да Міністэрства культуры, якое, на шчасце, не забылася пра нас. "Каўчэг", дарэчы, ужо ў стане дапамагчы гандлю асталяваць базавыя крамы (крамкі, шапікі) ці не ў кожным раёне Мінска, каб прывучыць людзей, што ёсць месцы, дзе ўсе аўдыёскарбы можна набыць. Заўважу, што вялікія фірмы, выпускаючы па адной-дзве беларускія касеты, ды яшчэ эпізадычна, паміж іншым, толькі губляюць. Бо ў плыні расійскай папсы ды замежных шлягераў ніхто не будзе пільнаваць беларускую касету. А мы няблага супрацоўнічаем з крамай "Ноты" ды "Гандлёвым домам на Нямізе" (яны таксама спачатку нічога не хацелі браць), — для іх часам не паспяваем запісваць, бо бракуе магутнасцяў.

**— А вашы новыя праекты — кампакты?**

— На жаль, Беларусь усё яшчэ не мае сур'ёзнага рынку кампактаў. Выпускаючы іх, мы не разлічваем на беларускі попыт. Беларускую музыку на кампактах (сёння іх выйшла тры) купляюць, у асноўным, госці, ды вязуць дахаты, значыць, за мяжу. Праўда, можна лічыць, што прапагандуецца беларуская музыка такім чынам няблага.

**— Але ж век касеты нядоўгі...**

— Так, менавіта кампакты — той музычны архіў, які можа захоўвацца для нашчадкаў нашых нашчадкаў. І рана ці позна будзе запатрабаваны.

**— Ёсць яшчэ адзін архіў для нашчадкаў — кнігі выдавецтва "Каўчэг"...**

— Цяпер мы аднаўляем нашу паэтычную серыю, хутка з'явіцца зборнік вершаў Міхала Анемпадзістава ды зборнік Паўла Саковіча "Эпіграмы як рэкламы". Удзельнічалі ў выданні "Усяго беларускага кіно" — праз нашага мастацтвазнаўцу і супрацоўніка Алега Сільвановіча. Выпускаем нотныя зборнікі ("ЛіМу" дзякуй за рэцэнзіі), часам у пары з касетамі (як у выпадку з беларускай гітарнай музыкай).

**— Тое, што прапануе "Каўчэг", трапляе ў сучасны культуралагічны кантэкст, але любы кантэкст рана ці позна мяняецца, знікае. Ці займаецеся вы самі яго ўмацаваннем — хоць бы зборам усяго выдадзенага ды створанага, спраектаванага?**

— Вось Рускі тэатр Беларусі быў на Шылераўскім фестывалі са спектаклем "Браты Маор", дзе наш рэкламны плакат зрабіўся лепшым сувенірам для немцаў. Так што ў немцаў сёе-тое застанецца. А калі зусім сур'ёзна, калі весці гаворку пра калекцыі, архівы, музеі, дык дай ім Бог хоць скарбы мінуўшчыны сабраць. З намі не працуюць ні архівісты, ні музейшчыкі, ні калекцыянеры, ні аматары, ні куратары галерэй сучаснага мастацтва. Сам "Каўчэг", вядома, пакідае ўзоры сваёй прадукцыі, — у маім пісьмовым стале, у шафе, у сейфе. *Для цяперашняй працы, вядома, дзе ўжо дбаць пра будучае прачытанне сённяшняга кантэксту.* Я асабіста *займаюся зберажэннем ды захаваннем* музычнага архіва, які ўжо (збег абставін!) мае безумоўную і вялікую каштоўнасць: *беларуская музыка канца другога тысячагоддзя ды самых розных жанраў!* Яшчэ з часоў радыёстанцыі "Беларуская маладзёжная" мы з Віталём Сямашкам пачалі збіраць гэты архіў з аднаго пэўнага кірунку — рок-н-рольнага, цяпер у архіве прадстаўлена амаль усё... У Саюзе кампазітараў знайшліся старыя плыткі з беларускімі запісамі, — яшчэ тыя, што б'юцца, самыя першыя, — наш новы праект будзе мець на ўвазе перазапіс ды выданне гэтых рарытэтаў. Сярод найноўшых — аўдыё-і відэазапісы "Рок-каранацый".

**— А кіно?**

— Пасля таго, як наш "Аазіс" атрымаў некалькі прызоў, я шукаю магчымасці рабіць кіно вельмі добра. Але часта такую магчымасць не знойдзеш.

**З Юрыем ЦЫБІНЫМ гутарыла Жана ЛАШКЕВІЧ**

# Будучыня ў падручніка — ёсць

Разгортваючы кнігу, заўсёды жадаеш сустрэць нешта новае, незвычайнае, цікавае. На жаль, мы не заўжды спраўджваем свае чаканні, будзь то мастацкі твор, навукова-папулярнае выданне ці іншае. Што ж да падручнікаў, то добраахвотна-прымусовае іх выкарыстанне традыцыйна звязваецца ў большасці з аднастайнасцю і надакучлівасцю.

Пачатак 90-х гадоў выклікаў да жыцця стварэнне шэрагу беларускамоўных выданняў, у тым ліку дапаможнікаў па роднай мове. Не ўсе з іх адназначна можна назваць удалымі, змястоўнымі ў адпаведнасці з прызначэннем, тым больш арыгінальнымі. Разам з тым заўсёды хочацца, каб у *падручніках рознага тыпу спалучаліся* строгая навуковасць і даступнасць выкладання матэрыялу, адпаведнасць узроўню навучэнцаў і нетрадыцыйнасць падачы моўных фактаў і з'яў.

Сапраўды цікавым, змястоўным і нетрадыцыйным можна назваць падручнік "Курс беларускай мовы", што быў выдадзены ў 1996 годзе ў выдавецтве "Універсітэцкае". Аўтары гэтага дапаможніка Л. Сямешка, І. Шкраба і З. Бадзевіч імкнуліся папулярна, займальна, глыбока, сістэмна адлюстраваць і прааналізаваць моўныя з'явы сучаснай беларускай літаратурнай мовы, даць магчымасць не толькі засвоіць пэўны матэрыял тым, хто будзе карыстацца падручнікам, але і абудзіць цікавасць да глыбінных плыняў моўнай стыхіі. Гэта, на мой погляд, аўтарам удалося зрабіць.

Перш чым перагарнуць старонкі гэтага цікавага дапаможніка, зраблю некалькі агульных заўваг паводле яго структуры, пабудовы. Паколькі ўвесь курс зведзены ў адну кнігу, аўтарам давялося падаваць матэрыял кампактна, у выглядзе блокаў, якія адлюстроўваюць спецыфіку асобных моўных узроўняў. Да кожнага з блокаў даюцца кантрольныя пытанні. Пры гэтым агульная схема падачы тэарэтычнага матэрыялу строга вытрымліваецца. Кожны раздзел курса цэласны, закончаны. Пасля тэарэтычнага раздзела і пытанняў да яго падаюцца практычныя заданні.

Першыя старонкі падручніка знаёмяць нас з агульнымі звесткамі пра беларускую мову, яе паходжанне і развіццё. Улічваючы апошнія меркаванні гісторыкаў, этнографаў, аўтары тактоўна распавядаюць пра *складаны шлях беларускай мовы ад старажытных часоў да нашых дзён*, асвятляюць найважнейшыя этапы яе гісторыі. Лаканічна і зразумела вырашаюцца пытанні дыялектнай і літаратурнай мовы — форм беларускай нацыянальнай мовы.

"Курс беларускай мовы" — падручнік, напісаны проста, даступна. Разам з тым матэрыял у ім падаецца не спрошчана, а сістэматызавана, глыбока навукова. Многія прыватныя пытанні беларускага мовазнаўства раскрываюцца і тлумачацца ў коле шматлікіх паняццяў і праблем агульнага мовазнаўства. Адсюль і больш дакладная і складаная тэрміналагічная база падручніка, адсюль і шырокі дыяпазон яго выкарыстання. Наогул жа дапаможнік такога тыпу з'яўляецца універсальным кампактным даведнікам як у вышэйшай, так і ў сярэдняй школе. Тэарэтычная аснова *падручніка (звесткі па фанетыцы і граматыцы, лексіцы і фразеалогіі)* з поспехам могуць выкарыстоўвацца пры вывучэнні беларускай мовы студэнтамі як спецыяльных, так і неспецыяльных факультэтаў ВНУ.

Падручнік мае шмат грунтоўных табліц. Гэта дапамагае сістэматызацыі ведаў і зрокаваму засваенню тэарэтычнага матэрыялу. Умела і дасціпна дапасуюцца гістарычныя каментарыі да тых ці іншых тэм, як, напрыклад, гістарычныя каментарыі пра род і лік назоўнікаў.

Аднак найбольшая каштоўнасць гэтага падручніка — у практычнай частцы. Так, падыход у выкладанні тэорыі мовы новы, свежы, нетрадыцыйны для сучаснага беларускага мовазнаўства. Практычная ж частка, можна з упэўненасцю сказаць, распрацавана настолькі шчыра і цікава, што, бадай, ніводны падручнік сёння не можа параўнацца па глыбіні, сістэмнасці, актуальнасці практычнага *матэрыялу з рэцэнзуемым.*

Такім чынам, дапаможнік не толькі змястоўны, цікавы, арыгінальны, але і патрэбны, неабходны ў практычнай працы выкладчыка, настаўніка. Ён дапамагае навучэнцам не толькі атрымаць пэўныя веды і паглыбіць іх, але і прымушае думаць, шукаць, аналізаваць.

Зразумела, хацелася б, каб у некаторыя пытанні аўтары больш заглыбіліся, пашырылі тыя ці іншыя тэмы. Як гэта зрабіць, думаецца, падкажа практыка, бо будучыня ў падручніка ёсць.

**С. БЕРДНІК, дацэнт кафедры беларускай мовы і методыкі яе выкладання БДПУ імя М. Танка**

Адам ГЛОБУС

# Кантамінацыі

## Запісы, зробленыя падчас чытання максімаў Люка дэ Клап'е дэ Вавенарга...

### ПРА СЯБРОЎСТВА

●

Поспех аддаляе знаёмых, адганяе ворагаў і пазбаўляе сяброў.

●

Нязмушаная размова з сябрам — найлепшая школа для розуму... Тут нельга не пагадзіцца з мэтрам Вавенаргам.

●

Каб сябраваць, неабходна пакінуць заганную звычку патрабаваць ад сяброў ахвяраў такіх, якія ты прыносіш на алтар дружбы. Кожны ахвяруе колькі можа, і сябруе як умее.

●

Выдатна прыбраны, сытны, поўны тонкіх напояў стол лепей за грошы мацуе сяброўства... Не стамлюся паўтараць.

### ПРА СТАРАСЦЬ

●

Мудрасць і свабода не сумяшчальныя са слабасцю... Кажа Вавенарг. А як быць са старымі мудрацамі й дзецьмі? Яны ж самыя нязмушаныя і найбольш свабодныя ў выказваннях і паводзінах. Дый наогул, мудры — гэта вопытны, абазнаны ў жыцці і, адпаведна, пажылы чалавек.

●

Не трэба чакаць вялікіх паслуг ад старых людзей... Запэўнівае Вавенарг. Пагаджаюся. На старых нельга ўскладаць спадзяванні, знітаваныя з доўгатэрміновымі перспектывамі, але спакойна выслухоўваць іх крытычныя заўвагі адносна дня сённяшняга варта заўсёды. Крытыка цверазіць.

●

Парады старых людзей — нібыта зімовае сонца: свецяць, але не грэюць... Маркоціцца Вавенарг. Дарэмна. Праўда й не павінна саграваць. Яна больш падобная да промня, які асвятляе шлях.

●

Калі на схіле гадоў мы страчваем таленты і прыгажосць, замяніць іх могуць, дый тое з цяжкасцю, толькі добрае імя і багацце... Спадзяваўся Вавенарг. Вядома, хацелася б верыць. Але нават мой саракагадовы вопыт падказвае, што спадзяванні Вавенарга дарэмныя, але не пазбаўлены практычнасці, асабліва ў пункце пра багацце.

●

І на схіле гадоў не зашкодзіць складаць доўгатэрміновыя планы. Як паўтарае бацька: "Паміраць збірайся, а жыта сей".

●

Сумная праўда... Здароўе чалавецтва вызначаецца па колькасці хворых.

### ПРА СМЕРЦЬ І ВАЙНУ

●

Зайздрасць заўсёды дзейсная ў адрозненне ад спагады ці спачування. Ведаючы гэта, варта скіроўваць уласную зайздрасць на здзяйсняльную дзейнасць, а не на руйнаванне аб'ектаў, што спарадзілі яе. Пазайздросці і пераўзыдзі.

●

У нас няма ні сілы, ні выпадку здзейсніць усё дабро і зло, якія мы намерваліся зрабіць... У гэтай максіме Вавенаргу не стае кроплі аптымізму. І дзякуй лёсу. А так бы панішчылі адзін аднаго з самымі добрымі намерамі ў сэрцы.

●

Назіраючы за паляўнічым, якога папрасілі застрэліць хворага на лішай сабаку, я ўбачыў як ягоная душа вылецела разам з куляю і, уварваўшыся ў голаў навязанага да плота цюціка, разнесла яе. Потым шмат разоў даводзілася чуць пра душу забойцы, якая ляціць да ахвяры разам з куляю. Але ва ўсіх тэкстах не ставала паэзіі, яны чыталіся й прачытваліся як танная містычная белетрыстыка. Іншая рэч абзац з Вавенарга... Вось перад вамі душа рыбалова, яна нібыта адлучылася ад цела і пераследуе рыбу пад вадой. Падштурхоўвае яе да сеткі, зацiснутай у ягонай руцэ. Ці магчыма паверыць, што гэтая душа зойдзецца ад радасці, убачыўшы паразу няшчаснай рыбіны і залікуе, апынуўшыся ў сетцы! Але ж, менавіта так яно і адбываецца.

●

За смяротнае пакаранне галасуюць баязліўцы, а такіх у грамадстве большасць. Таму смяротную кару трэба адмяняць валявым рашэннем, такім як вяршыцца суд.

●

Мір — кароткі час паміж войнамі, якія прысвечаны пераўзбраенню й рэформам у арміі.

●

Той, хто імкнуўся да вядомасці, багацця і славы, а ў выніку не займеў іх, ніколі не выкліча спачування. Наадварот, з такіх няздараў здзекуюцца і насміхаюцца як найбольш.

●

Добрага заўсёды замала, а злога — зашмат. І чаму ўсе спадзяюцца на казачны фінал, дзе дабро ўсё ж перамагае зло.

●

Недаацэньваць сектар рэлігіі нельга. Змагар з адной канфесіяй, абавязкова патрапіць у лагер іншай канфесіі. Так хрысціяне змагаюцца з іудаістамі, іудаісты з мусульманамі, мусульмане з хрысціянамі... Атэізм гэтаксама адна з формаў рэлігійнай думкі, пабудаванай на доказах ад процілеглага.

●

Адмяніць смяротнае пакаранне значна лягчэй, чым забараніць права асобы на самазабойства.

### ПРА ПАЛІТЫКУ

●

Ілжывы чалавек імкнецца кампенсаваць уласную ліслівасць і прыніжанасць квяцістай іроніяй і пыхлівай фанабэрыстасцю.

●

Калі палітыкі пачынаюць гаварыць шчыра, я нічога не чую, акрамя бруднай лаянкі. І гэта не асаблівасці майго вуха, а якасці іх языкоў.

●

Хто ведае, можа быць, менавіта страсцям абавязаны розум самым бліскучым сваім заваёвам... Падтрунівае стоікаў і аскетаў Вавенарг. Можа, й так, толькі словазлучэнне "заваёвы розуму" выдае акупанта, які ўвесь час прамалёўваецца ў постаці мараліста Вавенарга.

●

Большасць людзей нараджаюцца й застаюцца па жыцці пасрэднымі, таму старанны, паслухмяны, пасрэдны працаўнік хутчэй знаходзіць прызнанне ў народзе, чым асоба геніяльная. Каб зразумець генія, трэба самому нарадзіцца таленавітым.

●

Адсутнасць, альбо недастатковая колькасць гонару, самасці, ягамосці ў кіраўніку дзяржавы, вядзе да гнюснага пароку, да вяласці. Праз тую вяласць уладара вяне, чэзне, марнее ўся дзяржаўнасць цалкам.

●

Так, Людовік XIV вялікі кароль, я ў захапленні ад яго, але не хацеў бы нарадзіцца сярод ягоных падданых... Вавенарг так сказаў толькі пра аднаго з каралёў, а я ўпэўнены так гавораць пра ўсіх вялікіх уладароў, што адышлі, і думаюць пра тых, хто жыве й правіць.

### ПРА ТАЛЕНТ

●

Дзяржава прыўлашчвае заслугі генія, якога паслядоўна, педантычна, скрупулёзна зневажала.

●

Не наракай на Фартуну. Лёс даруе шмат розных магчымасцяў і людзям бяздарным, яны проста не заўважаюць і не скарыстоўваюць іх. Злавіць шчасце можна толькі таленавітай рукою.

●

Праца пазалотчыка заўсёды карыстаецца большай увагай, чым праца дойліда... Крыўдуе мараліст. І дарэмна. Па-першае: кожны дойлід пры жаданні можа працаваць пазалотчыкам. Па-другое: Вавенарг у літаратуры больш ювелір і пазалотчык, чым дойлід.

●

Геніяльнае не падробіш... Сказаў Вавенарг. Так. Ніхто й не спрабуе падрабляць геніяльнае Падрабляюць творы, падрабляюць прадукцыю геніяльных працэсаў, а яна хоць і адбівае ў сабе, як люстэрка, постаць генія сама па сутнасці геніяльнай рэччу не з'яўляецца.

### ПРА ЛІТАРАТУРУ

●

Пра геніяльны твор гаворыць не многа людзей, але на працягу стагоддзяў.

●

Нішто так хутка не псуе рэпутацыю й добрае імя літаратара, як праўдзівыя выказванні пра суайчыннікаў і супляменнікаў.

●

Людзі пасрэдныя могуць быць разважлівымі ў меру сваёй здатнасці, аўтары невялікіх кніжак — таксама. Гаварыў Вавенарг, пэўна, працягваючы думку Эклізіяста... Не складай шмат кніжак. А таму, запісваючы й складаючы развагі ў кніжку, кампанаваць твор варта як мага шчыльней.

●

Шліфоўка, удасканальванне, аздабленне формы пры кволай ідэі выглядае непатрэбшчынаю.

●

Лепш не спрачацца пра якасці мясцінаў, у якіх не быў і пра вартасці звычаяў якіх не бачыў. Кожны з нас і так шмат дзе пабываў і многае паглядзеў, каб цікава расказаць.

●

Не варта чакаць удзячнасці за пахвальбу. Ведаючы пра гэта, крытыкуй, іранізуй, кажы праўду і галоўнае — не бойся, што ў адказ атрымаеш жорсткія словы, а тым больш дзеянні.

*Барселона. Ліпень, жнівень 1997 г.*

МЕРКАВАННЕ

# Яшчэ раз пра любоў...

Герой адной з вядомых песень Уладзіміра Высоцкага сцвярджаў, што пісаць у лістах да яго пра любоў не трэба, маўляў, ён усё роўна не паверыць... Былі сумненні і ў аўтара гэтых радкоў наконт такой тэматыкі. А раптам не паверацЬ... Але, улічваючы вастрыню і маштабнасць праблемы любові, яе надзвычайную актуальнасць у межах уласна Беларусі, тыя сумненні удалося нейтралізаваць. Праўда, размова пойдзе не пра банальныя ўздыхі на лаўцы пры сонцы або пры месячыку, а пра вялікую ўсенародную любоў, якою жыве люд нашай краіны ўжо не першы год. Любоўю гэтай прасякнута ледзь не ўся атмасфера грамадскага і асабістага жыцця беларусаў. З ёю мы кладзёмся спаць і ўстаём зранку, яна ад нас ні на крок. Нават калі б і хацелі на нейкую хвіліну ад яе адчапіцца (вядома ж, што празмерная любоў тэрарызуе страшней, чым самая палкая нянавісць), то гэта не ўдаецца. Усё скрозь уладарна нагадвае нам пра яе. Разгарніце любую газету (нават апазіцыйную, якая таксама нямала робіць для распальвання яе нязгаснага кастра!), часопіс, уключыце тэлевізар, радыё, сядзьце, нарэшце, у любы тралейбус ці аўтобус — усюды вы так ці інакш сутыкняцеся з праявамі гэтай любові. Яна можа быць у рознай форме, нават у выглядзе выкрывання і абурэння, але яе пазнаеш усюды...

Так, мы амаль усе любім палка і беззапаветна... сваю ўладу... Гэтае нашае глыбокае пачуццё не параўнаць з самай вялікай страсцю любой арыентацыі, любога адцення. Бо ў гэтай даволі "странной" любові мы літаральна купаемся, забываючы пра ўсё на свеце, не надта зважаючы на ўзаемнасць. Гэтая чалавечая страсць, як вядома, даволі "злая", і ўсялякія, часам надзвычай відавочныя для ўсіх на свеце хібы суб'екта любові мы не жадаем заўважаць. І трэба сказаць, што было б дзіва, каб мы сваю ўладу не любілі, бо, акрамя нейкіх падсвядомых і містычных імпульсаў, пра якія нам некалькі гадоў запар сцвярджаюць як пара-, так і самыя звычайныя псіхолагі, мы маем штодзень зусім рэальныя сведчанні тытанічных, падчас проста нечалавечых па сваім аб'ёме клопатаў пра кожнага з нас...

Найперш, безумоўна, рэгулярнае павышэнне нашай заработнай платы некалькі разоў на год. Ну дзе, скажыце, у якой краіне з такой няўхільнасцю і энергічнасцю займаюцца ўлады гэтай архіважнай праблемай? Наша ўзбагачэнне па сваіх тэмпах не мае ніякіх аналагаў у свеце. З пачатку года мы "ўзбагаціліся" ледзь не ўдвая, але, мяркуючы па ўсім, не зусім разумеем сёння тое шчасце, што нам прываліла. Бо знаходзяцца некаторыя ("жалкие единицы", вядома), якія нават застаюцца незадаволенымі. Ім, бач, усяго не хапае, усё кепска, жыць цяжка. Але згадаем слушную выснову яшчэ аднаго вядомага героя (на гэты раз анекдота) дасціпнага Абрама, які мудра даводзіў: "А каму цяпер лёгка?"

І ўвогуле, звычайная арыфметыка, якой нас добрасумленна вучылі ў школе, наўрад ці можа патлумачыць нам самую што ні ёсць вышэйшую матэматыку нашых правадыроў. Адкуль, напрыклад, ведаць тую складаную навуку звычайным працаўніцам нейкага "Мегома", якія задаюць на старонках "Народнай волі" абсалютна недарэчнае пытанне: "Як нам жыць далей ва ўмовах "эканамічнага прагрэсу" нашай дзяржавы?" Ну як жыць? Як і раней, жылі ж неяк да гэтага. У тым лісце гэтых маладасведчаных жанчын шмат яшчэ розных, скажам прама, бязглуздых пытанняў, якія проста абураюць. Напрыклад, як карміць дзяцей, атрымліваючы зарплату 400—500 тыс. рублёў у месяц і г.д. Быццам бы яны самі не ведаюць як. Абы ваду муціць. А безумоўны наш эканамічны прагрэс яны, бач, у дужкі бяруць — намякаюць, што наадварот...

Але што нам гэтыя намёкі, відавочна правакацыйныя? Хай сабе гавораць! Ды і вельмі ж акцэнт у іх гаворцы знаёмы... Нас не правядзеш, вучаныя ўжо. Пранікаюць сёння злаcліўцы нават у святая святых — у пралетарскія шэрагі. І бударажаць народ, не даюць яму адказна і гераічна працаваць. Добра яшчэ, што на вёсцы ў іх агентура нязначная — не ўдалося вось пасяўную і ўборачную сарваць... Бо нашыя даяркі і камбайнеры ідэалагічна і палітычна народ устойлівы — іх не правядзеш! Але хай гавораць! Нават фільм такі быў калісьці, здаецца, іспанскі — "Хай гавораць!" І ў тым фільме, і ў нашым жыцці любыя размовы нічога не зменяць... Сабака, кажуць, брэша, а караван ідзе... Куды ідзе? Няважна куды, галоўнае — "правильной дорогой"... І нічога страшнага, што мы гэтыя словы ў дужкі бяром!

Ох ужо гэтыя дужкі! Вядома, і без іх нельга, і аўтару гэтых радкоў часам без іх не абысціся. Але не так, як адзін вядомы публіцыст у газеце "Свободные новости", што недзе страціла свой "плюс", які, распавядаючы пра дажынкі, выраз "народныя гулянні" таксама ўзяў у дужкі! Гэта ж трэба! Самы празрысты намёк на тое, што яны, маўляў, не вельмі народныя. Думаў, не заўважым. Ад нашага пільнага вока нічога не схаваеш! Сумняваецца "пісацель" гэты ў нашай любові да родных уладаў. Пра "эйфарыю" нейкую піша. Ніякай эйфарыі, а нармальны рабочы працэс — народ павінен радавацца і весяліцца, мець і трохі хлеба, і многа відовішчаў, бо калі наадварот, то даражэй, відаць, абыдзецца. Пра народ наш клапоцяцца і турбуюцца на ўсіх франтах!

Напрыклад, законна аблапошылі палову насельніцтва (а мо і болей) на пачатку 1990-ых "изъяв" у яго практычна ўсе зберажэнні. Народ ужо і надзею страціў, што калі-небудзь нешта вернецца. Мог, праўда, той народ і спытацца: Хто? Хто тую "розніцу" ў мільярды (!) долараў сабе ў кішэню паклаў? Дзяржава? Гэта быў бы, мусіць, ці не найлепшы варыянт. Але вельмі падобна на тое, што і самую дзяржаву прыгожа "абышлі на павароце". Прычым вельмі рэальныя людзі. Во быў бы моцны ход сённяшніх уладаў, калі б назвала яна імёны сваіх "герояў", якіх, безумоўна, добра ведаюць. На руках да канца дзён насілі б... Але наўрад ці назаве... Затое абяцае вуснамі свайго кіраўніка страчаныя грошы хоць часткова, але кампенсаваць... Карацей кажучы: "Будет сделана и делается уже!", як прароча пісаў яшчэ адзін класік савецкай літаратуры Уладзімір Маякоўскі. Барацьба, вядома, чакае напружаная і цяжкая, ды справы ўжо нават сёння зрушыліся з месца — найбольш паважаным ветэранам явачным парадкам па пары соцень тысяч кампенсавалі. Ну як тут не любіць ад усёй душы ўладу і асабліва ініцыятара і "вдохновителя" гэтай акцыі!

Такіх прыкладаў кранальнай турботы пра нашае жыццё-быццё вельмі шмат, і ўсе яны звязаны, як няцяжка здагадацца, з імем аднаго і таго ж чалавека, любімага намі найбольш за ўсіх. А ён парадак забяспечыць, няма чаго сумнявацца. Нават указ спецыяльны хутка будзе — нешта накшталт: "О мерах па укреплению порядка и дисциплины на рабочих местах". Памятаеце, калісьці ўжо падобны быў... А калі такі ўказ будзе, то тады парадку нікуды не дзецца. Яго ўжо ніхто ў двукоссі не возьме. Нездарма ж не толькі пралетарыят і працоўнае сялянства, а і многія з нашай інтэлігенцыі (без ніякіх двукоссяў!) вераць і даволі шчыра, пра што даводзяць і ў прыватных размовах, што парадак і дысцыпліна вось-вось будуць, і тады ўжо мы зажывём цудоўна. Тады і загучыць над нашымі прасторамі яшчэ адзін класічны твор, на гэты раз песня: "Песнями любви и изобилия славится советская страна!" Скажаце, не "савецкая"? А якая ж?

**Алесь ГІБОК-ГІБКОЎСКІ**

## Бруіла "Беларуская крыніца"

Такую назву мела газета, орган Беларускай хрысціянскай дэмакратыі. Першы нумар яе пабачыў свет 80 гадоў назад — 8 (21) кастрычніка 1917 года ў Петраградзе, трэці за 1918 год быў выдадзены ў Мінску, а з 7 верасня 1919 па 12 ліпеня 1940-га яна выходзіла ў Вільні. Усяго да чытачоў прыйшло 768 нумароў. Праўда, у выхадзе газеты быў некаторы перапынак (з 15 красавіка 1937 года да 16 лістапада 1939-га), ды і не заўсёды яна называлася "Беларускай крыніцай" — да 1925 года і з 17 лістапада 1939 года была проста "Крыніцай". І ўсё ж заўсёды заставалася менавіта "Беларускай крыніцай", таму пад такой назвай увайшла і ў гісторыю.

"Беларуская крыніца" працягвала лепшыя традыцыі, што былі выпрацаваны газетамі "Наша Ніва" і "Беларус". Яна арыентавалася на ўсё беларускае, нацыянальнае, карыснае роднаму народу. Газета яшчэ ў першым нумары за 1919 год засведчыла: у час, калі "развалілася царская імперыя, калі ўсе прыгнечаныя, загнаныя і паняволеныя народы пачалі будзіцца да новага жыцця і з надзеямі спазірацъ у будучыню, калі сыны вёскі нашай і места, пакінуўшы даўгавечны сон, заявілі, што і яны хочуць людзьмі звацца, а народы, стогнучыя пад чужацкім ярмом, сказалі, што хочуць быць вольнымі, — нарадзілася на свет "Крыніца".

"Беларуская крыніца" адыграла вялікую ролю ў кансалідацыі лепшых сіл беларускага грамадства. Прынамсі, яна мэтанакіравана праводзіла думку, што беларускія каталікі і праваслаўныя — гэта сыны адной нацыі. Шмат увагі ўдзяляла развіццю беларускай літаратуры, мастацтва, выступала за тое, каб набажэнствы ў цэрквах і касцёлах вялося па-беларуску, падтрымлівала дзейнасць гуртkоў Таварыства беларускай школы. Разлічаная ў асноўным на сялян, інтэлігенцыю і ўвогуле жыхароў Заходняй Беларусі, яна не забывала і пра беларусаў у эміграцыі.

**В. ЗУШЧЫК**

## "Падарожнае" — кніга пасмяротная

Выйшла гэтая кніга ў 1982 годзе, калі яе аўтара Івана Калесніка ўжо тры гады не было ў жывых: ён нечакана памёр 10 ліпеня 1979 года. А нарадзіўся Іван Іванавіч 65 гадоў назад, 9 кастрычніка 1932 года. Апошнія гады працаваў рэдактарам выдавецтва "Мастацкая літаратура". Першыя вершы надрукаваў у газеце "Піянер Беларусі" ў 1951 годзе. Паспеў выдаць кнігі "Белыя каштаны", "Пяць сузор'яў", "Калі разам мы", "Інтэрнат". А лепшае прадстаўлена якраз у томіку "Падарожнае", у які ўвайшлі таксама і пераклады. З гэтай кнігі відаць, што І. Калеснік належаў да паэтаў, якія пішуць шчыра, па-свойму прываблна.

## Каваль з Пастаў



Каваль Юрый Фурс прывёз з Пастаў на выставу ў Віцебск дэкаратыўныя рамкі і рашоткі, падсвечнікі, іншыя вырабы з металу. І трэба сказаць, што яны карыстаюцца ўвагай не толькі аматараў мастацтва, але і тых, хто жадае зрабіць пакупку.

*Фота Аляксандра ХІТРОВА, БЕЛТА*

***

***Гэтых людзей ядналі не проста пачуцці зямляцкай таварыскасці і прыязнасці, што ў жыцці здараецца досыць часта і само па сабе абгрунтавана і зразумела. Ніколькі не перабольшым, калі скажам: яны з'яўляліся духоўна-светапоглядНымі супольнікамі, абое заключалі ў сабе тую асноватворную і характаралагічную якасць, што былі дарэшты інтэлігентныя беларускай інтэлігентнасцю — ціхай, вынашанай, зацятай.***

***Ён неаднакроць чуў пра яе яшчэ ў падлеткавую пару, а ў канцы 30-х гадоў у сваіх Гудзевічах бачыў, як яна прыязджала з недалёкіх Жлобаўцаў да сваякоў, сустракалася з сялянамі. Як і многія, паважаў і любіў яе як асобу, захапляўся літаратурным талентам.***

***Ён — у будучым выбітны педагог і краязнаўца, арганізатар і дырэктар Гудзевіцкага дзяржаўнага літаратурна-этнаграфічнага музея, заслужаны работнік культуры Беларусі Алесь Мікалаевіч Белакоз, яна — выдатная беларуская паэтка Ларыса Антонаўна Геніюш.***

***Як вядома, чалавечая і пісьменніцкая доля Л. Геніюш склалася няпроста. Непасрэднае яе таварышаванне з А. Белакозам распачалося толькі ў сярэдзіне 60-х гадоў. Але ж якім яно было шчырым, мацавітым, і высокім!.. Ва ўзаемных разуменні і падтрымцы, гэтаксама як і ў сумоўі з іншымі сябрамі і аднадумцамі, ім спадзеўней і ямчэй думалася і летуценілася, лягчэй перажывалася тымчасовая цямрэча.***

***Усё гэта і перадумовіла зварот да Алеся Мікалаевіча з просьбай падзяліцца ўспамінамі пра Ларысу Геніюш. Спадзяёмся, што яны зацікавяць не толькі вузкае кола спецыялістаў, але і ўсіх прыхільнікаў таленту выдатнай паэткі, аматараў беларускага мастацкага слова.***

**Мікола МІКУЛІЧ**

# "Я з зямлі беларускай..."

### УСПАМІНЫ АЛЕСЯ БЕЛАКОЗА ПРА ЛАРЫСУ ГЕНІЮШ

У 1938 ці, магчыма, у 1939 годзе летам аднойчы матуля мне сказала: "Усё недзе бегаеш, а да крамы прыходзіла Міклашова ўнучка Ларыса" (тады мае бацькі мелі невялічкую краму). Я ўжо ведаў, што дачка Антона Міклашэвіча заўсёды з усімі размаўляе па-беларуску, што яна піша патрыятычныя вершы. Мая родная сястра Вера тады ўжо вучылася ў Віленскай беларускай гімназіі і мяне выхавала ў духу глыбокай пашаны да ўсяго роднага, беларускага. Жыла сям'я Антона Паўлавіча Міклашэвіча ў Жлобаўцах. Гэта кіламетраў з 10 ад Гудзевічаў. Даводзілася ў дзяцінстве сустракацца з яе братамі, бацькам. Хоць мелі яны фальварак, але жылі па-сялянску: на парабкаў ды служанак грошай не мелі, бо адны працэнты ад пазыкі ў банку перавышалі гадавы даход гаспадаркі. Такая і маёмасная, і працоўная, і духоўная блізкасць да сялян дала магчымасць Ларысе зведаць і цяжкасці побыту сялян, і прыгажосць іхніх узаемаадносін, і духоўнае багацце старэйшага пакалення і моладзі. Яна ўсё жыццё была закахана ў беларускі народ, а мы, дзеці, былі закаханы ў яе, хоць бачылі рэдка і толькі на прыстойнай адлегласці.

Міклашэвічаў шанавалі ў навакольных вёсках. Калі 17 верасня 1939 года Савецкі Саюз далучыў Заходнюю Беларусь да Усходняй, бывалі выпадкі помсты сялян мясцовым абшарнікам. У нас нікому не прыйшла думка, каб крыўдзіць ці здзекавацца з Міклашэвічаў. Дзядзька Ларысы Антонаўны Уладзімір Міклашэвіч да таго дажыўся, што за даўгі аддаў апошнюю карову, а ягоныя дзеці не мелі шклянкі малака. Калі ў сакавіку 1940 года міліцыянты прыйшлі яго арыштоўваць, то ён не меў чаго абуць. Пайшоў у чосанках (валёнках) без галёшаў, хоць ужо раставаў снег. А ён жа быў гаспадаром Гудзевічаў, меў каля 180 гектараў зямлі, лесу, сенажацяў, тарфянікаў (у нас тарфянікі называлі багон). Людзям аддаваў лес, торф, сена; салому за бясцэнак.

Зайшоў ён аднойчы да нас. Тата пытаецца:

— Пане Міклашэвіч, як гэта ў вас купіць з воз саломы?

— Гэтага дабра хапае. Вось вып'ем бутэльку — і справа зроблена.

Выпілі адну бутэльку, другую. Пан падзякаваў ды пайшоў дахаты. Тата назаўтра пайшоў да яго, каб па-цвярозаму дамовіцца пра салому. Падвёў пан тату да стога ды кажа:

— Вось з гэтага стога і бяры, колькі дасі рады, але — на воз.

Тата папрасіў класці воз аднавяскоўца Андрэя Шайнога, які вазы клаў, як ніхто. Андрэй узяў у суседа фургон, запрог пару коней і пад'ехаў раненька да нас. Тата падаваў, а Андрэй клаў воз. Так здарылася, што Андрэй увесь стажок упакаваў у воз.

Падышоў Уладзімір Паўлавіч. Нечага захваляваўся. Аббег раз вакол воза, другі. Здзіўлена запытаўся:

— А дзе стажок?

— На возе, — весела паведаміў Андрэй.

— Але ж і маладзец ты, Шайнога! Такі стог упакаваў у адзін воз. Ну й майстар!

— То што будзе, пане Міклашэвіч? — са скрухай запытаўся тата.

— Што будзе? Што будзе? Нічога не будзе. Вязіце салому. Толькі асцярожна, бо з такім возам лёгка кульнуцца.

Міклашэвічы былі людзі дасціпныя, гасцінныя і фізічна дужыя.

Мой цесць Ігнат Сырэй расказваў, што бацька Ларысы Геніюш браў зубамі за край дубовы стол і падымаў яго разам з закускамі, бутэлькамі, шклянкамі.

Яўген Петрашэвіч з Радзівонаўцаў Мастоўскага раёна апавядаў, што калі яны рабілі магазін Міклашэвічаў, то не маглі падняць бэльку на мур. Папрасілі Антона, каб дапамог. Ён узяўся за камель, а яны ўтрох — за верх. І падняў, нават даволі лёгка. Гэта быў волат, з сялянамі просты і шчодры, з панамі ганаровы і бескампрамісны. Ягоныя браты былі такія ж.

Аднойчы ў нас у пакоі частаваўся з войтам родны дзядзька Ларысы Геніюш Павел Паўлавіч Міклашэвіч з Антонам Сямашкам. Зайшоў у пакой камендант паліцыі Купчак, скандаліст ды хабарнік. Сустрэў яго Павел не надта ветліва, але кілішак наліў і яму. Аднак, калі Купчак сказаў штосьці абразлівае пра беларускі народ, Міклашэвіч схапіў яго за каўнер ды за дзягу і так шпурнуў у дзверы, што яны адчыніліся, і камендант урэзаў у бочку з газаю, якая стаяла ў складзе — бочка перавярнулася, а камендант страціў прытомнасць.

Чалавечую годнасць, моц духу перадалі Ларысе ў спадчыну бацька Антон, дзядуля Павел, пра якога і цяпер ходзяць легенды. Ён, малазямельны селянін, дзякуючы працавітасці, ашчаднасці, прыроднаму розуму, здолеў купіць фальварак Астапкаўшчыну, а пасля вялікі маёнтак Гудзевічы, а гэта больш за 550 гектараў зямлі. Гасцінец праз Гудзевічы быў вельмі ажыўлены. Тут за дзень праязджала многа падвод, а таму на дарозе было шмат конскага гною. Дык вось, бывала, стары Міклаш, ідучы па дарозе, не прапусціць ніводнага конскага яблыка. Усе пазбірае ў палу кажуха. Каб цяпер старшыня калгаса ці брыгадзір так дбалі пра зямельку, то збожжа мы прадавалі б за мяжу, як у трыццатых гадах. Часам жартам хтосьці запытае:

— Што знайшлі, паночку, можа, золата несяце?

— Так, браце, гэта і ёсць золата, толькі не кожны яго бачыць. Занясу на стайню, кіну гэтыя конскія яблыкі ў гной. Вясной вывезем на поле — і каласоў з сотня дасць столькі збожжа, што за адзін раз не ўкусіш. А на дарозе гэты гной зусім непатрэбен.

Здавалася б, дробязь. Падумаеш, сто каласкоў лепш вырастуць. А вось так каласок да каласка, жменька да жменькі, сявенька да сявенькі — і малазямельны селянін стаў фальваркоўцам, а пазней — заможным панам. Ён усю энергію свайго таленту, працавітасці накіраваў на збіральніцтва. Меў чатырох сыноў і кожнаму пакінуў па маёнтку.

Ларыса Геніюш, ягоная ўнучка, пайшла далей: ёй захацелася, каб кожны беларус жыў, як пан, каб кожны быў заможны матэрыяльна і багаты духоўна. Мэтай яе



*Удзельнікі VIII з'езда пісьменнікаў Беларусі. В. Коўтун, Д. Бічэль-Загнетава, Н. Мацяш, Ул. Караткевіч, Л. Геніюш. 1981г.*

жыцця было данесці да народа праўду пра Беларусь, даць нам свядомасць, чалавечую годнасць і, вядома ж, дабрабыт, духоўную прыгажосць. Як яна цешылася, калі заўважала каля сялянскай хаты прыгожы кветнік, буйную гародніну, лад на падворку!

Прыгожы каменны помнік у 1908 годзе ў Гудзевічах на скрыжаванні дарог паставіў Павел Францавіч Міклашэвіч. Гэты помнік у 80-х гадах атэісты скінулі. Вернікі паставілі яго на месца, але актывісты зноў скінулі яго на дарогу. Помнік магла разбіць сучасная магутная тэхніка. Мы схавалі яго ў музейным складзе. У 1990 годзе помнік пры дапамозе майстра Івана Дзямбіцкага паставілі каля крыжавой дарогі. На помніку выбіты словы:

"Господи, заступи и спаси насъ и наши земли отъ града и всех напастей. П. Миклашевичъ, 1908 г."

Пахаваны дзядуля Ларысы Антонаўны Геніюш (памёр ён у 1929 г.) на Гудзевіцкіх могілках каля самага гасцінца. На магіле — каменны помнік у выглядзе двух ствалоў дуба, з сукамі, з шурпатай карой. Ларыса Геніюш часта наведвала магілу дзеда, ганарылася ім. Верш "Гудзевічы" яна заканчвае словамі:

***Гудзевічы! Род мой незабыты!***
***Беларуская мая сям'я!***
***Дождж змывае з надмагільнай пліты***
***Дарагое дзедава імя.***

У 1965 годзе мяне выклікалі ў Мінск на курсы павышэння кваліфікацыі кіраўнікоў раённых секцый беларускай мовы і літаратуры. Там сабраліся лепшыя настаўнікі Беларусі. Мне ўдалося арганізаваць сустрэчу 46 пісьменнікаў з нашымі курсантамі.

Гэта было кепска ўспрынята Міністэрствам народнай адукацыі. Мяне і яшчэ двух настаўнікаў выклікалі ў Міністэрства народнай адукацыі. Там нас пратрымаў загадчык аддзела кадраў Якімовіч амаль чатыры гадзіны. Дамагаўся ад нас, каб адклікалі запрашэнні Крапіве, Танку, Скрыгану, Бачылу (на першай сустрэчы яны не былі, яе я выпрасіў у Броўкі, арганізоўвалі яе з Шамякіным). Мы катэгарычна адмовіліся адклікаць другую сустрэчу. І яна адбылася ў актавай зале Інстытута ўдасканалення настаўнікаў. Гэта нарабіла многа шуму ў Мінску — і нас датэрмінова з курсаў разагналі. Гэта было ў траўні 1965 года. З гэтага ж навучальнага года я пачаў актыўнае супрацьдзеянне знішчэнню беларускай мовы.

Раней нам усюды казалі, што беларусы самі адмаўляюцца ад роднай мовы, аднак у Мінску я пераканаўся, што ЦК КПБ і Міністэрства народнай адукацыі ўсімі сіламі імкнуцца знішчыць усё беларускае. Трэба было нешта супрацьстаяць. Я даў заданне вучням старэйшых класаў пісаць патрыятычным пісьменнікам і прасіць у іх выказванні пра значэнне роднай мовы, іхнія творы з пажаданнямі для вучняў Гудзевіцкай школы, чарнавікі твораў, свае фатаграфіі і інш. Тады на нашы просьбы адгукнуліся Ларыса Геніюш, Іван Мележ, Уладзімір Караткевіч, Сяргей Грахоўскі, Ніл Гілевіч, Арсен Ліс, Васіль Быкаў, Мікола Прашковіч, Аляксей Пяткевіч, Уладзімір Дамашэвіч, Аляксей Карпюк, Данута Бічэль-Загнетава, Ніна Тарас, Васіль Вітка, Янка Скрыган, Сцяпан Александровіч і шэраг іншых беларускіх патрыётаў. Ларыса Геніюш не толькі прыслала лісты, фатаграфіі, рукапісы сваіх вершаў, але і запрасіла прыехаць у Зэльву на сустрэчу.

Мая жонка Вера Ігнатаўна і я паехалі да Галавача, дырэктара Зэльвенскай школы-інтэрната, даўняга майго сябра, які ўжо крыху ведаў Ларысу Геніюш. Спадар Галавач разумеў, што кантакты з паэткай-патрыёткай адпаведнымі органамі кантралююцца. Таму пайшлі ўчатырох: ён з жонкаю і мы, на сутоначку. Геніюшы нас чакалі. Стол быў засланы саматканым абрусам. Па дыяганалі ляжаў саматканы доўгі і прыгожы пояс. Стол сервіраваны на шэсць асоб. Нас уразіла велізарная колькасць кніг. Я таксама захапляўся літаратурай і сабраў некалькі тысяч кніг мастацкай і навуковай літаратуры, аднак бібліятэка Ларысы Геніюш у некалькі разоў пераўзыходзіла маю. На сценах віселі партрэты Янкі Купалы, Якуба Коласа, Максіма Багдановіча і інш. Мне ўжо перад гэтым пашчасціла блізка сустракацца з Арсенам Лісам, Нілам Гілевічам, Максімам Танкам, Іванам Мележам, Сяргеем Грахоўскім, Васілём Віткам, Янам Скрыганам і іншымі. Кожны з іх здзіўляў сваёй прастатой, спагадай да нашай задумы, аднак спадарыня Ларыса і спадар Янка зачаравалі нас сваёй гасціннасцю, энцыклапедычнымі ведамі, начытанасцю. І роўна я адразу адчуў, наколькі яны пераўзыходзяць нас сваёй эрудыцыяй, яны так паводзілі сябе, што здавалася, быццам і мы няблага разбіраемся ў літаратуры, мастацтве, культуры і гісторыі Беларусі. З вуснаў чалавека энцыклапедычных ведаў спадара Янкі часта зрываліся выразы: "То вы і гэта чыталі, і з гэтым сустракаліся, і яго ведаеце..." І на гэтай сустрэчы вельмі кінулася ў вочы гасціннасць Ларысы Геніюш. Я з дзяцінства прывучаны посуд у час абеду ці вячэры пакідаць чысты. Аднак у Геніюшаў давялося парушыць гэтую традыцыю, бо гаспадыня так настойліва падкладала гасцям усё новыя і новыя закускі, што я зразумеў: тут пустой талерку не пакінеш.

Гэта быў час, калі Хрушчова змяніў Брэжнеў, які ў многім вяртаўся да традыцый сталінскага рэжыму. Гаварылі пра задушванне беларускай мовы, пра цкаванне патрыётаў, пра фальсіфікацыю гісторыі, пра зацуглянасць літаратуры, пра тое, што ў Гудзевічах разбураюцца ўсе помнікі мінулага: разбураны каменныя сцены вялізнага склада, двухпавярховага каменнага свірна, каменнага гумна і інш.

У 1966 ці 1967 годзе ездзілі да Геніюшаў Аляксей Пяткевіч і я. Ён папрасіў, каб я пазнаёміў яго з таленавітай паэткай. Зноў самы гасцінны прыём і самыя даверлівыя размовы. Часта Ларыса Геніюш бывала ў Гудзевіцкім музеі, у нас у хаце.

Аднойчы прыехала да нас сп. Ларыса з настаўнікам Дзярэчанскай сярэдняй школы Марціновічам і пісьменнікам Т. Ён, калі мы засталіся толькі ўтрох, пачаў непрыстойна выказвацца пра яе. Я сказаў, што нельга штосьці двухсэнсоўнае гаварыць пра такую патрыётку, святую жанчыну і параіў яму для такіх размоў пашукаць іншай кампаніі, у якой ацэнкі яе ацэнкі яны антынацыянальныя памкненні. Т. абурыўся і пайшоў да цягніка. Пад раніцу з'явіўся і адразу пайшоў прасіць прабачэння ў Ларысы Антонаўны. Я ж ёй нічога не казаў. Яна дапытвалася, што сказаў Т. Я прыкінуўся, што забыўся пра якуюсьці там недарэчнасць. Часам бывала, што Ларыса Антонаўна прывозіла па 10—15 чалавек гасцей. Была са сп. Янкам на хрысцінах майго наймалодшага сына Міхася ў 1967 годзе. Праўда, на вяселле старэйшага сына не прыязджала, а толькі прыслала вершаванне.

Ездзіць у госці да Ларысы Антонаўны было небяспечна: прабудзеш суткі — не пускае, двое — тое ж самае, на трэція — ад'язджаю, а яна:

— Не маглі б пабыць яшчэ з дзянёк, — кажа, пакрыўджаная.

Напісала аднойчы, што мае падвойны дыван, вытканы ў 1900 годзе. Ткала яе свякруха. І запрасіла:

— Прыязджайце, то аддам дыван для музея.

Я ўсё кінуў ды ў Зэльву. Прабыў дзень. Не дае дывана зямлячка, прабыў другі — не ўспамінае пра дыван. На трэці дзень ні з чым паехаў дахаты. Праз два дні атрымаў ліст:

— Забылася аддаць Вам дыван. Прыязджайце, то аддам.

Зноў паехаў, прабыў тры дні, а пра дыван ні гуку. Паехаў дахаты.

Зноў ліст:

— Забылася пра дыван. Прыязджайце.

— Не, — пішу, — больш да Вас не паеду, бо дывана Вы не аддасце.

Праз нейкі тыдзень сама прывезла. Кажа:

— Я хацела, каб вы ў нас больш пабылі.

А, між іншым, на дыване, які цяпер красуецца ў музеі, выткана: "1900 рок". Па сваёй даўнасці гэты дыван займае другое месца ў музеі і ў Беларусі, бо маем яшчэ падвойны дыван, на якім выткана: "1898". Праўда, на выставе ў Мінску былі дываны, якія датуюцца больш раннімі гадамі, але на іх нічога не выткана. Так і мы маглі сказаць, што дываны вытканы 200 ці нават 300 гадоў таму.

Часта прасіў Ларысу Антонаўну, каб падабрала экспанаты для сваёй залы ў нашым музеі, бо не вечна бальшавікі будуць. Пісьменніца адказвала:

— Як буду паміраць, то пакіну вам шмат экспанатаў.

Памірала яна ў Гародні, у анкалагічным шпіталі, у 1983 годзе. Мне было дзве тэлеграмы, каб ехаў па спадкі для музея і на пахаванне Ларысы Геніюш, але я тады сам ляжаў у шпіталі, і лекары мяне не адпусцілі. Тады ўсё, што пакінула для Гудзевіцкага пісьменніца-зямлячка, забрала адна асоба, але ў наш музей экспанаты не патрапілі...

Праўда, нявестка Ларысы Антонаўны Геніюш Валянціна перадала нашаму музею 159 экспанатаў, у асноўным кніг, але там і пішучая машынка, на якой Ларыса Геніюш друкавала свае вершы, партрэты Кастуся Каліноўскага, Максіма Багдановіча, паяскі, ікона на драўлянай дошцы XIX стагоддзя, фігуркі, бочачкі, збаночкі і многае іншае.

Вельмі шанавала беларускіх патрыётаў, аднак сумленныя людзі, якія хоць і не дараслі да патрыятызму, таксама карысталіся пашанай у Ларысы Геніюш. Яна, можа, як ніхто іншы, разумела нацыянальную трагедыю беларускага народа і вельмі перажывала з-за гэтай трагедыі.

Часта ў Геніюшаў бываў Уладзімір Караткевіч. І адзін, і з матуляй, і з Мікалаем Прашковічам. Нават Ларыса Антонаўна хацела прывезці на хрысціны майго сына Уладзіміра Караткевіча, але той заўпарціўся, што без запрашэння не паедзе. Я выслаў запрашальную тэлеграму, але абставіны ў яго склаліся так, што ўсё ж тады ён у Гудзевічы не прыехаў, хоць абяцаў наведаць наш музей. Ларыса Антонаўна часам ушчувала яго, як маці, як старэйшы сябра. І ён да Геніюшаў ставіўся па-сыноўску.

Вельмі шанавала Ларыса Антонаўна Васіля Быкава, Пімена Панчанку, Івана Мележа, Аляксея Пяткевіча, Ніла Гілевіча, Сяргея Грахоўскага і іншых пісьменнікаў-патрыётаў. Асабліва месца ў яе займаў Максім Танк. Яна ўдзячна была Яўгену Іванавічу за клопат пра пісьменнікаў, пра яе, але як функцыянеру, чалавеку, які ў партыйнай наменклатуры займаў значную пасаду, Ларыса Геніюш яму не давярала. Раілася са мной, ці паслухацца Максіма Танка ды прыняць савецкае грамадзянства. Я казаў, што ёсць у гэтай справе і плюсы (афіцыйнае прызнанне, паляпшэнне матэрыяльнага становішча) і мінусы (абавязак служыць верай і праўдай тагачаснаму рэжыму, быць больш залежнай ад праўлення Саюза пісьменнікаў, страціць сваё выключнае месца ў беларускай літаратуры). Спадарыня Ларыса згаджалася, што на кампрамісы з рэжымам ісці нельга, а таму ні грамадзянства, ні членства ў Саюзе пісьменнікаў вырашыла не прымаць.

ВАНДРОЎКІ

# Ёсць у музыкантаў даўняя мара...

Кожны з нас пра нешта марыць. Наколькі дазваляе фантазія і, безумоўна, магчымасці. Кожнаму трэба ў нешта верыць — без гэтага жыццё можа зрабіцца нават бессэнсоўным. У мяне, як музыканта, фантазіі — дзякуй Богу, а вось з магчымасцямі... Але ж мара заўсёды застаецца марай — своеасаблівай жыццёвай мэтай, якую ўвесь час хочацца ўвасобіць.

На працягу навучання ў музычным ліцэі і Акадэміі музыкі я быў і застаюся адданым прыхільнікам музыкі Рыхарда Вагнера. Я ведаю, што ў нямецкім горадзе Байройце, дзе пабудаваны тэатр спецыяльна для пастановак яго опер, штогод праходзіць оперны фестываль. Пабываць на ім і ёсць мая мара. Памятаю, як на лекцыях Анатоль Васільевіч Багатыроў расказваў пра свае ўражанні ад такога фестывалю, і я, як зачараваны, слухаў і шчыра зайздросціў.

А сёлета пры канцы жніўня я даведаўся, што струнная група студэнцкага сімфанічнага аркестра Акадэміі музыкі пад кіраўніцтвам рэктара, прафесара Міхала Казінца знаходзіцца на гэтым фестывалі! Вось гэта была навіна. Я нават не ведаю, які калектыў з Беларусі быў калі-небудзь запрошаны на імпрэзу такога ўзроўню.

З нецярплівасцю я чакаў сустрэчы з Міхалам Антонавічам, каб запытацца ў яго пра ўсё, што мяне цікавіла. І вось што пачуў:

— З сёмага па дваццаць дзевятага жніўня ў Байройце праходзіў 47-ы маладзёжны музычны фестываль у межах 125-га Вагнераўскага опернага фестывалю. Гаварыць пра ягоную значнасць можна многа і доўга, але скажу так: у музычнай Еўропе ёсць два выбітныя фестывалі міжнароднага ўзроўню: фестываль Моцарта ў Зальцбургу і фестываль Вагнера ў Байройце. І ўдзел у іх — гэта, безумоўна, гонар. Калі наш аркестр быў мінулым летам на фестывалі "Бонскае лета", майстэрства нашых студэнтаў атрымала вельмі высокую адзнаку, і арганізатары фестывалю ў Боне парэкамендавалі пані Тамер, фундатару фестывалю ў Байройце, запрасіць на чарговы маладзёжны наш аркестр. І мы павезлі туды самастойную праграму — творы Баха, Чайкоўскага і нашага кампазітара Аляксандра Літвіноўскага. Акрамя гэтага, мы павінны былі граць у складзе маладзёжнага аркестра творы Мендэльсона, Брамса і Стравінскага. Пасля выканання дырыжор з Германіі пан Піяле сказаў мне: "Маэстра! Мінск — фантастыка!" Безумоўна, гэта заслужаны камплімент.

Акрамя канцэртаў, праводзіліся майстаркласы з удзелам лепшых музыкантаў Еўропы. Аркестранты былі занятыя з 10 гадзін раніцы да 6 гадзін вечара. Мноства знаёмстваў, уражанняў...

Наведалі мы, безумоўна, і сам Вагнераўскі фестываль. Паслухаўшы ў "жывым" выкананні "Тангейзера", "Золата Рэйна", "Парсіфаля", я, як ніколі, ясна зразумеў, якой выдатнай асобай быў Вагнер, якой тытанічнай фігурай на музычным небасхіле. Нават у тым, каб пабудаваць тэатр, прызначаны толькі для ягонай музыкі.

Зала славутага тэатра змяшчае ў сабе 2000 месцаў і пабудаваная ў форме амфітэатра. Так вырашыў сам кампазітар пасля наведвання рымскага Калізея. Сцэна адначасова змяшчае 80 чалавек, а дэкарацыі могуць змяняцца з хуткасцю 8—10 секунд, што, безумоўна, сведчыць пра высокую тэхнічную аснашчанасць тэатра. Аркестравая яма размешчана на 120 музыкантаў і з боку глядзельнай залы зусім не бачная — нічога не перашкаджае ўспрыманню музыкі і дзеяння.

У ліпені ў тэатры ідуць рэпетыцыі, а ў жніўні — спектаклі. Увесь астатні час тэатр не працуе. На што ён існуе? 10 працэнтаў — датацыя дзяржавы, 30 працэнтаў — спонсара, а 60 (!) — уласны заробак.

Жадаючых трапіць на фестываль так шмат, што самі немцы па 8—10 гадоў стаяць у чарзе па білеты. Ну, а нам, як удзельнікам, пашчасціла наведаць яго амаль што дарма.

Вышэйшы клас — так я ахарактарызаваў бы ўзровень гэтага мерапрыемства. Гучанне аркестра лёгкае і адначасова моцнае, збалансаванае. Галасы насычаныя і "свежыя", непаўторнага, "вагнераўскага" тэмбру.

Дарэчы, ганарары для выканаўцаў не вельмі высокія, але гэта не галоўнае — сам удзел у гэтым фестывалі каціруецца больш за грошы. Ды і Вагнер гаварыў: "За ісціну спяваць, а не за грошы!"

Я, вядома, быў на экскурсіі ў тэатры і некалькі хвілін пастаяў на месцы дырыжора, каб адчуць той дух, якім прапітаныя сцены гэтага тэатра. Аркестранты, можа, яшчэ і не зусім зразумелі, дзе яны былі, але пройдзе час, і ўсё стане на сваё месца...

**І тут я падумаў — такое ж можа быць толькі раз у жыцці, можа, гэты раз у мяне яшчэ наперадзе, можа, калісьці і я наведаю фестываль Вагнера, можа, і мне пашчасціць убачыць тое, пра што я пакуль толькі чуў? Я спадзяюся на гэта, я ў гэта веру, гэта — мая мара!**

**Георгій САСНОЎСКІ**

МУЗЫКА

# Лаўрэат пакідае радзіму?

Буйнейшую прэмію "Polinger Foundation" атрымаў на Міжнародным конкурсе віяланчэлістаў імя Леанарда Роуза ў Вашынгтоне (ЗША) студэнт 3 курса Беларускай акадэміі музыкі Мікалай Самсонаў. (Клас прафесара Я. Ксавер'ева, канцэртмайстар Ю. Гільдзюк).

На жаль, таленты, якія нарадзіліся на спрыяльнай музычнай глебе беларускай зямлі, атрымалі сапраўднае прызнанне і поспех у іншых краінах свету. Абодва — і прафесар, і ягоны студэнт — пакінулі межы сваёй радзімы. Застаецца толькі спадзявацца, што не назаўсёды.

Іхнія шляхі пралеглі ў розныя бакі. У прафесара Ксавер'ева з'явілася магчымасць працаваць у Югаславіі, а Мікаэла Самсонава лёс закінуў у сталіцу Вялікабрытаніі. Сярод 315 прэтэндэнтаў ён быў абраны для вучобы ў Лондане з гадавым забеспячэннем стыпендыяй. Магчыма, што паспяховы ўдзел Мікаэла ў конкурсе імя Л. Роуза паспрые далейшаму яго навучанню ў Англіі.

Конкурс, які праходзіў у ЗША, — адзін з самых прэстыжных і вельмі складаных, таму што праграма ўключае ўвесь сучасны віяланчэльны рэпертуар ад Бакерыні да Пракоф'ева, а паведамляецца яна кожнаму ўдзельніку літаральна за тры гадзіны да выхаду на сцэну.

Сёлета на папярэднім адборы журы праслухала 40 прэтэндэнтаў, сярод якіх 18 — прадстаўнікі выканаўчай школы ЗША, астатнія — з Еўропы і Азіі. Прысутнічала практычна ўся віяланчэльная эліта, выканаўцы з Токіо, Парыжа, Гановера.

Вашынгтонскі конкурс — не адзіны ў творчым жыцці юнака. Раней ён таксама шмат удзельнічаў у разнастайных музычных спаборніцтвах. Віяланчэльныя творы ў ягоным выкананні гучалі ў канцэртных залах розных краін Еўропы — Чэхаславакіі, Балгарыі і іншых. Выступаў ён і ў Вялікай зале Маскоўскай кансерваторыі на конкурсе імя П. І. Чайкоўскага; у праграме "Новыя імёны". Вялікі творчы талент М. Самсонава праявіўся не толькі ў сольным выканаўстве: ён арганічна спалучае асабістыя выступленні з удзелам у розных ансамблях. Цікава, што да сваіх прафесійных заняткаў Мікаэл далучае захапленне спортам. Асабліва апантаны баскетболам.

...Хацелася б спадзявацца, што малады музыкант, калі ўдасканаліць сваё майстэрства за мяжой, зноў парадуе землякоў высокім мастацтвам.

**Ірына СЫРЫЦА,**
**студэнтка Акадэміі музыкі**

**Калектыў Аб'яднання дзяржаўных літаратурных музеяў РБ смуткуе з прычыны заўчаснай смерці былой супрацоўніцы ШАРАХОЎСКАЙ Іны Паўлаўны і выказвае шчырыя спачуванні яе родным і блізкім.**

Аляксей ГАРДЗІЦКІ

# Бываліцы

### ШАМЯКІН ГАВОРЫЦЬ З МІНСКАМ

З Варшавы Іван Шамякін заказаў тэлефонную размову з Мінскам, каб пагаварыць з жонкай.

Пачуўся званок, тэлефаністка сказала: "Злончылі з Мінскем", а затым пачулася жаночае: "Алё". Абрадаваны Іван Пятровіч загукаў:

— Маша! Маша!..

— О, свента Марыя! — пачулася ў трубцы.

— Ага, мне, калі ласка, Марыю, Марыю Філатаўну, маю жонку.

— У нас няма Марыі Філатаўны. О, матка Боска!

Адчуўшы, што з ім гавораць па-польску, Шамякін спытаў:

— А куды я трапіў?

— То ест Мінск-Мазавецкі, — адказалі.

— А мне трэба Мінск беларускі, — расчаравана адказаў Іван Пятровіч.

### РЫГОР ЗБІРАЕЦЦА Ў АМЕРЫКУ

Рыгор Барадулін не часта заходзіць у Саюз пісьменнікаў, таму запомнілася, як прыйшоў і пытае:

— Святлейшы ў сябе?

Ці не з лёгкай рукі Рыгора Іванавіча быў узведзены калегамі ў гэты высокі тытул сакратар нашага саюза пісьменнік Іван Гаўрылавіч Чыгрынаў.

— У сябе, — адказаў я.

— То пайшлі разам.

Адчуваючы, што Рыгор нешта задумаў, іду з задавальненнем.

Іван Гаўрылавіч сустрэў Рыгора Іванавіча цікаўным позіркам, у якім адчувалася гатоўнасць дапамагчы. Грыша пачынае журыцца:

— Толькі вы можаце памагчы мне, Іван Гаўрылавіч, больш няма да каго звярнуцца. Хіба хто паможа, акрамя вас. Пасылаюць у Амерыку, а ўжо спаць не магу. А вы ж маеце вопыт, працавалі ў ААН.

— Слухаю цябе, Рыгор, — Іван Чыгрынаў адчуўшы, што Рыгорава справа не з цяжкіх, вальяжна рассеўся ў сакратарскім крэсле.

— Кажуць, калі прыедзеш у тую Амерыку, то трэба адразу класціся спаць?

— Праўда, Рыгор, праўда, бо тут ноч, а там дзень. Другі пояс, сур'ёзна тлумачыць яму Іван Гаўрылавіч. — Трэба легчы і заснуць, каб увайсці ў той геаграфічны рэжым.

— Вось, цяпер я, нарэшце, зразумеў, так-так, — ківае галавой Рыгор. — Яшчэ адно пытанне, з-за якога я не магу заснуць. Я чуў, калі ў Нью-Йорку спыняць на вуліцы рабаўнікі, то не трэба лезці ў кішэню.

— Ні ў якім разе, бо яны могуць падумаць, што ты палез за пісталетам і тады апярэдзяць цябе.

— А як жа грошы ім аддаць? — хвалюецца Рыгор.

— Ты спакойна стой, яны самі ўсё зробяць, — навучае больш вопытны сакратар праўлення менш вопытнага пісьменніка.

— Дзякуй, дзякуй, Іван Гаўрылавіч за падказку. Цяпер я ведаю, як сябе там паводзіць і спакойна магу тут спаць. А то ўсё яшчэ вагаўся, ехаць у той Нью-Йорк ці не ехаць.

— Ехаць, Рыгор, ехаць, — пачуў ён ад Чыгрынава.

Рыгор паехаў. А неўзабаве там усплыла новая неспадзяванка. У Нью-Йорку, на авеню, ён нечакана для сябе, сустрэў Уладзіміра Карызну. І хоць побач галоўнага кансультанта Івана Гаўрылавіча не было, Рыгор не разгубіўся:

— Ты што тут робіш? Уцёк? Назусім?..

### "БЕЛЫ НАЛІЎ"

У Саюз пісьменнікаў прымалі новых сяброў. Абмеркавалі творчасць Сымона Белага, яго кнігу пра Якуба Коласа. Вырашылі ўключыць Сымона Белага ў спіс для тайнага галасавання. Затым прыступілі да Івана Карэнды, аўтара зборніка лірыкі "Белы наліў". Нехта з прысутных паспрабаваў даць характарыстыку паэзіі Карэнды, як Ніл Гілевіч, гартаючы яго кнігу, сказаў:

— А што тут абмяркоўваць. У спіс для галасавання Івана Карэнду можна загадзя ўключаць: ён жа напісаў, што ўжо Белы наліў нам.

### ЭКСПРОМТ БУРАЎКІНА

Канстанціна Ваншэнкіна прымалі ў нашым Саюзе пісьменнікаў. Ён прыйшоў разам з Генадзем Бураўкіным. На сустрэчу крыху запазніўся Сяргей Законнікаў. Як толькі ён увайшоў у кабінет, Бураўкін прывітаў яго:

***Была доўгая дарога,***
***Затрымаўся лімузін.***
***Беззаконнікавых многа,***
***А Законнікаў — адзін.***

### ЯК ХУТЧЭЙ НАВУЧЫЦЬ КУПАЦЦА

Супала аднойчы мне быць у доме творчасці "Іслач" разам з Алесем Пісьмянковым і Анатолем Зэкавым. Штодня яны хадзілі на рэчку: Алесь купаецца, Анатоль сядзіць на беразе, курыць, у халодную ваду не лезе.

— Слухай, — кажа Алесь, — што ты за мной толькі ходзіш услед, а не купаешся. Можа, табе пляшку паставіць, каб ты акунуўся?

— А ў цябе ёсць? — абрадаваўся Зэкаў.

— Калі акунешся, ёсць, — адгукнуўся Алесь.

Анатоль нагнуўся, крануў рукой ваду і нясмела зайшоў у рэчку па калені, тады прысеў.

— Бачыш, акунуўся, — усклікнуў ён.

Акунуўся ці не, але адно месца падмачыў, таму Алесю давялося пляшку з ім распіць.

Назаўтра зноў ідуць на рэчку. Алесь купаецца, Анатоль па-ранейшаму сядзіць на беразе, курыць.

— Слухай, лезь у ваду, што ты сядзіш? — гукае Алесь.

— А што, у цябе і сёння пляшка ёсць? — усхапіўся Анатоль.

### ГОРШЫ ПІСЬМЕННІК

Алесь Пісьмянкоў прыехаў у родную вёску са сваім сябрам Анатолем Зэкавым. Намерыліся Алесевым бацькам дапамагчы.

— Якія з вас памочнікі? — замахаў рукамі бацька. — Гуляйце, а я праедуся, возік саломы прывязу.

Аднак Анатоль настаяў паехаць разам.

— Хочаце прагуляцца, давайце, — пагадзіўся стары.

Прыехалі на месца. Таптаць салому палез на воз Алесь. Таптаў, таптаў, пакуль бацька ні сказаў:

— Злазь, таптун, я лепей сам. А то вунь як зваліцца пасярод вуліцы, — сораму не абярэшся.

— А можа, я? — напрасіўся Анатоль.

Бацька не мог запярэчыць госцю:

— Давай, адзін ужо нарабіў.

Воз расце. Толя стараецца. Стары тымчас заўважае:

— Цяпер відно, што ты горшы пісьменнік, чым мой хлопец.

Алесь схамянуўся:

— Як гэта горшы?

Бацька:

— Воз добра стаптаў, не раўня табе.

### ХТО НАРОДНЫ

Ехаў я з Алесем Ставерам на выступленне ў школу. Алесь і кажа:

— У нас званні народных пісьменнікаў дае дзяржава. Але не кожны народны вядомы ў народзе. А вось мяне людзі на Беларусі ведаюць. Як зойдзем у школу, я табе дакажу.

У вялізнай прасторнай зале сабраліся старшакласнікі. Алесь звярнуўся да іх:

— Ці ведаеце вы песню "Жураўлі на Палессе ляцяць"?

Падняўся лес рук.

— Гэта я напісаў яе словы, Алесь Ставер.

І да мяне:

— Вось, бачыш, як мяне ведаюць, і гэта ўсюды. Я — сапраўдны народны паэт!

### ДЫПЛАМАТЫ ЎСТАЛІ...

Па заканчэнні працы Уладзіміра Скарынкіна над перакладам "Боскай камедыі" Дантэ на беларускую мову, у Доме літаратара адбыўся вечар, на якім прысутнічалі італьянскія дыпламаты. Вечар меў і своеасаблівы працяг: слова беларускім пісьменнікам давалі яшчэ і за сціплым бяседным сталом. Калі чарга дайшла да мяне, то Алесь Пісьмянкоў, ведаючы, што ў Саюзе пісьменнікаў я займаюся міжнароднымі літаратурнымі сувязямі, жартам аб'явіў: "Слова мае наш міністр замежных спраў". Як толькі я ўстаў, італьянскія дыпламаты таксама падхапіліся. Давялося тлумачыць гасцям у тоне, абраным маім малодшым сябрам: "Я то міністр замежных спраў, але ўсяго толькі Саюза пісьменнікаў".

Дыпламаты тут жа селі.

ПЛЯТКАРНЯ

# Кажуць, што...

●

Па чутках ад грамадзян, якія маюць перапіску з далёкім замежжам, у апошнія часы яны не могуць дачакацца адтуль адказу. Лісты не то асядаюць у "адстойніку" нейкага таемнага ведамства, не то чакаюць сваёй чаргі на перлюстрацыю. Праз гэтыя чуткі міжволі ўзнікае пытанне: ці не пачала ў нас кавацца беларуская "жалезная заслона"?

●

Па чутках з месцаў зняволення каля двух месяцаў знаходзіцца ў Гродзенскай турме паэт і бард Андрэй Мельнікаў, які следам за Паўлам Шараметам таксама перайшоў беларуска-літоўскую мяжу. У адрозненне ад Шарамета, Мельнікава затрымалі не нашы, а літоўскія пагранічнікі. З гэтага вынікае, што, магчыма, затрымалі не беспадстаўна, таму пра гэта і не абазвалася ні разу ні залежная, ні незалежная прэса. А падтрымкі расійскага прэзідэнта, па чутках з Масквы, Мельнікаў не мае.

●

Па чутках з БНФ, у кіраўніцтве народным фронтам працягваецца перадзел улады. Бо што рабіць намеснікам, калі адсутнічае старшыня? Найбольшы поспех нібыта мае В. Сіўчык. Ці не ў сувязі з усім гэтым Л. Баршчэўскі прызнаўся, што "ненавідзіць палітыку"?

●

Па чутках з юбілейных колаў, слаўна адгуляўся юбілей пісьменніка Мікалая Чаргінца. Была вечарына, было багатае застолле, на якім разлівалі афіцыянткі і, кажуць, без разгону, бо прытрымлівалі для сваіх патрэб. Сярод гасцей заўважаны тры намеснікі С. Лінга. Саюз пісьменнікаў таксама быў прадстаўлены на ўзроўні трох намеснікаў і прафкама. Старшыні СП альбо ніхто не заўважыў, альбо яго зусім не было.

●

У літаратарскіх колах ходзяць чуткі, што герой публікацыі "Поэт уходит" у газеце "Свободные новости" ідзе не куды-небудзь, а на працу ў Саюз пісьменнікаў. Няйначай, яшчэ адным намеснікам... А паэт Леанід Дранько-Майсюк названы ў матэрыяле "Поэт уходит..." дзеля канспірацыі Валерыем, надумаў займець яшчэ і канспіратыўнае прозвішча, перакінуўшы Дранько праз дэфіс за Майсюка...

●

Па чутках з БДУ, студэнты працягваюць пратэставаць супраць узросшага кошту навучання для платных груп. Перш ладзілі пікеты, пасля перакінуліся на збор подпісаў. Падпісаліся не толькі "платнікі", але і "бюджэтнікі", што не спадабалася начальству. З гэтай нагоды быў скліканы сход, але на яго з 70-ці "падпісантаў" журфака з'явілася ўсяго 6 чалавек. Цяпер ад кожнага парушальніка дысцыпліны патрабуецца тлумачальная цыдулка на імя рэктара. З тлумачэннямі, хутчэй за ўсё, можа быць тое самае, што і са сходам...

Марцін КОЎЗКІ

# Доля праўды

Майстроў экрана бэсцілі па Жданаву, цяпер вітаюць новае кіно. Няма тут анічога нечаканага: яны ўсё тыя ж — не ідуць на дно. Агідныя прыслужнікі заганнага, ды шчэ маячыць цень самога Жданава.

●

Дзівосы (паводле Фазіля Іскандэра). Дзівосы веры і бязвер'я мнагалікія, адна ў другім пільнуе свой улоў. І той жа камунізм не болей чым рэлігія атэістычна мыслячых галоў.

●

— Нясцерпны твой здзек, — гавораць з дакорам. А для мяне гэта гонар, а не сорам. Іду ад фальклору, услед за фальклорам, і буду шчаслівы, як стану фальклорам. Абарона чалавека — патрабаванне века, і крыўдны мой здзек — ці не ў абарону чалавека?

●

У краму заскакваю пасля працы. Мяне сустракае плакат: "Пакупнік заўсёды мае рацыю". Калі на паліцах не ставала тавару, і плакаты былі адпаведныя: "Пакупнік і прадавец, будзьце ўзаемна ветлівымі". А якімі плакатамі адгукнецца кааперацыя на безупынны рост інфляцыі? Маўчыць пакуль што наглядная агітацыя.

●

Завяшчанне. Надрукуйце дачасна на мяне некралог, раскажыце, сябры, як мяне любілі, каб шчэ да таго, як спачыць у магіле, я вам аддзякаваць мог.

●

Выраслі дзеткі, паехалі з дому, разляцеліся па ўсіх накірунках. І ўжо іх імёны добра знаёмы, і партрэты на стэндах... ля пастарункаў.

●

— Міліцыянты на ўсіх прыпынках, з замежнымі тэлефонамі і дубінкамі. — Няпраўда, дубінкі ў нас айчынныя, вырабленыя на Бабруйскім шынным, можам нават у іншыя краіны. А што мафіёзі кругом запанавалі, дык каб яны як маніфестанты выступалі, з плакатамі, выклікамі, адкрыта, а то ўсё шытакрыта, праніклі аж у вышэйшыя сферы, не ведаеш, каго хапаць, каму колькі дубінак адмерыць. А што міліцыянт можа зрабіць, як не хапаць, валачы і біць?




ЗАСНАВАЛЬНІКІ

**Саюз беларускіх пісьменнікаў; рэдакцыя газеты "Літаратура і мастацтва"**

**ВЫХОДЗІЦЬ З 1932 ГОДА**



**АДРАС РЭДАКЦЫІ:**
220005, Мінск, вул. Захарава, 19

**ТЭЛЕФОНЫ:**
прыёмная рэдакцыі — 2332-461
намеснікі галоўнага рэдактара — 2332-525, 2331-985
**АДДЗЕЛЫ:**
публіцыстыкі — 2332-525
пісьмаў і грамадскай думкі — 2331-985
літаратурнага жыцця — 2332-462
крытыкі і бібліяграфіі — 2331-985
паэзіі і прозы — 2332-204
музыкі — 2332-153
тэатра, кіно і тэлебачэння — 2332-153
выяўленчага мастацтва, аховы помнікаў — 2332-462
навін — 2332-462
мастацкага афармлення — 2332-204
фотакарэспандэнт — 2332-462
бухгалтэрыя — 2682-667



**Набор і вёрстка камп'ютэрнага цэнтра тыднёвіка "ЛіМ"**

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах

Друкарня "Беларускі Дом друку" (г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 77)

Індэкс 63856.
Наклад 5647
Нумар падпісаны ў друк 23.10.1997 г. у 17.30.
Рэгістрацыйнае пасведчанне № 715
Заказ 6248/Г

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12